27 лістапада 2020 | № 45 (704)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

Літаратурная Беларусь стар. 7–18

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Фота www.tut.by

# Эфект выканаўцы

Аксана КОЛБ

**Зрэзаць бел-чыровона-белыя стужкі з плота, спілаваць дрэва, на якім вывешваюць сцяг, скрасці чужую вопратку, бо яна «няправільнага колеру», раскідаць знічкі, звольніць нязгодных, адлічыць свавольных... Збіць, пасадзіць за краты, забіць... Забараніць спяваць, думаць, дыхаць...**






Фота www.tut.by

Барацьба з колерамі, сімваламі, з нязгоднымі, з праўдай. Барацьба з дабром і салідарнасцю. Гэта не сюррэалістычная будучыня — гэта наша рэчаіснасць.

Ля Фаніпаля спілавалі дрэва, бо раз за разам на ім з'яўляўся нацыянальны сцяг. Наўпрост з балкона адной з мінскіх кватэр зніклі белыя і чырвоныя майткі. У мікраараёне Усход у Мінску зрэзалі мясцовую славутасць — эйфелеву вежу, бо стаміліся зафарбоўваць.

Калі вывозілі кветкі і лампадкі з Плошчы Перамен, Уладзімір Бейшэр, кіроўца УП «Рэмаўтадар Цэнтральнага раёна», адмовіўся гэта рабіць, адмовіўся і яшчэ адзін кіроўца. А можа, і не адзін. На наступны дзень Уладзімір напісаў заяву на звальненне.

Здымаць сцягі пагаджаецца не кожны выратавальнік, шмат іх звольнілася. Не кожны муляр замалёўвае Пагоню. Не думаю, што лёгка знайшлі таго, хто згадзіўся зрэзаць вентыль для Новай Баравой.

Аднак дзень за днём на вуліцы краіны выходзяць сотні простых выканаўцаў з фарбамі і пэндзлямі, з піламі, нажніцамі, сякерамі, зварачнымі апаратамі і яшчэ шмат з якім інструментам. Дзень за днём яны выконваюць бязглуздыя незаконныя распараджэнні сваіх начальнікаў, а тыя — сваіх начальнікаў, а тыя — сваіх. І нібыта ніхто не вінаваты.

«А што я магу зрабіць? Я чалавек паднявольны. Мяне ж звольняць, не выпішуць прэмію, не працягнуць кантракт», — апраўдваюцца выканаўцы і ідуць фарбаваць, зразаць, пілаваць. Ніхто з іх нават на секунду не задумаўся, а што ж сапраўды адбудзецца, калі ён адмовіцца — калі ўсе адмовяцца! — выконваць бязглуздыя загады.

Усё, што адбываецца сёння ў краіне, вынік ужо не выбрыкаў Лукашэнкі. Гэта вынік баязлівасці і бязглуздасці выканаўцаў. Выканаўцаў на розных узроўнях і ў розных сферах, выканаўцаў з цёплых кабінетаў і халодных цэхаў. Яны штодзень прыдумваюць дзясяткі апраўданняў сваёй баязлівасці, і кожны раз з зайздрасцю глядзяць на тых, хто не шукаў апраўданне, а проста сказаў: «Не, я не буду гэта рабіць». Гэта так проста — сказаць «не». Не трэба ісці пад кулі і дубінкі, не трэба наогул нічога рабіць. Сістэму разваліць менавіта «не»: не буду здымаць, не стану звальняць, не збіраюся парушаць закон, не хачу хлусіць, не магу збіваць. Не буду страляць!

«Беларускі парадак» трымаецца сёння толькі на баязлівых выканаўцах. І кожны раз, калі хтосьці з сумленных людзей адмаўляецца выконваць бязглузды загад, мы становімся на крок бліжэй да новай Беларусі. Бо калі твае загады масава сабатуюцца — ты становішся нікім. У якой бы рэзідэнцыі і пад якой бы аховай ні знаходзіўся.

# «Медыцыну давялі да такога стану, што ўжо канец»

**16 лістапада каля 5 тысяч беларускіх медыкаў падпісаліся пад зваротам да ўладаў. У выпадку невыканання патрабаванняў яны пагражаюць звольніцца. Адзін з падпісантаў ліста расказаў «Свабодзе», чаму гэта зрабіў.**


Фота t.me/belhalat_by

Суразмоўца, які папрасіў пра ананімнасць, мае больш за 16 гадоў стажу. 12 гадоў адпрацаваў лекарам хуткай дапамогі ў Мінску, затым быў намеснікам галоўнага ўрача ў раённай бальніцы. У сувязі са жнівеньскімі падзеямі звольніўся. Цяпер зноў працуе лекарам на «хуткай», але ўжо напісаў новую заяву на звальненне.

### «Не хацеў спрыяць хлусні адміністрацыі»

«Я пачаў гаварыць праўду і выконваць сваю працу так, як гэта неабходна рабіць, — расказвае лекар пра сваё жнівеньскае рашэнне аб звальненні з кіраўнічай пасады. — Гэта тычылася і статыстыкі па смяротнасці, і іншых рэчаў. Адміністрацыю гэта не задаволіла, нашы інтарэсы пайшлі ўразрэз. Але можна сказаць, што ўсё гэта пачалося яшчэ раней, з вясны. Калі афіцыйная статыстыка па каронавірусе пачала, скажам так, не адпавядаць рэчаіснасці».

Лекар кажа, што яшчэ ў красавіку смерці ад каронавіруса арганізавана спісваліся на спадарожную захворванню паталогію. Ён кажа, што гэта ўжо адпрацаваная ў Беларусі схема. Тое самае, напрыклад, тычыцца і смерцяў ад анкалогіі. Яны часта спісваюцца на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы ды іншыя.

«Мне гэта было непрыемна, — кажа лекар. — Я як намеснік галоўнага ўрача нёс за гэта адказнасць. А летам усё пачало нарастаць. Я для сябе вырашыў, што больш не буду гэтага рабіць. Што не хачу спрыяць хлусні з боку адміністрацыі. Расказаў пра гэта сваім супрацоўнікам, яны мяне падтрымалі. Кантракт у мяне быў да канца года, мы дамовіліся разарваць яго па згодзе бакоў».

### «Па дакументы для пацвярджэння дыпломаў прыходзяць 5–6 чалавек штодня»

Па словах суразмоўцы, у бліжэйшыя два месяцы ён павінен вырашыць, ці заставацца ўвогуле жыць у Беларусі. Працаваць у сферы медыцыны тут, калі ў краіне не адбудуцца важныя змены, яму будзе складана.

«Я пастаянна размаўляю з калегамі з майго патоку па ўніверсітэце, — кажа лекар. — Шмат хто з іх не мае намеру заставацца тут. У Беларусі цяпер няма ўмоваў для таго, каб працаваць. Шмат хто з медыкаў таксама непакоіцца пра сваю бяспеку і пра бяспеку сваёй сям'і. Бо калі выкрадаюць урача проста з працоўнага месца, гэта як разумець? І я не перабольшваю, гэта гісторыя доктаркі з мінскага абласнога шпіталя, якая пайшла на прыём да пацыенткі і не вярнулася дадому. Альбо калі побач са шпіталямі затрымліваюць лекараў? Пра якую бяспеку можна гаварыць?»

Урач кажа, што лекары не бачаць у Беларусі будучыні ні для сябе, ні для сваіх сем'яў. Прычым гэта ўжо не толькі размовы, але і канкрэтныя дзеянні.

«Нядаўна я быў ва ўніверсітэце, мне ў вучэбным аддзеле сказалі, што 5–6 чалавек штодзень прыходзяць па дакументы, неабходныя для пацвярджэння дыпломаў за мяжой, — расказвае суразмоўца. — Гэтыя дакументы патрэбныя для эміграцыі. Выпіска з адзнакамі, планы вучобы і інтэрнатуры. Гэта ўсё разглядаецца ў еўрапейскіх краінах. Недастаткова проста пацвердзіць дыплом, неабходна яшчэ пацвердзіць гадзіны вывучэння пэўных дысцыплін. Калі іх не хапае, то прызначаецца дадатковае навучанне. І вось шмат хто цяпер акурат гэтым усім займаецца».

Па словах лекара, у прыярытэце сярод ягоных калегаў цяпер Польшча, бо гэтая краіна спрасціла працэдуру пераезду для лекараў з краін, якія не ўваходзяць у ЕС. Гэтаму спрыяе і падабенства моваў. Не кожны наважыцца ў сталым веку пераязджаць у нямецка- або франкамоўную краіну, дзе ведаць дзяржаўную мову на высокім узроўні — абавязковая ўмова, каб працаваць па прафесіі.

Лекар кажа, што гульні са статыстыкай у беларускай медыцыне пачаліся не з каронавіруса. Па словах суразмоўцы, гэта звычайная справа.

«Прыклады простыя, — кажа ён. — Чалавек хварэе на анкалогію. 3–4 стадыя, за 70 гадоў. Яго кладуць у стацыянар. Там чалавек памірае. Прычына смерці — сардэчна-сасудзістая. Зразумела, што памёр ён ад раку. А галоўны ўрач кажа, што не, што прычына смерці — сэрца, хаваць яго трэба з адпаведнай пазнакай. Калі ўпісаць анкалогію, гэта будзе негатыўна адбівацца на галоўным урачы. Гэта ўсё адбываецца ў любым стацыянары краіны, усе пра гэта ведаюць. Тое самае тычыцца і смяротнасці ад інфарктаў. Усё хаваецца, каб смяротнасць ад інфарктаў не перавышала пэўных значэнняў».

### «Прыйшоў міліцыянт у бальніцу і патрабаваў прыняць яго без чаргі»

Па словах суразмоўцы, асаблівая сітуацыя склалася з каронавірусам. Пасля веснавой хвалі ў медыкаў былі надзеі, што ўлады адумаюцца і падыдуць да праблемы больш сур'ёзна. Але гэтага не адбылося.

«Мінздароўя працягвае нахабна хлусіць, — кажа лекар. — Можна параўнаць статыстыку смяротнасці за суткі, вясной і цяпер. У еўрапейскіх краінах за суткі памірае 600–700 чалавек. А ў нас 5–6. Апошнім часам пачалі 7 пісаць. У адной ЦРБ па Мінску за суткі назбіраецца больш за 40 чалавек, якія памерлі ад каронавіруса. У Мінску 5–6 такіх шпіталяў. Статыстыка па ўсёй краіне заніжаная ў дзясяткі разоў».

Па словах суразмоўцы, такая хлусня прывяла да таго, што цяпер у Беларусі значна большая захворвальнасць на COVID-19, чым магла б быць. Людзі проста не адчувалі небяспекі і паводзілі сябе неадпаведна, не трымаліся рэжыму.

«Медыкаў абураюць таксама паводзіны супрацоўнікаў сілавых структураў, — дадае ён. — Нядаўна ў Брэсце прыйшоў міліцыянт у бальніцу і патрабаваў прыняць яго без чаргі. З якой нагоды? Людзі ўсе роўныя. Ты прыйшоў у паліклініку, ты звычайны пацыент. Чакай. Ніякіх перавагаў у яго няма, ніводзін сілавік у паліклініцы іх не мае. А яны ўжо гэтым нават абураюцца. Лекары таксама баяцца такой рэакцыі. Баяцца, што гэта можа адбіцца на іх працы».

### «Нам ужо няма чаго губляць»

Па словах лекара, да таго, што медыкі сёння сталі фактычна асобнай шматлікай групай пратэстоўцаў, прывёў шэраг прычын.

«Усё наклалася, пачынаючы з каронавіруснай інфекцыі, — кажа суразмоўца. — З хлусні пра яе. Калі б Мінздароўя паказала праўдзівую статыстыку, то людзі б больш сур'ёзна паставіліся да гэтага. Заняткі ў школах можна было б адмяніць. Мы бачым, што з пачаткам навучальнага года ўсплёск чарговы.

Неапраўдана высокі ўзровень гвалту з боку праваахоўнікаў моцна паўплываў. І ў дачыненні да простых мірных грамадзян, і ў дачыненні да медыкаў таксама. Я цяпер насамрэч проста баюся ісці па вуліцы, мае родныя таксама. Гэта ўжо канец, мы не можам больш маўчаць.

Вось апошні выпадак, калі затрымалі нашага калегу са шпіталя хуткай медычнай дапамогі. За тое, што ён проста апублікаваў праўду (гаворка пра лекара, які расказаў пра нулявы ўзровень алкаголю ў крыві загінулага Рамана Бандарэнкі. — РС). А кіраўніцтва краіны працягвае хлусіць. Лекар мае права прадстаўляць інфармацыю аб стане пацыента альбо з яго згоды, альбо са згоды родных. Маці Рамана сама перадала журналістам усе даведкі аб аналізах. Каб усе зразумелі, хто хлусіць».

Лекар перакананы, што дзеянні медыкаў і надалей будуць салідарнымі. Яны збіраюцца заступацца за кожнага затрыманага калегу.

«Нам ужо няма чаго губляць, — кажа лекар. — Медыцыну давялі да такога стану, што ўжо ўсё, канец. Лекарам надакучыла быць рабамі. Любы цяпер можа прыйсці, паскардзіцца на ўрача, і ўрач будзе вінаваты. Адміністрацыя ў большасці выпадкаў займае пазіцыю "пацыент заўсёды мае рацыю". Але гэта не заўсёды так. Мы за шчырасць выступаем, і мы салідарныя з народам цяпер. У маім калектыве вельмі шмат хто настроены негатыўна ў дачыненні да ўлады. Але звольніцца або адкрыта пратэставаць усе не могуць. У кагосьці жыллё, у некага крэдыты. Звольніцца, калі ты жывеш у малым горадзе, лекару складана. Дзе ён яшчэ знойдзе там працу? З'ехаць таксама далёка не кожны можа. Гэта дадатковыя выдаткі. Шмат хто за родных сваіх баіцца. Але настроі ва ўсіх ужо крытычныя. Звальненні — гэта наш апошні крок. Апошні спосаб звярнуць увагу на нашы праблемы».

### «Страшна ўявіць, што можа адбыцца з медыцынай»

Па словах суразмоўцы, нікуды не падзеліся і праблемы з даплатамі за працу з каронавіруснымі хворымі. Ён кажа, што ўзнікаюць складанасці з тым, каб якасна даказаць гэта. Аналізы не заўсёды робяцца на неабходным узроўні. У выніку аплата ідзе, але далёка не ўсім медыкам, якія насамрэч працавалі з выпадкамі COVID-19. Асобна можна ўздымаць пытанне ўрачоў-інтэрнаў, якіх змушаюць працаваць у каронавірусных зонах. Ім дадаткова ўвогуле не плацяць, бо яны не ўрачы, а ў адпаведным указе гаворка толькі пра даплаты для ўрачоў. У выніку інтэрны могуць атрымліваць дадатковыя аплаты толькі тады, калі адміністрацыя лякарняў знаходзіць спосаб неяк іх узнагародзіць. Гэта здараецца не заўсёды.

«Што павінна адбыцца, каб я не звольніўся? Гвалт трэба спыніць, — кажа лекар. — Павінна змяніцца сістэма ўлады. Усё тое, пра што мы пісалі ў сваім лісце, які падпісалі 5 тысяч медыкаў. Гэта адстаўка Лукашэнкі, прыцягненне ўсіх вінаватых да адказнасці. Каб людзі маглі нармальна хадзіць на працу, нармальна спаць. Каб не баяліся за сваіх дзяцей. Аплату працы лекараў неабходна зрабіць дастатковай. У суседніх краінах яна ў разы большая. А ў нас на сустрэчы з лекарамі Дзмітрый Піневіч (выканаўца абавязкаў міністра аховы здароўя. — РС) прызнае гэта, але як можна падвысіць заробкі, не кажа. Іх увогуле мала хвалюе ад'езд лекараў з Беларусі».

Па словах суразмоўцы, нават тыя медыкі, якія падпісалі зварот, у асноўнай масе не хацелі б звальняцца. Але могуць быць вымушаныя гэта зрабіць.

«Гэта будзе катастрофа, — разважае пра наступствы магчымага звальнення тысяч медыкаў суразмоўца. — Большасць лекараў і так працуе на 1,5–2 стаўкі. Спецыялістаў не хапае. Да таго ж шмат хто з урачоў цяпер — пенсіянеры. Калі яны сыдуць, а яны паступова сыходзяць, іх не будзе кім замяніць. Маладымі не атрымаецца, бо калі малады ўрач прыходзіць, ён яшчэ не спецыяліст, спецыялістамі становяцца гадамі. Доктар, які толькі пасля ўніверсітэта, шмат памыляецца. Ён павінен вучыцца ў дасведчаных лекараў. Калі будуць з'язджаць граматныя лекары, а з'язджаюць, як правіла, такія, то мне нават страшна ўявіць, што можа адбыцца з медыцынай».

www.svaboda.org

# «Адзін хрыпеў, што праз такіх, як я, яны дзяцей не бачаць»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Выйшаў на 15 хвілін — трапіў на 10 сутак. Мінскі гід-перакладчык, паэт, аўтар праекта «Менскі велашпацыр» і саліст гурта «Гарадскі вал» Раман Абрамчук распавёў «Новаму Часу» пра тое, як стаў «дарадцам НЕХТА», правёў акрэсцінска-жодзінскае турнэ і якім бачыць развіццё пратэставага руху.**




Фота Яны Трусіла

Рамана затрымалі ўвечары 13 кастрычніка, калі ён выйшаў на ланцуг салідарнасці ў сваім раёне.

— Было забаўна: перад гэтым я быў у арт-вёсцы, у вельмі прыгожым месцы з вельмі цікавымі людзьмі. Вярнуўся, сказаў жонцы: я на 15 хвілін. Нічога з сабой не ўзяў, выйшаў даволі лёгка апрануты. Пастаяў хвілін 10. Пад'ехалі два бусы, усе пабеглі. Я быў перакананы, што ў нас перавага ў часе, і я спакойна ўцяку.

Але разлік не спрацаваў. Відаць, у дварах была засада: выбеглі з трох бакоў, Рамана і яго суседзяў павалілі на зямлю і сталі збіваць. Адразу разбілі нос. Двое заламалі рукі і павялі ў бус. Крычалі, каб ні на кагочне глядзеў, тулава прыгнулі так, каб яно было паралельна зямлі. Рукі сцягнулі будаўнічай сцяжкай і патузалі яе, здзёршы скуру да крыві. Тыя сляды на руках Рамана яшчэ не да канца загаіліся.

У бусе забралі тэлефоны.

— Перад гэтым была абвестка, што Apple выдаліць тэлеграм-каналы, якія дэананімізавалі сілавікоў, і прапаноўвалі падтрымаць іх падпіскай. Я на ўсе падпісаўся. І калі ўсё гэта ўбачылі, пачалі біць. У мяне знайшлі, што я ў НЕХТА адпраўляў паведамленне кшталту «Сціпан, стала — пройгрышны варыянт, там усё адпрацавана, давай збірацца ў іншым месцы». І мне прыйшоў адказ «Спасибо, ваше сообщение принято». Я не ведаю, ці яны настолькі дурныя, што не разумеюць, што гэта аўтаматычнае паведамленне. Але мне сказалі: «Ах, ты ещё и переписываешься с ним!» Напісалі маркерам на руцэ «советчик НЕХТА» — і за гэта білі. Чамусьці яшчэ крычалі, што я супрацоўляюся, і ў РУУСе адразу сказалі пра гэта.

Тыя паўгадзіны, якія прайшлі ад моманту затрымання да РУУСа, Раман згадвае як самыя страшныя. Бо, апроч збіцця, была абсалютная невядомасць.

У РУУСе завялі ў сутарэнне і паставілі на расцяжку: максімальна развёўшы ногі і ўзняўшы ўгару рукі, павярнуўшы іх тыльным бокам да сцяны.

— Я глядзеў на ногі: калі ля мяне былі трэнікі і красоўкі тых, хто затрымліваў, — усё, максімальна сціскаешся, бо будуць біць. А калі звычайныя міліцэйскія боты і штаны — то стаіш спакойна.

Больш за тое, калі Раман спытаў у міліцыянта, ці можна апусціць рукі, той дазволіў трымаць іх за спінай. Пасля гэтага тыя, што ў трэніках, Рамана не чапалі, хаця на астатніх крычалі.

На яго склалі два пратаколы: за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, з якім Раман пагадзіўся часткова (удзельнічаў, але лозунгаў не выкрыкваў), і за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі, з якім суразмоўца не пагадзіўся.

Некалькі разоў падыходзілі перапісваць даныя, двойчы вадзілі ў актавую залу і здымалі на камеру. Запытвалі ўсю інфармацыю пра Рамана і яго сямейнікаў, пра тое, адкуль ён даведаўся пра акцыю. Адзін з тых запісаў пасля паказалі ў эфіры дзяржтэлебачання.

— Аднойчы вывелі ў калідор, і там была нейкая група, падобная на ГУБАЗіК. Яны спыталі ў мяне: «Будзеш яшчэ хадзіць?» Я адказаў: «Дасць Бог смеласці — буду». І адзін з іх, дарэчы, без маскі, сказаў: «О, малайчына, праўду сказаў».

У Рамана склалася ўражанне аб поўнай рассінхранізацыі дзеянняў міліцыянтаў. Яны па некалькі разоў запытваліся адно і тое ж, сварыліся паміж сабой і ўвогуле працавалі без энтузіязму.

— Адзін нават у бусе хрыпеў мне ў вуха, што праз такіх, як я, яны дзяцей па вечарах не бачаць.

Раман заўважыў, што мэтанакіраваная агрэсія, як і спагада, у гэтай сістэме сустракаюцца хутчэй як выключэнні. Пераважная ж маса проста выконвае сваю працу і не задаецца пытаннем — зло гэта ці дабро.

З РУУСа вязняў павезлі на Акрэсціна. У адсек аўтазака, разлічаны на дваіх, увапхнулі пецярых. Паветра не хапала, па дарозе Раману стала дрэнна. Хлопец з суседняга адсека, Эдуард, стаў яго падтрымліваць і патрабаваць дапамогі — за гэта яму на рукі надзелі кайданкі. Замест дапамогі Раман дачакаўся толькі крыкаў і пагрозаў збіцця.

У ізалятары Раману амаль не далі паглядзець, ці ўсе яго рэчы перадалі з РУУСа. Толькі праз нейкі час пасля вызвалення ён зразумеў, што зніклі ключы ад кватэры, але на якім этапе гэта адбылося — ён не ведае.

Ужо было за поўнач, калі арыштаваных завялі ў запоўненую камеру. Спаць давялося на вузкіх лавах. А раніцай Рамана вывелі з камеры і змясцілі ў карцар. З якой прычыны — ён так і не даведаўся.

— Там ужо ноч праседзеў Сяргей Маслоўскі (былы начальнік ДАІ Мінскай вобласці). Не было ніякай вады. Мы грукаліся ў дзверы і прасілі вывесці нас у прыбіральню, нам адказвалі: «Добра, чакайце», — і гэта цягнулася гадзінамі. Мы не ведалі, што адзіная магчымасць схадзіць у прыбіральню была ў камеры, без вады. Таксама хацелася піць, і толькі потым нехта — ці тое іншая змена, ці тое фельчар — даў нам бутэльку з вадой.

Праз стрэс, адсутнасць вады, пыл і духату ў карцары Раману стала дрэнна. Прыйшла фельчар, агледзела, сказала — будзе жыць, толькі папрасіла ў аховы адчыніць акенца.

У той жа дзень адбыўся суд. Перад гэтым на нейкія 5–7 хвілін вязняў з карцара перавялі ў іншую камеру, і за гэты час Раман паспеў памыць галаву і крыху прывесці сябе ў парадак.

— Я выглядаў даволі бадзёра і крыху супакоіўся, — зазначае Раман. — Суд быў па скайпе. Аказалася, што чалавек, які прывёў мяне ў кабінет суда, быў і сведкам. Я візуальна яго запомніў.

**Пабачыўшы карную сістэму знутры, Раман пераканаўся, што яна «ў напружанні», і нават дзесьці «відавочна абвальваецца». І яшчэ — там, як ні дзіўна, прысутнічае чалавечнасць**



EPA/UPG

Раман заявіў хадайніцтва аб адвакаце, з якім у яго была заключаная дамова, але не быў упэўнены, што яго знойдуць і дапусцяць да працэсу. Таму вельмі здзівіўся, калі адвакат з'явіўся і з ім атрымалася перамовіць. Больш за тое, знайшліся сведкі з боку Рамана.

Па выніку суда Раман атрымаў 10 сутак — па 5 за кожны пратакол, і зноў адправіўся на некалькі гадзін у карцар. Пасля на 1,5 сутак яго перавялі ў звычайную камеру, дзе было «пазітыўна» і «свае людзі», а затым — у Жодзіна.

Прымалі ў Жодзіна досыць агрэсіўна, але не білі. Першая камера, у якую трапіў Раман, была без ацяплення і з адчыненай фортачкай. Але на наступны дзень яго перавялі ў іншую камеру, дзе ўсё было ў парадку.

— Усё залежала ад ахоўнікаў: бывалі нармальныя, а бывалі тыя, хто наўмысна хаміў, уключаў у 6 раніцы на ўсю гучнасць гімн і прамову Лукашэнкі, крычаў пра адбой.

Самым складаным за час зняволення для Рамана стала невядомасць і адчуванне поўнай бяспраўнасці. Але трымацца дапамагалі людзі побач і думкі пра тое, што ты — не ў самым горшым становішчы, а таксама памяць пра палітвязняў, якія ўжо многія месяцы за кратамі.

— А яшчэ ўсе арыштаваныя сваёй падтрымкай ствараюць такое мікраасяроддзе, якое супрацьстаіць гэтаму беззаконню навокал. Калі мне стала дрэнна ў аўтазаку, хлопцы адразу памяняліся месцамі, трымалі мяне падчас язды бліжэй да адтуліны зверху, хаця самі стаялі ў абы-якіх паставах. І ў камерах усе падтрымліваюць, дзеляцца.

Але затрыманне і першыя дні зняволення, прызнаецца Рома, усё ж пакінулі свой адбітак. Ён стараецца хутчэй праходзіць праз месца, дзе яго затрымлівалі, прымае пэўныя захады перасцярогі. Але з часам, гаворыць суразмоўца, гэта праходзіць, да таго ж вельмі дапамагае падтрымка людзей, якая не заканчваецца.

Раману давялося сядзець з рознымі людзьмі — як з блізкага яму асяроддзя, так і з абсалютна далёкага, з якімі ў звычайным жыцці, магчыма, нават давялося б канфліктаваць. Але пры ўсім гэтым ёсць тое, што іх аб'ядноўвае, — прага пераменаў. І гэтае адчуванне — сапраўды народнага супраціву — з'явілася ў Рамана менавіта ў зняволенні.

З практычных парадаў суразмоўца раіць загадзя падрыхтаваць для сябе «трывожную торбу», каб блізкія потым маглі перадаць на суткі. І, апроч адзення і прадметаў гігіены, пакласці туды кнігі — іх Раману вельмі не хапала. Увогуле, перадачы — гэта нават не столькі рэчы, колькі сродкі сувязі з блізкімі і магчымасць пераканацца, што з імі ўсё ў парадку.

Яшчэ адна рэч, якую Рома вынес са зняволення, — каронавірус. Ён распавядае, што ў камеры ў Жодзіна з ім былі два хлопцы з тэмпературай, але ўрача ім не выклікалі двое сутак. Праз два дні пасля вызвалення Раман захварэў сам. Пазней высветлілася, што адзін з сукамернікаў губляў нюх.

Пабачыўшы карную сістэму знутры, Раман пераканаўся, што яна «ў напружанні», і нават дзесьці «відавочна абвальваецца». І яшчэ — там, як ні дзіўна, прысутнічае чалавечнасць. На пытанне, што з усім гэтым рабіць пасля перамогі, суразмоўца адказвае: ставіць на рэйкі законнасці.

— У нейкай сваёй усёмагутнасці гэтая сістэма мяне не пераканала. Але я б не стаў рабіць прагнозы наконт будучыні нашых пратэстаў. І ў Польшчы, і ў Сірыі ўсё пачыналася з мірных пратэстаў. У нас усё неяк вельмі інтэнсіўна, проста іначай. Але ці дакладна мы пераможам — я не ведаю. Бо ўладам нішто не замінае ў нейкі момант, калі ўжо нічога не застанецца, проста скінуць бомбу на самую актыўную кропку пратэстаў, знішчыўшы ўсё разам з людзьмі.

Нельга мяняць мірны характар пратэстаў, бо гэта адназначна ператорыцца ў сірыйскі варыянт, перакананы Раман Абрамчук. Але і аддаваць добраахвотныя чалавечыя ахвяры таксама не варта.

— Мне здаецца, цяпер трэба найперш думаць пра бяспеку людзей. Трэба, каб было як найменш ахвяраў, найменш збітых і затрыманых. За чалавека трэба змагацца. Наша сіла, магчыма, не ў размаху нейкай разавай акцыі, а ў пастаянстве і напорыстасці.

Пакуль што Раман не бачыць будучыні сваёй сям'і ў Беларусі і гаворыць, што яго жыццё цяпер — «сядзенне на чамаданах».

— Я не магу нічога інвеставаць у гэтую краіну — ні сіл, ні ідэй, ні грошай. Усё ў настолькі падвешаным стане, што не ведаеш, што будзе далей. Прафесіі ў мяне фактычна не засталося. Таму поўная няпэўнасць наконт будучыні. Калі тут усё будзе пераўтварацца ў Паўночную Карэю — я з'еду. Калі будзе магчымасць заставацца і нешта рабіць для пашырэння рамак свабоды — я застануся.

# Спецрасследаванне: што

**Частка I**

Дзяніс ІВАШЫН

**Байцы расфарміраванага ўкраінскага спецпадраздзялення «Беркут» стаялі плячом да пляча з баевікамі «Антымайдана». Ратуючы рэжым Януковіча, яны намагаліся патапіць абаронцаў Украіны ў крыві. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці шмат хто з іх не толькі ўцёк у Расію і акупаваны ёй Крым і частку Данбаса, але і ў Беларусь. У новым маштабным расследаванні мы падаем звесткі пра выяўленых экс-байцоў «Беркута» на службе ў абароне дыктатуры ў Расіі і Беларусі.**



**Байцы мікалаеўскага «Беркута» ў месцы сваёй сталай дыслакацыі. Сяргей Панасенка пазначаны лічбай 1, Мікалай Стагарняк — лічбай 2.** Фота InformNapalm

## Удакладненне ідэнтыфікацыйных даных

У выніку першага расследавання, праведзенага аўтарам у 2017 годзе, былі выяўленыя тры ўцекачы-«беркутаўцы» на службе ў беларускай міліцыі: Мікалай Стагарняк, Сяргей Гаўрыляк і Сяргей Панасенка. Усе яны з'яўляюцца байцамі АМАП ГУУС Мінгарвыканкама.

Падчас правядзення новага расследавання была не толькі пацверджаная сапраўднасць прозвішча фігуранта папярэдняга расследавання — Сяргея Панасенкі, — але нават высветлена яго поўнае імя, дакладная дата і месца нараджэння.



**Панасенка Сяргей Сяргеевіч (укр. — Панасенко Сергій Сергійович)**

Нарадзіўся 01.02.1988 г. у вёсцы Ганніўка Беразанскага раёна Мікалаеўскай вобласці УССР. Пражываў у вёсцы Уляніўка Мікалаеўскага раёна той жа вобласці. Пасля заканчэння тэрміновай вайсковай службы быў прыняты ў роту міліцыі асаблівага прызначэння (РМАП) «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. У лістападзе 2013 года ў складзе мікалаеўскага падраздзялення быў накіраваны ў Кіеў. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ўцёк у Беларусь. Ад рэжыму Лукашэнкі ён атрымаў грамадзянства і службу ў мінскім АМАПе.

Пасля публікацыі вынікаў папярэдняга расследавання Панасенка змяніў назву свайго акаўнта ў «VK» на «Сергей Чернобаев», выдаліў фотаздымкі і некалькі дзясяткаў кантактаў са спісу сяброў. Таксама скарыстаўся магчымасцю сацсетак зрабіць свой акаўнт прыватным і закрыў доступ да яго кантэнту. Аднак яго профіль цалкам захаваны ў сэрвісах веб-архіву. Усе выдаленыя ім кантакты былі знойдзеныя, што дазволіла выявіць яшчэ некалькі фігурантаў гэтага расследавання.

Сяргей Панасенка апазнаны на супольным фотаздымку, у якім зафіксаваны таксама фігурант папярэдняга расследавання, колішні «беркутавец» і баец мінскага АМАПа Мікалай Стагарняк.

На фота бачныя пагоны на абмундзіраванні Панасенкі, яны сведчаць пра прыналежнасць да сяржантаў. Меркаванае званне — старшы сяржант.

У выніку вывучэння адкрытых крыніц інфармацыі (OSINT) вызначана, што Сяргей Панасенка сведчыў на судовым працэсе супраць аднаго з лідараў нацыянальна-дэмакратычнага руху Беларусі Змітра Дашкевіча. 31 снежня 2016 года Дашкевіч быў затрыманы непадалёк ад свайго дома і дастаўлены ў аддзел Першамайскага РУУС Мінска. Паводле яго слоў, гэта адбылося без тлумачэння якіх-небудзь прычынаў з боку міліцыі. У той дзень Дашкевіч планаваў разам са сваімі паплечнікамі сустрэць Новы год у цэнтры Мінска пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

З улікам шматгадовай практыкі дзеяння рэпрэсіўнай машыны ў Беларусі, супраць грамадскіх актывістаў на судзе сведчаць міліцыянты, якія непасрэдна і здзяйснялі іх затрыманне. Згодна з пастановай справы пра адміністрацыйнае правапарушэнне, супраць Дашкевіча сведчыў менавіта Сяргей Панасенка, які давёў суду, што актывіст нібыта не падпарадкоўваўся законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ), у выніку чаго Дашкевіча асудзілі да штрафу ў 50 базавых велічыняў (1150 рублёў).

Характэрна, што падчас свайго затрымання Дашкевіч здзяйсняў відэафіксацыю, якая цалкам абвяргае словы Панасенкі.

Таксама вызначана, што Сяргей Панасенка непасрэдна ўдзельнічаў у фантасмагарычнай гісторыі з затрыманнем двух братоў, мінчукоў Аляксандра і Віктара Куўшынавых. Абодва асобна адзін ад аднаго 15 ліпеня 2020 года прыбылі да будынка ЦВК, каб падаць скаргу на нерэгістрацыю кандыдатаў у выбарчай кампаніі. Пасля таго, як прыём скаргаў быў спынены, Аляксандр Куўшынаў на ровары накіраваўся дадому, але не змог праехаць праз ачапленне на праспекце Незалежнасці, якое выставілі супрацоўнікі АМАПа. Ён быў затрыманы і змешчаны ў ІЧУ на вуліцы Акрэсціна.

Яго брат Віктар Куўшынаў быў затрыманы непадалёк ад будынка Галоўпаштамта, куды ён накіроўваўся, каб падаць скаргу па пошце пасля закрыцця Цэнтрвыбаркама. Абодва браты ў выніку аказаліся ў адным аўтазаку.

Цікава, што Панасенка, які затрымліваў Куўшынавых, першапачаткова давёў суду няслушнае месца іх фактычнага затрымання. Адлегласць паміж месцам (вуліца Мяснікова, 26), пазначаным ім у пратаколах адміністрацыйнага парушэння, і месцам фактычнага затрымання (праспект Незалежнасці, 11) склала ажно паўтара кіламетры. То-бок, Сяргей Панасенка за шэсць гадоў свайго знаходжання ў Мінску і службе ў шэрагах сталічнай міліцыі не вывучыў нават цэнтр беларускай сталіцы.

Справа была вернутая судом на дапрацоўку ў Маскоўскае РУУС Мінска, пасля гэтага Аляксандра і Віктара Куўшынавых асудзілі да 10 і 11 сутак арышту адпаведна. На ўсіх судовых пасяджэннях Панасенка адсутнічаў, паводле словаў камандзіра АМАП ГУУС Мінска Дзмітрыя Балабы, ён нібыта знаходзіўся ў камандзіроўцы па-за межамі Мінска, аднак нейкім чынам змог даць сведчанні пра памылку адносна месца затрымання братоў.

З матэрыялаў адміністрацыйнай справы вынікае, што ў дачыненні да Аляксандра Куўшынава ён прымяняў фізічную сілу. У справе маецца і пратакол апытання самога Сяргея Панасенкі.

Гэты дакумент дае факталагічнае пацвярджэнне не толькі выяўленых раней дакладных ініцыялаў і даты нараджэння Панасенкі, але і з'яўляецца дакументальным сведчаннем службы гэтага экс-байца «Беркута» ў шэрагах мінскага АМАПа. Паводле пэўнай інфармацыі, Сяргей Панасенка служыць, меркавана, у 5-й аператыўнай роце ГУУС АМАП Мінскага гарвыканкама.

Таксама знойдзенае дадатковае пацвярджэнне пра службу ў мінскім АМАПе яшчэ аднаго фігуранта папярэдняга расследавання, колішняга мікалаеўскага «беркутаўца» Сяргея Гаўрыляка.



**Гаўрыляк Сяргей Мікалаевіч (укр. — Гавриляк Сергій Миколайович)**

Нарадзіўся 06.02.1984 года ў вёсцы Зялёнае Мікалаеўскай вобласці УССР. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы быў прыняты ў РМАП «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. Быў накіраваны ў Кіеў у складзе мікалаеўскага падраздзялення ў лістападзе 2013 года. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ўцёк разам з сям'ёю ў Беларусь.

Вызначана, што 21 верасня 2017 года Сяргей Гаўрыляк і яшчэ адзін мінскі амапавец, Дзяніс Шарэц, удзельнічалі ў затрыманні анархіста Рамана Халілава. Згодна са словамі Халілава, амапаўцы спынілі яго на вуліцы для высвятлення асобы, аднак нягледзячы на тое, што Раман даў ім свой пашпарт, яго затрымалі і даставілі ў РУУС.


**Раман Халілаў у судзе.** Фота svaboda.org

Гаўрыляк і Шарэц сведчылі ў судзе Заводскага раёна Мінска, што Халілаў нібыта хапаўся за іх форму, здзяйсняў супраціў і спрабаваў учыніць бойку. Гэтыя



**Момант затрымання Аляксандра Куўшынава байцамі АМАПа, якія змясцілі яго ў аўтазак «шляхам паветранага пералёту»**


**Сэлфі Аляксандра і Віктара Куўшынавых у аўтазаку**

# абараняе «Беркут» у Беларусі

паказанні сталі падставай для абвінавачвання Халілава ў непадпарадкаванні патрабаванням міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ) і асуджэння яго да адміністрацыйнага штрафа ў памеры 15 базавых велічыняў.

Цікава, што Сяргей Гаўрыляк пасля раскрыцця інфармацыі пра яго службу ў МУС РБ змяніў нікнэйм свайго акаўнта ў сацсетцы «VK» на «Алексей Кравченко», прыбраў звесткі пра сваё навучанне ў Мікалаеўскім нацыянальным універсітэце, а таксама выдаліў з кантактаў практычна ўсіх сяброў і не пакінуў ніводнага фотаздымка.

## Новыя фігуранты

Дзякуючы зачыстцы Сяргеем Панасенкам свайго акаўнта «VK» і аналізу выдаленых ім кантактаў са спісу сяброў былі выяўлены новыя фігуранты расследавання — байцы спецпадраздзялення «Беркут», якія са свайго мікалаеўскага «гнязда» пераляцелі не толькі ў Беларусь, але і ў Расію, і на тэрыторыю акупаванага ёй Крыма.



Прымак Анатоль Анатольевіч (укр. — Примак Анатолій Анатолійович)

Нарадзіўся 23.04.1990 г. у вёсцы Іваніўка Арбузынскага раёна Мікалаеўскай вобласці УССР. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы быў прыняты ў роту міліцыі асаблівага прызначэння «Беркут» пры УМУС Украіны ў Мікалаеўскай вобласці. Разам з іншымі таварышамі па службе ўцёк у Беларусь пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці. Баец АМАП ГУУС Мінскага гарвыканкама.

У поле зроку Анатоль Прымак трапіў як калега «беркутаўца» Мікалая Стагарняка. Менавіта ў такім статусе апошні пазначыў яго ў спісе кантактаў свайго акаўнта ў «VK». Згаданы вышэй акаўнт Анатоля Прымака на сёння знаходзіцца ў замарожаным стане, доступу да яго няма.

Пад нікнэймам акаўнта пададзеная інфармацыя з раздзелу адукацыя, з якой вынікае, што Анатоль Прымак навучаўся ў Нацыянальнай акадэміі ўнутраных спраў Украіны.

У выніку правядзення паглыбленага аналізу акаўнтаў байцоў мікалаеўскага «Беркута» і супастаўлення з выдаленымі Сяргеем Панасенкам кантактамі былі знойдзеныя яшчэ два профілі Анатоля Прымака, адзін з якіх падпісаны псеўдам «Станислав Семенюк» і на сёння актыўны.

Пасля публікацыі ў 2017 годзе інфармацыі пра выяўленых у Беларусі «беркутаўцаў» гэты акаўнт быў зачышчаны, з яго выдалены персанальныя фотаздымак Прымака, шматлікія допісы, а са спісу сяброў — практычна ўсе акаўнты супрацоўнікоў МУС РБ. Аднак папярэднюю версію акаўнта ўдалося адшукаць у кэшы расійскай пошукавай сістэмы «Яндекс».

У якасці аватаркі да гэтага акаўнта Прымак выкарыстаў уласны фотаздымак, зроблены поруч з забаўнай скульптурай «Лазенніку» (народнае найменне «Вясёлы Вася») ля лазні №7 на вуліцы Маскоўскай у Мінску.

Адзін з ужо выдаленых допісаў у стужцы гэтага акаўнта Анатоль Прымак зрабіў 19 студзеня 2017 года. У ім ён змясціў супольны фотаздымак удзельнікаў спартовых спаборніцтваў.

У выніку вывучэння адкрытых крыніцаў інфармацыі (OSINT) вызначана, што 17 і 18 студзеня 2017 года на базе Цэнтра фізічнай падрыхтоўкі асабовага складу (ЦФПАС) ГУУС Мінгарвыканкама праходзіў чэмпіянат па рукапашнаму бою сярод супрацоўнікаў мінскай міліцыі. Паводле інфармацыі дзяржаўнага выдання «Беларусь Сегодня» і сайта БФСТ «Дынама», другое месца ў самай цяжкой вагавай катэгорыі (больш за 90 кг) здабыў баец мінскага АМАПа Анатоль Прымак.

Гэтыя інфармацыйныя рэсурсы падалі і фотаздымкі са згаданага чэмпіянату. Адзін з іх амаль ідэнтычны фота, выкладзенаму Прымаком у сваім акаўнце, толькі зроблены з іншага ракурсу.

На іншым фота Прымак зафіксаваны падчас судзейства вынікаў ягонага спарынгу з меркавана, супрацоўнікам ЦФПАС.

Вызначана, што Анатоль Прымак — удзельнік пабліка «Политика| ПМОП "Беркут" оплот спокойствия страны». У траўні 2016 года адміністрацыя гэтага пабліка, каб высвятліць, хто сярод яго ўдзельнікаў з'яўляўся байцом «Беркута», змясціла адмысловае апытанне. Грэбуючы ўсімі захадамі бяспекі, на яго адказаў і Анатоль Прымак, які пазначыў, што служыць у спецыяльным узводзе АМАПа.

Паводле інфармацыі з уласных крыніцаў, у структуры мінскага АМАПа маюцца як мінімум два асобныя ўзводы.

Падаем дадатковыя выяўленыя фотаздымкі Анатоля Прымака, зробленыя да яго ўцёкаў з Украіны пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці ў Беларусь. Яны могуць дапамагчы ў выяўленні супрацоўнікаў МУС, якія, магчыма, датычныя да здзяйснення супрацьпраўных дзеянняў.

Цікава, што прозвішча гэтага мікалаеўскага «беркутаўца» фігуравала 6 сакавіка 2020 года ў справе разгляду судом Цэнтральнага раёна Мінска адміністрацыйнай справы вядомага беларускага грамадскага актывіста і анархіста Мікалая Дзядка за ўдзел у акцыі «Свабоду палітвязням» 26 лютага гэтага ж года ў Мінску. Прымак быў выкліканы на суд у якасці сведкі разам з іншым супрацоўнікам АМАПа, аднак на пасяджэнне не прыйшоў — нібыта праз хваробу.

Падчас правядзення расследавання ў поле зроку трапіў яшчэ адзін таварыш па службе, экс-баец спецпадраздзялення «Беркут» Дзмітрый Анцупаў. Ён быў выяўлены сярод кантактаў байцоў мікалаеўскага «Беркута», а таксама дзейных супрацоўнікаў паліцыі Украіны, якія пазначылі яго ў якасці свайго калегі.



Анцупаў Дзмітрый Ігаравіч (укр. — Анцупов Дмитро Ігорович)




Кадр з відэасюжэта тэлеканала «СТВ». Дзмітрый Анцупаў пазначаны кругам

Нарадзіўся 13.10.1975 г. у Вольску Саратаўскай вобласці РСФСР. Пражываў у Мікалаеве. Адзін з ветэранаў РМАП «Беркут» у Мікалаеўскай вобласці, на службу ў гэта падраздзяленне быў прыняты яшчэ ў 1990-х гадах. Пасля перамогі Рэвалюцыі Годнасці стаў афіцэрам новай спецроты міліцыі, сфарміраванай з колішніх «беркутаўцаў». Меркавана, вясной ці летам 2014 года ўцёк у Беларусь. Служыць у АМАП УУС Мінскага аблвыканкама.

З дапамогай вывучэння акаўнтаў сацсетак байцоў мікалаеўскай роты «Беркута» выяўлены і ідэнтыфікаваны на супольных фотаздымках яго таварышаў па службе.

На фота таксама зафіксаваны апошні камандзір мікалаеўскага «Беркута» падпалкоўнік міліцыі Дзмітрый Кулікоў (крайні справа), поруч з ім — яго намеснік, капітан міліцыі Анатоль Гарбуноў, які таксама можа хавацца на тэрыторыі Беларусі (больш пра яго ў наступных частках расследавання).

Дзмітрый Анцупаў быў зафіксаваны ў сюжэце дзяржаўнага тэлеканала «СТВ» пра здачу іспыту на права нашэння чорнага берэта байцамі АМАПа, які праходзіў 20 лістапада 2019 года. Сюжэт апублікаваны на відэахостынгу YouTube. На хранаметражы, пачынаючы з 2:25 у эпізодзе з каментаром амапаўца Івана Кудзіна адносна здачы іспыту, на заднім плане леваруч можна пабачыць чалавека ў цывільным, што разам з іншымі назірае за спарынгам байцоў АМАПа і азіраецца назад, нібы аналізуючы абстаноўку.

Гэтага моманту было дастаткова, каб аб'ектыў тэлекамеры выразна зафіксаваў аблічча Дзмітрыя Анцупава.

Варта дадаць, што відэафіксацыя Анцупава была здзейсненая непасрэдна ў месцы дыслакацыі мінскага АМАПа (вул. Герояў 120-й дывізіі).

З даных, апублікаваных 26 кастрычніка 2020 года на тэлеграм-канале «Кибер-Партизаны», вынікае, што Дзмітрый Анцупаў з'яўляецца інспектарам аддзела спецпадрыхтоўкі АМАП міліцыі грамадскай бяспекі УУС Мінскага аблвыканкама. Гэтая інфармацыя заслугоўвае даверу, бо пазначаная ў ёй дата нараджэння фігуранта цалкам супадае з вызначанай у выніку расследавання.

Пададзеная актывістамі пасада Анцупава ў мінскім абласным АМАПе адпавядае той, якую ён займаў у мікалаеўскім спецпадраздзяленні «Беркут».

Вызначана, што ў красавіку 2014 года Дзмітрый Анцупаў быў намеснікам камандзіра новасфарміраванай спецроты і старшым інспектарам баявой службовай падрыхтоўкі спецроты міліцыі Мікалаева, меў званне капітана міліцыі.

24 красавіка 2014 года ён прыняў удзел у тактыка-спецыяльных вучэннях на блокпосце дзеля адпрацоўкі асабовым складам свайго падраздзялення неабходных дзеянняў, каб забяспечваць грамадскі парадак і пазбягаць збройных канфліктаў у Мікалаеве, а таксама каб фільтраваць транспартныя сродкі і здзяйсняць неабходныя захады ў выпадку магчымага прарыву.

На пытанне журналіста наконт настрою ў падраздзяленні, Анцупаў запэўніў, што байцы маюць патрыятычныя погляды і гатовыя абараняць сваю Радзіму і краіну. Варта асабліва зазначыць, што на момант гэтага інтэрв'ю ўжо быў акупаваны Крым, а на Данбасе паўтара тыдні ў межах поўнамаштабнай антытэрарыстычнай аперацыі адбываліся баявыя дзеянні з расійскімі падраздзяленнямі.



У месцы дыслакацыі мікалаеўскага «Беркута». Дзмітрый Анцупаў — першы злева. Фота зробленае не раней за лістапад 2008 года

Пакуль мы высвятляем прычыны, па якіх Анцупаў вымушаны быў збегчы ў Беларусь, здрадзіць сваёй прысязе на вернасць Украіне і паступіць на службу ў сілавое ведамства Беларусі. Святло на гэта, аднак, могуць праліць яго ўласныя допісы ў акаўнце сацсеткі «ОК».

Праз некалькі месяцаў пасля сказаных ім словаў пра патрыятызм і абарону Радзімы ён, відавочна, знаходзячыся ўжо ў Беларусі, вырашыў адкрыта пазначыць сваё стаўленне да расійскай ваеннай агрэсіі супраць Украіны.

Вызначана, што акаўнт Анцупава — удзельнік паблікаў, прысвечаных «Антимайдану», тэрарыстычнаму ўтварэнню «Л/ДНР», а таксама ўсхваленню велічы і магутнасці Расіі. Апроч пашырэння допісаў з гэтых паблікаў Анцупаў распаўсюджвае тэксты прарасійскага сепаратысцкага пабліку "За Одессу-маму».

Стужка акаўнта проста перанасычаная штампамі і наратывамі расійскай прапаганды пра «карателей», «геноцид народа Донбасса», «киевскую хунту», «героев-ополченцев».

Ці быў Анцупаў завербаваны расійскімі спецслужбамі і ці мог ён, як прадстаўнік камандавання аднаго з ключавых сілавых падраздзяленняў, выконваць пастаўленыя перад ім задачы падчас здзяйснення Расіяй на тэрыторыі Мікалаеўшчыны гібрыднай ваеннай агрэсіі праекта «Новороссия», павінна вызначыць украінскае следства.

Выпадак з Анцупавым — яскравае сведчанне таго, што, нягледзячы на пераатэстацыю колішніх супрацоўнікаў «Беркута» і іншых падраздзяленняў, у МУС Украіны могуць працягваць службу шчырыя прыхільнікі «русского мира».

Такім чынам, на сёння апублікаваная факталагічная інфармацыя ўжо пра 5 байцоў расфарміраванага ўкраінскага спецпадраздзялення «Беркут», якім рэжым Лукашэнкі не толькі даў прытулак і грамадзянства, але і прыняў іх на службу. Тобок, рэжым Лукашэнкі становіцца ў адзін шэраг з дзяржавай-агрэсарам РФ, для якой дэмакратычныя пераўтварэнні ва Украіне і Беларусі — экзістэнцыйная пагроза. Менавіта дзеля нівелявання гэтай пагрозы Расія залучыла ў свой сілавы рэпрэсіўны апарат большасць уцекачоў-«беркутаўцаў».

Колькасць жа выяўленых байцоў «Беркута» ў Беларусі — не канчатковая, у наступных частках расследавання яна будзе толькі павялічвацца.

# Слуцкі збройны чын: гісторыя, якая ахоўвае і натхняе

Ніна СТУЖЫНСКАЯ

**Сярод лёсавызначальных падзей у нацыянальнай гісторыі Беларусі адно з цэнтральных месцаў займае Слуцкі збройны чын, антыбальшавіцкі антырасійскі рух на Случчыне. Гэтая падзея адразу выйшла за рамкі лакальнай гісторыі, стаўшы ў шэрагі найважнейшых нацыятворчых акцый у гісторыі Беларусі, гістарычных сведчанняў імкнення беларусаў да незалежнасці.**

Лепшыя ўзоры дзейнасці на карысць дэмакратычнай і сацыяльнай краіны прадэманстравалі 100 гадоў таму арганізатары і ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну. Вельмі сімвалічна, што сучасны пратэставы рух выбухнуў менавіта ў гэтым годзе. Гэта пацвярджае думку, што гісторыя Слуцкага паўстання — не пра мінулае, а пра будучыню.

Паўстанне (я ўжываю тэрмін, якім карысталіся самі паўстанцы) адбылося на фінішы савецка-польскай вайны 1919–1920 гадоў. У час, калі Чырвоная Армія імкліва кацілася ад Варшавы, а польскія войскі праСоўваліся на ўсход па беларускіх тэрыторыях, 11 кастрычніка 1920 года палякі занялі Слуцк. 12 кастрычніка ў Рызе быў падпісаны дагавор аб перамір'і і папярэдніх умовах міру. Расія, не беручы пад увагу інтарэсы беларускага боку, адмовілася ад Заходняй Беларусі на карысць Польшчы. У лістападзе 1920 года польскае ваеннае кіраўніцтва адступіла за лінію новай дзяржаўнай мяжы і перадало цывільную ўладу ў Слуцку і павеце Беларускаму нацыянальнаму камітэту (БНК).

Трэба зазначыць, што Слуцкі збройны чын дае пераканаўчы ўзор эфектыўных палітычных практык, дэманструе паспяховыя прыклады самаарганізацыі насельніцтва ў цяжкіх умовах акупацыі, досвед самакіравання, удалай дзейнасці палітычнай партыі і няўрадавых арганізацый. Я маю на ўвазе Слуцкую філію Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эпоха была такая, левыя былі ў модзе) і моладзевыя асветніцкія гурткі.

БНК на Случчыне паўстаў падчас Першай сусветнай вайны. Гэта быў яскравы прыклад арганізацыі сапраўднай народнай улады. Камітэт падчас ваеннага ліхалецця ўзяў на сябе клопат пра функцыянаванне гаспадаркі і абарону праВоў мясцовага насельніцтва. Дэмакратычныя традыцыі пабудовы мясцовай улады, наяўнасць уплывовых палітычных структур прадвызначылі логіку развіцця далейшых падзей. Масавая падтрымка акцыі і шматлюдны ўдзел у паўстанні былі сведчаннем даверу да абраных органаў. З вясны 1919 года нейкі час на Случчыне панаваў чырвоны рэвалюцыйны камітэт, але нядоўга. Мясцовая ўлада аднавілася зноў намаганнямі чальцоў БНК і мясцовых эсэраў, уплывовых грамадзян Случчыны, — Паўла Жаўрыда (старшыня), Уладзіміра Пракулевіча, Уласа Дубіны (сакратар).

### Пад штандары «сялянскага бацькі»

Пытанні арганізацыі жыцця ва ўмовах няспынных ваенных дзеянняў, змены акупацыйных рэжымаў, абароны павета ад Чырвонай Арміі, якая мелася хутка заняць тэрыторыю Случчыны, а таксама надання легітымнасці органам мясцовай улады былі вынесены на з'езд Случчыны. З'езд адбыўся 14–15 лістапада 1920 года ў Слуцку. У зале, паводле ўспамінаў удзельнікаў, панаваў святочны і рашучы настрой. Дэлегаты (усяго 107), якія прадстаўлялі мясцовыя супольнасці, прафесійныя і рэлігійныя колы, сур'ёзна паставіліся да працэдуры правядзення сходу. Па выніках галасавання старшынёй прэзідыума быў абраны Павел Жаўрыд.

Увесь першы дзень гучала інфармацыя з месцаў. Усё мацней выказвалася думка аб неабходнасці самастойнага гаспадарання ў сваім нацыянальным доме. Вялікае абурэнне выказвалі сяляне шматлікімі паборамі: вайсковым, конным, працоўным, харчовым і г.д. Адзін за другім, як успамінаў Пракулевіч, выступалі пакрыўджаныя сяляне, выказваліся супраць чужой улады і толькі за тую, якую самі будуць выбіраць.

У парадку другога дня з'езда стаялі даклад Нацыянальнага камітэта і пытанне сучаснага моманту. З дакладам выступіў доктар А. Паўлюкевіч, які даламжыў присутным пра ход падрыхтоўкі ваеннай акцыі. Услед за ім гарачую агітацыйную прамову трымаў адзін з арганізатараў народнай міліцыі Случчыны паручнік Ян Мацелі. Ён заклікаў не марнаваць час, а разварнуць фронт супраць бальшавікоў.

«І ў гэты момант, — успамінаў у 1930-м годзе ўжо вязень ГПУ Пракулевіч, — …уляцелі на сцэну дэлегаты ад Балаховіча, капітаны Самусевіч і Крыжаноўскі, а з імі стрыечны брат «бацькі» Юзек. … сход пажадаў выслухаць прыбыўшых, якіх сустрэлі авацыямі, калі даведаліся, што яны ад Булак-Балаховіча».

Нягледзячы на тое, што галоўны рэй у падзеях вялі эсэры, якія дэманстравалі непрыхільнасць да генерала, упікаючы яго за службу палякам і сувязі з расійскімі антысавецкімі арганізацыямі, «сялянскі бацька» карыстаўся вялікай папулярнасцю. Шмат хто з сялян, запісваючыся ў Слуцкую Брыгаду, быў упэўнены, што ідзе пад яго штандары.

Балахоўцы пераконвалі з'езд, што Булак-Балаховіч — беларус па паходжанні і па духу. Яго армія рушыць пад сцягам незалежнай Беларусі, за зямлю і волю сялянству. Самусевіч паведаміў таксама, што «бацька» даручыў яму сфарміраваць тут, на Случчыне, вайсковую адзінку.

Потым зачыталі заклікі і дэкларацыі Булак-Балаховіча, яго палітычнага саюзніка Барыса Савінкава і Беларускага палітычнага камітэта (БПК) за подпісам старшыні Вячаслава Адамовіча і Паўла Алексюка, стваральнікаў партызанскіх антысавецкіх аддзелаў «Зялёнага Дуба».

Жаўрыд ад імя ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) растлумачыў пазіцыі Рады адносна Барыса Савінкава, абаронцы «адзінай і недзялімай» Расіі, і Паўла Алексюка, які не меў шырокай падтрымкі беларускіх колаў. Эсэры рашуча выступілі супраць хаўрусу з генераламі. Аднак прапанавалі самастойна фарміраваць вайсковыя аддзелы БНР, што было сустрэта моцнымі воплескамі. Такім чынам, з самага пачатку вызначыліся два падыходы да арганізацыі акцыі: самастойная эсэраўская і пазіцыя выкарыстання вонкавай падтрымкі польскіх вайскоўцаў і Булак-Балаховіча. Аднак галоўнай турботай прысутных была арганізацыя барацьбы з Саветамі, абарона тэрыторыі БНР, а з кім заключыць хаўрус — для большыні дэлегатаў такой праблемы не існавала. Простыя людзі не ўнікалі ў палітычныя рознагалоссі паміж палітыкамі.

З'езд прызнаў Случчыну часткай БНР, выбраў выканаўчы орган — Раду Случчыны, якой перадаў усю ўладу і даручыў арганізацыю вайсковых адзінак. У Раду Случчыны ўвайшлі 17 чалавек: П.Жаўрыд, А.Паўлюкевіч, І.Мацелі, У.Дубіна, В.Русак і іншыя актывісты, у асноўным з партыі эсэраў.

Тыдзень пасля з'езду Слуцк бурліў. Працягваліся перамовы з галоўным ваенным кіраўніком акупацыйнай адміністрацыі палкоўнікам Ясінскім. Польскія ўлады чакалі запрашэння ўшчэ пагасіцваць у павеце. Але з'езд расчараваў іх, выявіўшы свой незалежніцкі твар, нягледзячы на ўпартыя намаганні некаторых палітыкаў. 17 лістапада Прэзідыум Рады пачаў працаваць.

### «Моладзь ідзе!»

Случчына на той час — заможны рэгіён Беларусі, цяжар вайны ў параўнанні з іншымі яе тэрыторыямі мала адбіўся на эканоміцы краю. Палякі пісалі пра Случчыну: «гэта беларуская Галандыя па ўзроўні аграноміі».

Намаганнямі БНК падтрымлівалася эканоміка краю, былі створаны розныя кааператыўныя саюзы, сябрамі якіх з'яўляліся жыхары Слуцка і навакольных вёсак. Шмат пытанняў камітэт выносіў на разгляд сходаў, дэманструючы дэмакратычныя падыходы ў арганізацыі ўлады. Пошукі сродкаў на развіццё адукацыі і культуры, арганізацыя войска, утварэнне нацыянальных камітэтаў, органаў улады на месцах, — гэтыя і іншыя праблемы вырашаліся, як правіла, усёй грамадою. Па прапанове Камітэта збіраліся ахвяраванні для беспрацоўных, уцекачоў, з гэтай мэтай праводзіліся спектаклі, аўкцыёны. Атрыманыя сродкі ішлі на закупку харчавання для тых, хто меў патрэбу ў дапамозе.

Нацыянальны камітэт быў цэнтрам палітычнага і сацыяльнага жыцця, органам нацыянальнага дзяржаўнага кіравання. Відавочна, што развіццё нацыянальнага руху дасягнула той кропкі, калі з яго вылучаліся лідары, арганізатары. Ва ўмовах амаль няспыннай вайны, акупацыі (польскай, нямецкай, бальшавіцкай) гэтыя людзі рупіліся пра пабудову ўласнага дома, уладкаванасць сваёй малой Радзімы.

Калі ўрадавыя паўнамоцтвы былі перададзеныя Радзе Случчыны, абранай з'ездам, для кіраўніцтва рознымі галінамі гаспадаркі былі арганізаваны адмысловыя камісіі: юрыдычная, фінансавая, зямельная і харчовая. Перад пачаткам баявых дзеянняў новы ўрад паспеў нават выдаць першы загад пра нацыяналізацыю лясных багаццяў Случчыны. Гэты загад таксама забараняў вывозіць за межы павета збожжа, жывёлу і г.д. Назіраць за выкананнем загаду Прэзідыума Рады павінны былі валасныя рады. Кароткі тэрмін функцыянавання Рады Случчыны не дазволіў засярodзіць увагу на мірнай працы. Тым не менш, у павеце хутка змянілі ўладу на месцах. Замест польскай адміністрацыі пачалі дзейнічаць нацыянальныя камітэты. У валасцях па даручэнні Рады тлумачальную працу аб неабходнасці выбараў сярод насельніцтва праводзілі яе сябры, яны ж зацвярджалі склад камітэтаў.

Случчына мела каласальны нацыянальна-культурніцкі рэсурс. Менавіта ў Слуцку ў 1919 годзе «заквітнела» «Папараць-кветка», грамадска-палітычная моладзевая арганізацыя.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (171)
(лістапад)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by




## Змест



# Насця

Кастусь РАМАНКЕВІЧ

***

*З выццём сірэн, пад выстралы і крыкі*
*які табе прысніцца сёння сон?*
*На сценах смерць малююць страху блікі,*
*і над сівой Нямігай — болю стогн.*

*Заснеш, і ў садзе бронзавы Міцкевіч,*
*як сведка крыўдаў, сораму, пакут,*
*ля сцен старых турмы баіцца верыць,*
*што боль яго вярнуўся ў родны кут.*

*У хама — тыя ж хамскія замашкі,*
*закон яго — калгаснае ярмо.*
*З дзяцінства верыць мы прывыклі ў казкі,*
*ды ў школьскіх казках не жыве дабро.*

*З выццём сірэн, пад выстралы і крыкі*
*заснеш, а свет — у новай барацьбе.*
*У Бога ён — як ты — роўнавялікі.*
*І я зайздрошчу лёсу і табе.*

Тралейбуса доўга не было. Назапашаная ўнутры трывога станавілася невыноснай, нібы пякотка. Адпіўшы пару глыткоў з пластыкавай бутэлькі, дзяўчына пачала выкручваць толькі па ёй вядомым маршруце вакол празрыстага навеса прыпынка.

«Галоўнае — не спазніцца, галоўнае — не спазніцца, — заглушаючы трывогу, застукала ў скронях. — ...не спазніцца».

Вось ён, чортаў рагаты, і, што дзіўна, амаль пусты. Насця ўвайшла ў задния дзверцы няспешна, прапусціўшы тоўстага дзядзьку з вялікай клецістай сумкай.

«Мама з такімі ў Вільню ездзіла, калі чаўночнічала. Дурніца, — пранеслася ў галаве, — пры чым тут сумка? Сумка пры чым?»

Тралейбус крануўся. У яе вучнёўскі. Сядаць не хацелася; учапілася ў адпаліраваную трубу, прыціснулася ілбом да вялікага задняга шкла; хваляванне неяк сунялося. Вочы самі па сабе заплюшчыліся. Тое, што з ёй адбылося, здавалася чужым, неяк выпадкова заляцелым у яе жыццё, усё было не з ёй, побач, не яе...

З Косцікам яны сустракацца пачалі, можа, дзесьці больш за год таму. Увесну прынялі сумеснае рашэнне, што ў іх каханне, — і першы раз пацалаваліся. Ад тых пацалованак больш было смеху і стуку зубоў. Косця ганарыўся паступленнем у БНТУ на бюджэт, а ёй заставаўся яшчэ цэлы год сумнай і тупой школы. Не, Насця вучылася не дрэнна, за медалём не гналася, але з першага класа трымалася моцнай выдатніцай. На рэпетытараў грошай у сям'і асабліва не было, дапамагалі мамчыны сяброўкі цёткі Вера і Адэля. Адна з фізікай і матэматыкай, другая з англійскай і рускай. За мамай была хімія; у школе ж настаўнікі па гэтых прадметах мяняліся ледзь ці не кожнае паўгоддзе, а замежную замянялі грамадазнаўства і фізра.

Косцікава паступленне адзначалі з танцамі і кактэйлем. Цалавацца яны да таго часу ўжо навучыліся. Сэрца даходзіла да ліхаманкавага трапятання, кроў гула па ўсім целе, салодкі туман зácціў мазгі. Павольна і ўладна вялікая таямніца жыцця клікала іх усё далей, усё бліжэй прыціскаючы целы адзін да аднаго. Неяк за пацалункамі іх застукаў ля пад'езда яе бацька. Скандалу не было, але дачку пагнаў дадому, а працягнутую для знаёмства руку маладога чалавека пакінуў без увагі. Яе дома абазваў нядобрымі словамі і забараніў сустракацца «з усялякімі казламі»; са словамі «За казла адкажаш!» дачка абвясціла бацьку поўны байкот.

Вечар дзявятага жніўня быў ціхім нядзельным вечарам і нічога асаблівага не прадвесціў. На выбары, праз сваё непаўнагоддзе, яны не хадзілі, гулялі са знаёмымі па цэнтры і, вядома ж, рыхтаваліся пасля дзесяці паўдзельнічаць у пратэсце, калі такі ўтворыцца. Ім, як і ўсім, у каго яшчэ не паспелі закіснуць мазгі, хацелася пераменаў. Можа, ад таго, што ў апошні час у кавярнях і на адкрытых верандах часта круцілі песню Цоя, а можа, наадварот, гэта ім самім хацелася, каб усё адбылося, як спявалася ў песні. Навошта і якіх канкрэтна хацелася пераменаў, яны толкам і не задумваліся. Пераменаў — і ўсё!

Насценька, да закаханасці, наогул у нейкую крамолу, як лічыў яе бацька, маёр АМАПа, старалася не ўлазіць, дарэчы, і за ўладу яна асабліва не перажывала. Яна была салідарная з мамай: жанчына — найперш гаспадыня, клапатлівая маці, любячая жонка. Праўда, з любоўю ў Алены Пятроўны ў сям'і былі нелады. Бацька яе пару разоў, яшчэ на старой кватэры, адлупцаваў, так, абы за што, «для прафілактыкі», як ён крычаў. Насця моцна спалохалася, нават пэўны час заікалася, і яны з'ехалі з мамай да бабулі ў Баранавічы. Амаль паўтара гады там пражылі. Бацька прыязджаў з тартамі і кляўся, што больш такога не паўторыцца, што ўсяму віной праклятая служба. Маці паверыла, хоць ранейшых адносінаў у сям'і ўжо не было.

Косцік жа, наадварот, быў ідэйным, бацькі актыўнічалі ў БНФ у Горадні, прабабулю расстралялі ў трыццаць сёмым у Курапатах — як нацдэмаўку. Яе значок у выглядзе бел-чырвона-белага сцяжка заўсёды быў з ім ці на лацкане пінжака, ці на яго адвароце, ці ўнутры скуранога кашалька, –нібы значок камісара паліцыі ў Італіі. У спрэчках і доўгіх дыскусіях па пытанні, за што ён збіраецца змагацца, Костусь нязменна адказваў: «Супраць усеагульнага калгаса ў нашых мазгах і адзінага, нязменнага пастуха». Дарэчы, ён быў упэўнены, што Канстанцінам яго назвалі ў гонар Каліноўскага.

Ці была яна згодная ва ўсім са сваім каханым? Раней яна б не змагла адказаць адназначна, а вось цяпер з ім — абедзвюма рукамі.

«Наступная — "Бальніца хуткай дапамогі"», — прашапацела ў дынаміках.

Корпус знайшла хутка, але наведванне дазволена толькі з шаснаццаці трыццаці. Яшчэ амаль сорак хвілінаў.



Фота www.tut.by

Насця абышла корпус, убачыла вольную лаўку і прысела. Мулкія жоўтыя дошкі здаліся зручнай канапай. Напружанае цела абмякла, выштурхваючы вонкі ватнюю слабасць. «Не заснуць бы толькі, — праплыла з асцярогай думка. — Жах, я ж не спала амаль чацвёра сутак, здаецца, столькі ж толкам і не ела. Мама вар'яцела, а я тупа набірала Косцеў нумар ці нумары агульных знаёмых». Але ўсё без толку: слухаўка заходзілася захлынальным брэхам гудкоў, як вясковы сабака ўначы.

...Усёй кампаніяй выпаўзлі на вуліцу з Косцікавай двухпакаёўкі, якая дасталася яму ад дзеда, і падаліся на Машэрава, балазе тут побач. Ужо было цёмна, вакол досыць людзей і мянтоў. Моладзь, можа, і нападпітку, часам нарываецца на скандал. Народ гучна скандаваў «Сыходзь!», «Верым, можам, пераможам!», «Жыве Беларусь!». Спачатку было прыкольна. Потым прыехалі амапаўскія бусікі і аўтазакі, нейкія машыны, падобныя да снегаўборачных, а потым яшчэ і яшчэ. Страшных чорных людзей, закутых у чорныя латы, станавілася ўсё больш і больш. Шчыты злавесна пабліскваілі і здаваліся жывымі.

— Косцік, давай пойдзем адсюль, мне страшна.

— Я побач, усё будзе нармальна, ты бачыш, колькі нас, яны пабаяцца. — Хлопец ускінуў уперад правую руку са сціснутым кулаком. «Жыве Беларусь!» І тысячагалосая людская маса ў адзіным парыве выдыхнула «Жыве!!!».

Ад гэтага Настулі стала яшчэ страшней: яна ведала, што з таго боку стаяць злыя, моцныя людзі, у якіх ёсць загад, і яны яго выканаюць, за гэта ім плацяць грошы і даюць кватэры.

— Міленькі, родненькі, пойдзем, пойдзем, яны цяпер на нас кіну...

Дагаварыць ёй не далі выбух і асляпляльная ўспышка справа ад іх. Закрычаў і, махаючы рукамі, упаў доўгі хлопец зусім побач з імі. Амапаўцы загрымелі аб свае шчыты і павольна рушылі на іх. Гранаты рваліся ўжо ўсюды, над галавой брыдка вішчалі пластыкавыя кулі. Людзі крычалі ад болю, спрабавалі павярнуць назад, але задния націскалі, ім хацелася паглядзець, што там наперадзе, ім хацелася дзеянняў. А раптам усё скончыцца без іхняга ўдзелу і яны не стануць сведкамі перамогі. І ніхто тады не ведаў, што пярэдняя фактычна сталі жывой бранёй, якая выратавала іх ад калецтваў, а можа — і смерці.

Канстанцін, закрыўшы яе сабой, пабег скрозь некіравальны натоўп улева да Свіслачы. Яна чула, як двойчы гучна ўскрыкнуў, — але працягваў яе цягнуць наперад да моста, які яшчэ не паспелі перакрыць; з боку гасцініцы хлынула вялікая людская хваля, ёй у спіну таксама стралялі. Прыкры рыжы дым драпежна клубіўся над галовамі і хваламі поўз да пасольскага гарадка. Дзяўчыну нехта моцна штурхнуў у спіну, яна ўпала наперад, балюча разбіла калені і рукі.

— Косцік, Косцік, — як ёй здалося, гучна паклікала яна. Ніхто не адказаў. Праз яе пераскоквалі ўцекачы, нехта балюча наступіў на руку. Сабраўшы ўсе сілы, Насця паспрабавала сесці. Яе яшчэ раз штурхнулі.

— Цішэй, не пры́це, тут нейкая дзеўка ляжыць! — закрычаў нехта над ёй.

— Жывая?

Нечая рука пацягнула яе ўверх да выратавання.

— Збярыся, дзяваха, уставай — і бягом са мной, — уладна вымавіла жанчына, цягнучы яе за сабой.

Усё вакол бегла, цяжка дыхала, раўло, мацюкалася, штурхалася і зноў бегла. Рука незнаёмкі, як цiскі, схапіўшы яе запясце, цягнула наперад. Яна не азіралася, але ведала, што чорныя людзі, — хваля за хваляй, бразгаючы палкамі аб шчыты, — ідуць за імі; ёй чамусьці — ні да сяла, ні да горада — успомніўся дапатопны фільм пра Аляксандра Неўскага, дзе вось так, тупа бразгаючы жалезам, наперад ішлі сабакі-рыцары. Ад бегу ў горле стаяў прыкры камяк з металічным прысмакам. Лёгкія ўжо не слухаліся і гатовыя былі лопнуць, а яны ўсё беглі і беглі. Толькі на другім баку праспекта, заскочыўшы ў калодзеж нейкага двара, яны спыніліся.

— Не садзіся, не садзіся, — адпускаючы руку, сказала жанчына. — Павольна хадзі і махай рукамі, дапамагаючы лёгкім і выроўніваючы дыхалку. — Яна паказала, як гэта трэба рабіць.

Дыхаць стала лягчэй. У галаве білася толькі адна думка: дзе Косцік?

Працяг на стар. 8 (2) »

# Насця

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 (7)

— Ты далёка жывеш?

— У раёне Казлова, на таксі хутка.

— Ох, дзеўка, гора мне з табой! Якое таксі? Зараз самае хуткае таксі — аўтазак. Чаго ў самую кашу паперлася?

— Так, з хлопцам і кампаніяй за справядлівасць прыйшлі пабузіць.

— Маці вашу... бузацёры! Вось і мае туды ж пасунуліся. Старэйшая дачка нейкімі партызанскімі сцежкамі аж з Масквы прыперлася. За каго хоць галасавалі?

— Дык мы яшчэ малагодкі...

— Мата не хапае! Я тут непадалёк жыву, да раніцы схаваемся. А заўтра пойдзем па турмах шукаць сваіх.

— Але ж Косцік...

У двор убеглі два хлопцы і дзяўчына.

— Гэй! — з балкона другога паверха пазваў іх хрыплы жаночы голас. — Цісніце на дамафон 12-14 — і да мяне мухай.

Паўтараць запрашэнне не давялося. Жалезныя ўваходныя дзверы па-здрадніцку павольна зачыняліся. Пстрыкнуў замок, уцекачы з выбачэннямі забраліся ў чужое пракуранае жыллё.

— Ціха, тапак няма, абутак здымаць не трэба, і святла не запальвайце. Мяне баба Таня клічуць, — для надзейнасці зачыніўшы сталёвыя дзверы на рыгельную завесу, жанчына вярнулася ў пакой. — Вось і хвала Богу, што паспелі заскочыць. Дзівіцеся, што там дзеецца. Толькі не высоўвайцеся.

Насця бачыла, як у двор забеглі чалавек дваццаць, хлапчукоў, хлопцаў і дарослых ужо мужчын. Усе замітусіліся, шукаючы выхад; яна бачыла, што ён наперадзе, між дамамі, але ўнізе, напэўна, гэта было цяжка разабраць.

Чорныя паказаліся з аркі раптоўна — і адразу пачалі страляць у тых, каго бачылі. На дзіцячай пляцоўцы крычалі і курчыліся двое, адзін у пясочніцы, другі ўпаў на пластыкавую горку і ўсё спрабаваў падняцца. Трэцяга паднялі таварышы і пацягнулі падалей.

— У каго ліхтар? Пашукайце, яны далёка не маглі сыйсці.

— Камандзір, тут сплашняком прахадныя двары, а далей прыватны сектар, там, яшчэ чаго, і са стрэльбы могуць пальнуць, а то і з дзедавага шмайсера паласнуць.

Чорныя зверху былі падобныя да нейкіх нечалавечых фантастычных істотаў і неахвотна паварочвалі галовы. Насця магла паклясціся, што чула, як яны па-жывёльнаму ўцягваюць у сябе паветра, вышукваючы здабычу.

— Таварышы, таварышы, — заскрыпеў старэчы голас з адкрытага акна ў доме насупраць.

Чорныя разам павярнуліся да яго, двое паднялі стрэльбы.

— Таварышы, не страляйце, я свой... з адстаўнікоў! Не страляйце, — заныў нябачны стары.

— Што сказаць хацеў, дзед?

— А чалавек некалькі скразанулі ў другі пад'езд чацвёртага дома.

— Ты, стары казёл, не разумнічай, ты рукой пакажы, у які пад'езд уцяклі.

— Ды ўнё... у той, здаецца, таварыш. Далекавата ж, ды і падслепаваты я.

— Вось жа, казліна вохраўская, — адазвалася гаспадыня кватэры, — я табе заўтра асабіста бельмы выцарапаю!

— Доўжык і Пекаль! Праверце, толькі акуратна, а то і сапраўды яшчэ хто-небудзь з кватэры пальне. А табе, дзед, дзякуй за дапамогу.

Параненыя ўжо не крычалі, той, які на горцы сядзеў, абхапіў галаву і ледзь чутна стагнаў, а другі, скруціўшыся абаранкам, енчыў.

— Хамутка, выклікай аўтазак. Ды сціхні ты, сука! — камандзір з усяго маху ўдарыў нагой па галаве небараку ў пясочніцы. — Я цябе зараз навучу і ўладу любіць, і прэзідэнта паважаць. — Кожная яго пагроза суправаджалася ўдарам берца. — Колькі табе, сука, заплацілі? Колькі? Адказвай?!

— Камандзір, пад'езды ўсе зачыненыя, дзверы жалезныя.

— Гэй, уроды, прэч з нашага двара! — выбегшы на балкон, загрымела пракураная бабуля. — Людзі, вы што — зусім ачмурэлі, чаго за шторамі хаваецеся? Сабакі ў наш дом прыбеглі, чаго маўчыце? — Амаль ва ўсіх вокнах загарэлася святло. З пад'ездаў пачалі выходзіць мужчыны — хто з чым.

— Вон, свалата!

Чорных было ўсяго пяцёра, і яны паспяшалі рэтыравацца. Пабітых забрала хуткая.

Развітаўшыся з бабай Таняй, якая ўадначас стала гераіняй двара, Насця пайшла да мамінай знаёмай Антаніны Міхайлаўны, якая жыла побач.

**Чорныя паказаліся з аркі раптоўна — і адразу пачалі страляць у тых, каго бачылі. На дзіцячай пляцоўцы крычалі і курчыліся двое, адзін у пясочніцы, другі ўпаў на пластыкавую горку і ўсё спрабаваў падняцца. Трэцяга паднялі таварышы і пацягнулі падалей**

— Ты дадому патэлефанавала? Маці, мабыць, вочы ўсе выплакала, — прылашчыўшы ката́, спытала жанчына.

— Не, ні Косціку, ні маме. Зараз патэлефаную. Дзіўна, і мне ніхто не тэлефанаваў...

Дзяўчына паспешліва зняла са спіны маленькі рукзачок са скурзама, разадраны ў цэнтры.

— Што за фігня? Здаецца, ні за што не чаплялася... Вось чорт! — Дзясяты айфон быў сагнуты і пабіты, з яго тырчэлі нейкія дэталі. Касметыка покоцана. На дне яна знайшла шарыкі, здзіўлена пакруціла ў пальцах. — Гэта не мой...




— Думаю, што ўжо твой, родны дзяржавай падораны. Тэлефон сама купляла ці хто падарыў?

— Косцік, ну і я крыху дадала. Ён яшчэ пажартаваў, маўляў, першая сумесная пакупка, трэба запомніць.

— Вось гэтая сумесная пакупка і выратавала цябе, дзеўка, ад інваліднасці: калі б не было яе — пераламалі б табе пазваночнік клапатлівыя ахоўнікі парадку.

Раніцай вярнуўся дадому сын Антаніны Міхайлаўны — і адвёз Насцю.

Маці, вядома, дала добрага наганяю. Але ёй было не да гэтага: яна шукала свайго Косціка. Ніхто нічога не ведаў. Службы пасылалі адна да адной. МУС і СІЗА па тэлефонах даведак не давалі. У Акрэсціна ён не значыўся, у Жодзіна дабіралася на маршрутцы. Нейкая жанчына, ужо ў гадах, у чарзе ля турмы параіла ёй наогул не совацца і, калі і ездзіць, то толькі з ягонымі бацька́мі, а то, глядзі, яшчэ як малагодку заграбуць за бадзяжніцтва. Усведамляючы сваё бяссілле, яна ўпрасіла маці пагаварыць з бацькам, які пасля сустрэчы з Косцем катэгарычна заявіў, што яна ніколі не выйдзе замуж за гэтага недабітка ворагаў савецкай улады.

Канстанціна знайшлі ў хірургіі бальніцы хуткай дапамогі. Яго толькі ўчора перавялі ў палату пасля рэанімацыі.

Палата была добрая, на траіх, але занятыя былі толькі два ложкі, ён ляжаў злева. Яна не адразу і пазнала яго. Забінтаваная галава, прыкрытыя правае вока і правае вуха. З адзінага вока на ніголеную шчаку каціліся слёзы. Насця, прыціскаючы да сябе пакет з перадачай, ледзь не ўголас зараўла і апусцілася каля ложка на калені.

— Гэй, гусі лапчатыя, вы што тут — паплакаць вырашылі? Ану — перакрылі вадаспады і хутка цалавацца, — падсоўваючы да дзяўчыны табурэтку, прабасіў сусед з загіпсаванай нагой. — Ты толькі глядзі — яго моцна не прыцiскай, у яго там катэтар, а гэта справа паганая. Давайце, чмокайцеся, зялёныя, а я паскачу — покуру, каб вас не бянтэжыць.

Насця рашуча па-дзіцячы кулакамі выцерла слёзы і прытулілася да салёнага роднага вока.

— Насцёна, ды пакладзі ты гэты бязглузды пакет у тумбачку. Як у вас там справы? Хаджу пакуль толькі з сястрычкай, так што да тэліка не дапінаем, тэлефона няма, недзе згінуў. Табе спрабую тэлефанаваць — не адказваеш.

— Усё добра. Куды ты знік — там, на Машэрава? Я думала, за гэтыя дні з глузду з'еду...

— Куды-куды, вось больш кучаравую знайшоў, ды, бачыш, не дабег: бацька твой ледзь ногі не пераламаў. Жартую, жартую... Са мной усё нармальна: калі з рэанімацыі перавялі, то жыць буду. Вока вось падбілі, але доктар кажа: бачыць будзеш, малады, можа, і адыдзе. Вуха кавалак адарвалі... Мала таго, што касавуры, дык яшчэ і з драным вухам. Вось як... памітынгавалі. Словам, разы з тры ў мяне патраліпілі, а потым нагамі адмяцелілі. Там у мяне самая непрыемнасць... — Кастусь паказаў на ніз жывата. — Доктар спадзяецца, што дзеці будуць. Моцна ж пабілі, ой моцна, увесь сіні, я нават і не ўяўляў, што ў нас так таўкуць. Усё, расказвай, што там?

— Горад бурліць, людзі на вуліцах усе шчаслівыя, абдымаюцца, міліцыі не відаць. Толькі мне не весела. Віцьку Пацана памятаеш?

— Памятаю, ён са мной пастпаў, толькі ў мянтоўскую групу.

— Ён павесіўся...

— Як?! Ён жа талковым мужыком быў і на бокс хадзіў!

— А ў іх, Верка Бараноўская распавядала, уся група заявы на перавод напісалі, а ён чагосьці тармазнуў, прынёс, а ўжо познa: ці курсанцкую форму апранай, ці ідзі ва ўнутраныя войскі салдацікам. Яго знаёмыя баніць сталі, з фрэндаў павыкідалі, нават тэлефоны заблакавалі, вось ён і не вытрымаў.

— Шкада хлопца. Во які замес пачынаецца...

Пару разоў у палату ўжо зазіраў сусед, заходзіла санітарка.

— Насцёна, давай буськацца — і чакаю цябе заўтра, цяпер крапельніцы пойдуць, працэдуры.

— Добра, там у пакеце пірог, морсік з парэчкі і тэлефон, новы з новай сімкай, нават нумароў агульных табе панабівала. Да тваіх у Горадню так і не датэлефанавалася?

— У іх усё нармальна, жывыя-здаровыя, на сутках у турме. Вось ты звязалася з сямействам... Ты моцна падумай...

— Косцік, а мой бацька сапраўды лютаваў? Ты не памыліўся? Толькі не кажы, што жартаваў, былі б бачныя абодва вокі... Можа, і схлусіў бы, а адно не пракатвае.

— Я табе гаварыць не хацеў... Біў ён людзей і на вуліцы, і ў райаддзеле. Азвярэла біў. Мяне ж у бальніцу з Акрэсціна адправілі, а я як голас ягоны пачуў — адразу здагадаўся, хто гэта, а потым і татушку ўбачыў на правай руцэ паміж вялікім і ўказальным пальцамі — КАТ. А што гэта абазначае?

— Яго ініцыялы. Але ён і ка́там ганарыўся. Маму шкада... Заўтра прыйду.

Насця да начы блукала па раёне і ўсё не магла прыдумаць, што ёй рабіць, як жыць далей. Яшчэ дзіцячая душа назойліва ныла і прасіла слёз, але яны, як на зло, не ішлі. Пайсці і застрэліць бацьку? Яна ведала, дзе ў яго ляжаў «левы» пісталет, — але навошта? Ён і так ужо даўно памёр, вытанчыўся і ператварыўся ў прах яго душа, напярэдзе толькі лютая адзінокая старасць.

Яна спынілася каля царквы. Таўсматая жанчына замыкала на ключ дзверы. Да Бога сцежку не замкнуць. Дзяўчына рэзка павярнулася і ўпартым крокам пайшла да прыпынка. Праз паўгадзіны яна ўжо ва ўсю гаспадарыла ў Косцікавай кватэры. Патэлефанавала маме на працу (яна сёння была на сутках адміністратарам у адной з новых гасцініц). Косцік патэлефанаваў сам, узрадаваўся, што яна дома. У той вечар пасталелы чалавечак прыйшоў да немудрагелістай высновы: лепш за ўсё самае галоўнае блізкім гаварыць па тэлефоне — менш хваляванняў...

Напрыканцы тыдня ў першай гарадской бальніцы хуткай дапамогі з'явілася новая зусім маладзенькая санітарка, а выдатніца 124-ай школы забрала дакументы і падала іх на першы курс медыцынскага каледжа, дзе працавала адна з усюдыісных мамчыных сяброўак.

У першае самастойнае начное дзяжурства Насця, стомленая і да немагчымасці станоўчая, зазірнула ў палату да Кастуся. Асляпляльнае сонца толькі пачынала свой звыклы шлях, змываючы колішнюю брыдоту са стомленых ад бясправўя плошчаў і вуліц старадаўняга горада, расхінаючы свае праменi дабра для кожнай светлай душы. Дзяўчына знiякавела ад апантанасці радаснага святла і нечакана ўбачыла ў шкле паўраскрытага акна адлюстраванне свайго шчаслівага, спакойнага і роднага ёй чалавека.

— Мы перамаглі цемру, і гэта наш свет, нашая зямля, нашае жыццё! — нечакана гучна вымавіла Насця.

# «Знак бяды». Няпройдзены ўрок белліту



Наста ГРЫШЧУК,
budzma.by

**«Знак бяды», і без таго актуальны сорак гадоў, сёння выглядае анталогіяй страшных паралеляў. Збольшага яны відавочныя. Калі мастацкі тэкст 1982 года да драбніцаў адбіваецца ў рэчаіснасці 2020-га – значыць, калектыўныя траўмы дасюль не загоеныя. Значыць, увесь час мы рабілі выгляд, што гэта – не з намі і не пра нас. Такі сабе няпройдзены ўрок белліту...**

Вось думкі Сцепаніды, галоўнай гераіні аповесці. «*За гэтыя два месяцы яна зразумела, што ад усяго не засцеражэшся, як ні туляйся, а яны калі захочуць, дык знойдуць і прыдзяруцца. Тым болей, што ў немцаў знайшліся ўжо і памагатыя з мясцовых...*».

Да жніўня 2020 года большасць беларусаў верыла ў сілу закона. Яшчэ ў чэрвені адзін з кандыдатаў у прэзідэнты, адказваючы на пытанне, што будзе, калі яго арыштуюць, са шчырым (ці добра ўдаваным)



**Ілюстрацыя Арлена Кашкурэвіча да кнігі Васіля Быкава «Знак бяды»**

здзіўленнем пацікавіўся: а за што мяне арыштоўваць?..

За гэтыя два месяцы толькі самы наіўны не зразумеў: закон не працуе. Нават у той сціплай меры, з якой мы раней мірыліся. Цяпер не ўратуе не толькі пазіцыя «мая хата з краю»; «мой дом – мая крэпасць», – таксама філасофія хібная. У сталінскія часы «варанкі» прыязджалі пераважна па начах – сённяшнія карэты «справядлівасці» раз'язджаюць пры дзённым святле. Жонак хапаюць на вачах у мужоў, маці – на вачах у дзяцей, проста на вуліцы.

«*Яна не ведала іхніх парадкаў, не хацела іх парушаць, але хто ведае, за што яны могуць прычапіцца да мірнага чалавека*».

Хто ведае.

Тую ж небяспечную, бо падманлівую, філасофію спавядаў муж Сцепаніды. «*Нічога, як-небудзь, – сказаў Пятрок. – Мы перад імі невінаватыя. А калі з імі па-добраму, дык, можа, і яны... Не з'ядуць, можа...*»

Трагічная вера, якая прывядзе да смерці героя. Чытаючы ў 2020-м гісторыю з 1942 года, мы гэта выразна бачым. Спачуваем, прадчуваем бяду.

І ў той жа час сёння, пасля зверстваў на Акрэсціна, знаходзяцца людзі, якія вераць: я невінаваты, я не выказваў нязгоды, мяне не крануць; а тых, каго білі, – іх, відаць, было за што. Свежы прыклад – інтэрв'ю Генадзя Аўсяннікава, купалаўца, які сказаў, што пратэстоўцаў ёсць за што затрымліваць. Таго самага Аўсяннікава, які дзясяткі гадоў граў на адной сцэне з Генадзем Гарбукам, які, у сваю чаргу, граў Петрака ў экранізацыі «Знаку бяды». Якая горкая іронія.

Мне надзвычай цікава, што сказаў бы Пятрок, аказаўшыся ў нашым 2020-м, дзе нямецкіх акупантаў няма, іх 75 гадоў як «пабядзілі», а паліцаі так нікуды й не падзеліся. Яны, беларускія сыны, з ніжэйшых чыноў дайшлі за паўстагоддзя да самых высокіх. Занялі, так бы мовіць, усю вертыкаль.

А яшчэ я думаю вось пра што: Пятрок, уражлівая душа, вельмі б здзівіўся, пачуўшы, як беларуса называюць фашыстам за тое, што ён беларус. Прычым тыя самыя паліцаі і называюць.

*

Калі на хутары Багацькаў пасяліліся немцы, Сцепаніда памкнулася хаваць карову, свінчо і курэй. Не ўсё атрымалася, і, не жадаючы аддаваць малако немцам, Сцепаніда выдаіла карову проста ў зямлю.

Пра гэты тып народнай барацьбы пісаў журналіст «Моцных навінаў» Пётр Кузняцоў. Сыходзячы ў лес ад ворагаў, беларусы забіралі з сабой карову – ні кроплі ворагу. Цяпер іх нашчадкі здымаюць грошы з банкаўскіх рахункаў: ад пачатку года – 2,5 млрд долараў.

Трансфармаваліся і заклікі «акупантаў» паведамляць пра дзеянні «бандытаў». Вы здагадаліся: размова пра славутыя паведамленні ад МУС, у якіх сумленных грамадзян просяць паведаміць пра падазроных асобаў, што парушаюць грамадскі спакой. Народ імгненна адрэагаваў з'едлівым каментарыем: «Парцізанэн, здавайся!».

*

Сам таго, безумоўна, не ведаючы, Быкаў у 1982 годзе патрапіў у сутнасць мірных жаночых пратэстаў у сучаснай Беларусі: «*Яна іх не баялася, бо не паважала іх. Болей таго – яна іх ненавідзела. Зрэшты, ёй не было да іх справы, у тым жыцці, якое абрынулася на свет, яна адчувала перавагу сваёй спрадвеку ўстаноўленай праўды і, пакуль у яе было тое адчуванне, магла смела глядзець кожнаму ў вочы*».

Здымкаў, на якіх жанчыны глядзяць у вочы карнікам, болей чым дастаткова. Як і фота, на якіх жанчыны выглядаюць не запалоханымі, не вінаватымі, не зламанымі, але поўнымі пачуцця ўласнай годнасці.

*

«*Жылі людзі да гэтай вайны і, мусіць, будуць жыць і пасля, а во ці давядзецца жыць ёй гэтым, яшчэ невядома*». Так думала Сцепаніда, разважаючы пра будучыню акупантаў.

Людзі ў сцэпках, перад калючым дротам, каля аўтазакаў не раз задавалі пытанне сілавікам: «Што падумаюць вашыя маці?..». Тоеснае пытанне: як вы будзеце жыць пасля?..

Пытанне, ці будуць яны ўвогуле жыць, не гучыць – пратэст у нас мірны. Але партызанскі гнеў праявіў ужо сябе: дэананімізацыя, дошкі ганьбы, парэзаныя колы аўто і нават спалены дом. Невядома, ці задаюцца тымі ж пытаннямі самі сілавікі, але пра штосьці такое яны ўсё ж задумваюцца: пра гэта сведчыць вялікі страх застацца без маскі.

Я сама была сведкай таго, як на плошчы Свабоды жанчына сарвала балаклаву з амапаўца. У адказ ён ударыў яе – з размаху, азвярэла. На твары ягоным застыла дзіўная грымаса, і я доўга не магла ідэнтыфікаваць гэтую скамянелую эмоцыю. Цяпер зразумела: гэта быў страх. Знянацку застаўшыся без звыклай абароны, амапавец зрэагаваў жывёльным інстынктам «бі!».

У гэтага страху ёсць яшчэ адна прычына, па-за народнай помстай. Ключ да яе – наступная сцэна ў «Знаку бяды». Паліцай Гуж на вачах у Петрака атрымаў дзве аплявухі ад нямецкага афіцэра – ад умоўна «свайго». Аказваецца, калі пераходзіш на бок моцнага, гэта не робіць моцным цябе. Ты застаешся чыімсьці харчам у ланцужку дзікай прыроды.

«Красаўцы», якім дзякаваў Лукашэнка, – таксама. Мітынгоўцы, стоячы перад блокпастом каля Палаца незалежнасці, так і казалі ім: ён вас кіне. У верталёце мала месца. І верталётаў мала.

*

«*Крыж пастаяў вясну і лета – на самай выспе над лесам і ровам, воддаль ад дарогі. Кожны, хто ехаў ці ішоў гасцінцам, пазіраў на гэты знак чалавечай бяды, але мала хто ведаў, якая была то бяда*».

Тым і замінаюць Курапаты цяперашнім пакуль што ўладам: кідаюцца ў вочы. Псуюць выгляд кальцавой. І не толькі ўладам: вандалы валілі крыжы, разбівалі лаўкі; на мемарыяле ў Курапатах, які толькі былі адкрылі, у лічаныя дні з'явілася фашысцкая свастыка – старанна выдрапаная па свежым метале. Ці трэба казаць, што вінаватых не знайшлі?

Крыж – не толькі знак чалавечай бяды. Ён – напамін пра злачынства, які злачынцу хочацца сцерці з твару зямлі і свайго абліччa.

Што сталася з крыжам, які Пятрок паставіў на сваёй асабістай Галгофе, зямлі, якая знясільвала? Прыйшлі двое камсамольцаў. Спілавалі. А потым прачыталі лекцыю пра шкоду рэлігійнага дурману.

У Беларусі 2019 года абышлося без лекцый, аднак зялёныя байцы лягсага ламалі курапацкія крыжы на велікодным тыдні.

*

Ёсць у «Знаку бяды» і свой мукавозчык. Дзікаваты недалуга Патап Каландзёнак, які знайшоў прымяненне сваім талентам у журналістыцы – калі толькі можна так назваць стукацтва. Каландзёнак напісаў у газету нататку з выкрыццём «кулакоў» – аднавяскоўцаў, якія карысталіся наёмнай сілай. Напрыклад, адзінокая бабуля, якая не мела сіл абрабляць зямлю і звярталася па дапамогу да іншых. Тут цяжка не згадаць жанчыну з Гродна, якая, адпрацаваўшы сумленна ўсё жыццё, такі дазволіла сабе – з дапамогай сына – збудаваць дом. А потым трапіла ў выкрывальніцкі сюжэт дзяржаўнага тэлеканала.

Што да Каландзёнка, ён атрымаў мянушку Селькор, а потым стаў паліцаем.

*

Гэта самае цікавае ў творах Быкава, у тым ліку ў «Знаку бяды», – раскрыццё псіхалогіі паліцая.

«*Я цяпер чаму сюды прыбіўся? Думаеш, немцам служыць? Чхаў я на немцаў. Мне трэба расчытацца з некаторымі*».

Гэтак кажа паліцай Гуж з раскулачанай сям'і. Пры пэўнай чуласці можна было б праскнуцца якім-ніякім спачуваннем да персанажа, маўляў, помста, балотная вендэта. Але не спяшайцеся.

Яму не трэба зямлі. На пытанне, для чаго Гуж гэтак стараецца, ён кажа: «*А хоць бы за тое, што ўладу далі. Дзеля ўлады! Я ўсю жысць быў падначалены, малы чалавечак. Усяго бойся. А цяпер у мяне ўласць! Поўная. Я ж для вас цяпер вышэй, чым сельсавет. Вышэй, чым райкам. Чым саўнаркам нават. Я ж магу любога, каго хочаш, стрэльнуць*».

Напрыклад, бяззбройнага Аляксандра Тарайкоўскага. Або Генадзя Шутава. Альбо стрэліць у журналістку, якая знаходзіцца ў зоне пратэстаў па працоўным абавязку.

Маналог Гужа раскрывае подлую натуру баязліўца, якому ўлада патрэбная, каб пацвердзіць сабе самому права на існаванне. Ён пазбаўлены чалавечай годнасці, ён не ведае любові, ён сам сябе ненавідзіць. Каб давесці, што маеш месца пад сонцам, мусіш нішчыць іншых – вось яго звыродлівая логіка.

Адваротны тыпаж – паліцай Недасека. Малады, нязлосны, нават кранальны. Чаму ў паліцаі пайшоў? Што зробіш, брат – савецкі актывіст, з такімі родзічамі нядоўга стаць да сцяны. А ў яго, у Недасекі, дзеці. Усё для дзяцей.

Сцепаніда нават пашкадавала яго. А потым запытала: ты ўжо вешаў каго-небудзь? Не, адказаў кранальны Недасека, і не хацелася б. Але калі скажуць – «Скажуць, дык што ж. Мусіш». Хоць бы і роднага брата. Што зробіш, калі загад.

Так і казалі ваенныя злачынцы ўсіх часоў і народаў: што зробіш, калі загад. І мы аднойчы пачуем тое ж самае.

Вось дзве крайнасці: недасекі з нулявой персанальнай адказнасцю, аморфныя істоты з ружжамі – і гужы з адчуваннем поўнай улады й непадлегласці суду. Абедзве крайнасці – бакі аднаго медаля. Страху.

«*Сцепаніда болей не казала нічога, толькі слухала яго блытанае апраўданне і думала, які ж ён дурны, а можа, і подлы. Яе спагадлівасць да яго хутка выяснялася злосцю, і яна думала, што такіх не навучыш, нічога ім не зразумець, бо далей свайго карыта ім не дадзена бачыць. Такія ад прыроды сляпыя да маленькага пробліску чалавечнасці, дбаюць толькі аб сабе і апраўдваюць дзецьмі. Божа, што будзе яшчэ з тых іхніх дзяцей, што яны пярэймуць ад гэтых во таткаў?..*»

*

Фінал «Знаку бяды» вядомы: Сцепаніда коштам уласнага жыцця адстаяла права самой вырашаць свой лёс. Яна абліла сябе газай і падпаліла. Загінула не толькі гераіня, загінуў цэлы свет – яе хутар.

18 верасня ў Смалявічах да будынка РАУС падышоў мужчына, абліў сябе бензінам і падпаліў. Мужчына загінуў.

Я не маю права выказваць здагадкі пра матывацыю гэтага чалавека.

Але я магу патлумачыць, чаму Быкаў абраў для сваёй гераіні такі фінал. Таму што «той, хто аднойчы адчуў сябе чалавекам, ужо скаціна не стане».

У гэтым сказе – галоўнае для нас сёння. Беларусы, якія ўрэшце пераступілі парог тутэйшасці і абвясцілі сябе беларусамі, адчулі сябе грамадзянамі і зразумелі, што разам у іх – у нас – ёсць сіла перамагчы («Мы непобедимы, пока мы едины»), ужо не вернуцца да стану абыякавага насельніцтва, да ганебнага стану «элехтарату».

*

Адно пытанне непакоіць: што скажуць дзецям пра «Знак бяды» школьныя настаўнікі літаратуры?

# Не гасі ліхтара…



Анатоль ІВАШЧАНКА

## Разлом

*Мяжа незваротна пяройдзеная.*
*Ззаду дыміцца разлом*
*між тым, што (закрэслена) «Родина»*
*і тым, што (капслокам) — лайно.*

*Донца глядзіцца ў вaконца.*
*Вядзем з апраметнай стрым.*
*Тралейбус «Дразды — Маконда»*
*чакае ў дэпо старым.*

*Палае нябесная лесвіца.*
*Як даводзіў Хрыстос,*
*дзеля таго, каб узнесціся,*
*не варта ўзрываць хмарачос.*

*Як даводзіў Сідхартха,*
*прыхільнасці гэта зло.*
*Сядзець ў вірасане па хатах*
*ды сузіраць разлом.*

*Зноўку камусьці патрэбныя*
*гэтыя песні-рэпіты.*
*Хтосьці ліе кулі срэбныя,*
*нехта тчэ пояс шахіда.*

* * *

*перарэзаныя лёсы*
*перакроеныя жыцці*
*перабітыя імёны*
*й закатаныя ў асфальт*
*перакручаныя словы*
*ператрушчаныя гукі*
*зацугляныя пачуцці*
*і забітыя амаль*
*усё меней тут паветра*
*усё болей тут атруты*
*ў халуйскіх сытых пысах*
*рабалепства тупасць страх*
*абылганыя прарокі*
*зацкаваныя героі*
*толькі душы не задушыш*
*толькі думкі…*
*неяк так*

## Замова

*Цмок стары п'е кроў здаўна,*
*не насмокчацца ніяк.*
*Ад відна і да відна…*
*Ненажэрны ваўкалак.*
*Клешч хутка лопне, лопне, лопне,*
*звар'яцелы крывасмок.*
*Клешч хутка лопне, лопне, лопне,*
*і развіднее, й сыдзе змрок.*

## Карнікі

*Чорная навала*
*на маёй зямлі.*
*Ў масках-балаклавах*
*нелюдзі прыйшлі.*
*Навалач без сэрцаў.*
*Нечысць без крыжа.*
*Карнікі ў берцах*
*чыняць безмяжак.*
*Пад бранёю вашай*
*не схаваць хвастоў.*
*Забірайце сашу*
*and go to Rostov.*

## Пераможам

*Ад таго, што наўкола,*
*няпроста не страціць розум.*
*Словы рэжуць горла,*
*па сэрцы ідуць барозны.*
*Пацукоў ванітуе,*
*іх човен трасе.*
*Але здрыснулі з борта*
*далёка яшчэ не ўсе.*



Фота www.torange.ru

*Можа, моцныя ды смелыя*
*ўсе*
*закапаны ў полі?*
*Бел-чырвона-белыя*
*душы*
*равуць ад болю.*
*Выбух. Святло.*
*Ціша.*
*І…*
*новы гук.*
*Гэта недакладна, але*
*нараджаецца пацук.*
*Жывіцца праклёнамі лжывы*
*псіхапат.*
*Ў белых палітонах стратэгі.*
*Шах і мат.*
*Ружы нашыя*
*ператворацца*
*ў ружжы раптам.*
*Нават херувімы цяпер*
*размаўляюць матам.*
*Гэтыя радкі, імаверна,*
*начынены тратылам.*
*Ключык залаты*
*Тартыла*
*зжэрла ды забыла.*
*Гэтыя радкі, верагодна,*
*прапітаны напалмам.*
*Моцныя ды смелыя,*
*мы*
*пераможам малпаў…*

* * *

*Не блытайце героя лірычнага*
*з аўтарам,*
*нават калі ў іх адзін творчы метад.*
*Блытаць няварта фюрэра з фатэрам,*
*нават калі вы прапісаны ў гета.*
*Не блытайце турызм з эміграцыяй,*
*сябры,*
*як раяць змагары.*

*а ў бары, бары*
*удзень — авадзень*
*ўвечары — камары*
*кінуць вечны плач*
*кпіны бульбасрач*
*памяняць ландшафт*
*завяршыць гештальт*

*а ў бары, бары*
*заселі ціхары*
*гэй, гэй, гэй-гэй*
*мары-камары*
*гэй, гэй, гэй-гэй,*
*бабарыбары*

## Адрынутыя

***Паўлу Севярынцу***

*Адрынутыя —*
*ты,*
*я,*
*мы.*
*На вуснах патрэсканых*
*прысмак зімы.*
*На вуснах скрываўленых*
*прысак вайны.*
*У лоб дубальтоўку наставіла восень.*
*Бы высыпкі воспы*
*на целе радзімы, —*
*«хіміі», зоны, астрогі.*
*Гуглі ні гуглі —*
*не знойдзеш дарогі*
*да пункта з назовам Куплін.*
*Халодныя вочы*
*няўтульныя зімы.*
*Пачварныя плямы*
*на целе радзімы.*
*Няўтульныя вочы,*
*халодныя зімы.*
*Плямы — мы.*
*Нас тысячы.*
*Ты сячы,*
*а мо й мільёны.*
*Ззяюць знічы*
*сярод гэтай ночы.*
*Цэлы народ замкнёны.*
*Колькі такіх,*
*каго без віны?*
*Ўшчэнт, падыспад,*
*у тыя віры…*
*Ці маецца дно*
*у глыбіні?*
*«Хімік» —*
*гэта ж ад «схімніка»?*
*З узбочыны скрушна*
*тарэшчыцца крушня.*
*Вось сімвал сцюдзёнага выраю.*
*Заўважана слушна.*
*God, where are You?**

*Яны адграбуць, Паша, помні*
*па поўнай.*
*Хоць тое й не наш,*
*хрысціянскі, метад.*
*Але ж адграбуць, Паша,*
*ведай.*

* Божа, дзе Ты?

**2012**

## Аблокі

***Алесю Юркойцю***

*А недзе наверсе лятуць аблокі,*
*а дзесьці над шэрасцю — ясны блакіт.*
*І цяжка паверыць, што з гэтай аблогі*
*ёсць вызваленне, што сыдуць снягі,*
*што новае неба па-над смугою*
*заззяе бурштынам сакавіка…*
*І усміхнецца ранак герою.*
*І ён усміхнецца ў адказ.*

## Бэтмэн вяртаецца

*Лісце з бязвыйсця пад колы кідаецца*
*клёны з праклёнамі ў шыбу ўзасмок.*
*Ляскае горад сталёвымі сківіцамі,*
*фары ўгрызаюцца ў чэзлы паўзмрок.*
*Бэтмэн вяртаецца з бэтлу пад раніцу*
*ў свой запляваны цёмны пад'езд.*
*Слізгае ў фортку дзеўчына-котка,*
*зрэшты, цяпер крыху не да яе.*
*Ўсё у парадку. Айфон — на зарадку.*
*Піва ў лядоўню, крылы ў кут.*
*Выхапіць поўня надпіс няроўны*
*маркерам чорным:*
*«LU.. НА МУКУ»*
*Бэтмэн кладзецца ў ложак астылы*
*з веданнем пэўным: хутка гамон*
*прыйдзе рэжыму, й ні Джокер з Пінгвінам*
*не ўратуюць, ні НКУС, ні АМОН.*

*Спіце ж спакойна й вы, гараджане.*
*Волі світанне не за гарой.*
*Цемра растане. Паспі й ты, кажане.*
*Хутка на працу,*
*супергерой.*

## Коля Малфой ідзе ў школу

***З лістоў да Луцыуса***

*Ты праўда думаў, Луцыус, што гэта была добрая ідэя?*
*Хогвартс? Ты сур'ёзна?*
*Аддаю даніну тваёму высакародству:*
*цябе не засмуціла, колькі майданутых паўкровак*
*будзе вучыцца побач з тваім хлопчыкам…*
*(Табе, вядома ж, дакладалі і пра Мірона Потэра, і пра іншых крымінальнікаў, тваёй бязмежнай літасцю выпушчаных з Азкабана.)*
*А як быць з тым нажом у спіну ад гэтых няўдзячных нягоднікаў грыфіндорцаў,*
*тваімі грудзямі ўскормленых?!.*
*Так, ты прыставіш да хлопчыка двух дэментараў,*
*Пажыральнікі будуць забяспечваць*
*пільную ахову ад заклёнаў*
*на іх гнюснай гаворцы,*
*Міністэрства магіі, вядома, выдасць асаблівую пастанову ўставаць*
*і замружвацца*
*пры з'яўленні Малфоя малодшага*
*(ну, а некаторымі асабліва гаваркімі чальцамі Ордэна Фенікса хай займаецца іншае Міністэрства)…*
*І ўсё ж пагадзіся, Луцыус,*
*гэта памылка.*
*Паглядзі, нават Валдэморт*
*Валдэмортавіч,*
*сам Цёмны Лорд наклаў на сваіх чадаў абаротныя заклёны,*
*каб ніхто не знаў, не ведаў.*
*Так, Хогвартс — найлепшая школа*
*чарадзейства,*
*але падумай, Луцыус,*
*ці навучаць там карыстацца чароўным дручком*
*паводле яго прамога прызначэння,*
*не кажучы пра забароненыя там «Авада Кедаўра»?..*

*Дарэчы, вайсковая форма хлопчыку дужа пасуе!*

*Твой,*
*Хрэніус*

## Рыбацкая надзея

*Рыбацкая надзея*
*не чэзне, не марнее,*
*не гасне на дажджы,*
*ад ветру не дрыжыць.*
*Рыбацкая надзея*
*з гадамі маладзее,*
*не слепне ад сляпня,*
*шаршня ды авадня.*
*Рыбацкая надзея*
*у цёплым іле млее.*
*Ці дрэмле пад карчом*
*двухкілевым ляшчом.*
*Рыбацкая надзея*
*пільнуе далячынь.*
*Шапоча чаратамі*
*ды срэбнымі хвастамі*
*паблісквае ўначы.*
*На кончыку плыўка,*
*ў трываласці садка,*
*у тэрмаску з пярлоўкай*
*да першае паклёўкі…*
*Яна жыве датуль,*
*жывы рыбак пакуль.*

* * *

*Не гасі ліхтара*
*у вакне,*
*калі нават у сэрцы імгла,*
*калі ўсё — у густым тумане́,*
*не гасі у вакне святла.*
*Не гасі у вакне ліхтара,*
*калі нават вайна*
*у вакне,*
*калі ў сэрцы імгла і страх.*
*Не гасі ліхтара.*
*Для мяне.*



Васіль БЫКАЎ

# На чорных лядах




Фота www.pinterest.com

Называецца — даваяваліся!.. Тое, што яны даваяваліся дарэшты, да астатняй магчымасці, камандзір зразумеў не цяпер і не ўчора, як іх прыціснулі да ракі і секлі ў кустоўі з кулямётаў, а яны толькі агрызаліся рэдкімі вінтовачнымі стрэламі. І нават не тыдзень таму, як змардаваныя, галодныя, невялічкаю групай, рэштаю батальёна туляліся па лесе, не ведаючы, куды паткнуцца, дзе раздабыць правіянту, таба́кі, пару начных гадзін адпачыць у спакоі. Іх трагічную нявыкрутку камандзір выразна адчуў ужо на пачатку вясны, як стала зразумела, што гэты раён абкладзены з усіх бакоў — ва ўсіх блізкіх і далёкіх вёсках, на хутарах і фальварках поўна чырвонаармейцаў, якія браліся за іх няспешна, абачліва, грунтоўна. Тыдзень таму іх выкурылі з наседжанага хваёвага грудка ля балота, не далі перайсці рэчку ў суседні раён, яны ледзьве адарваліся ад цэлага палка чырвоных. Увесь дзень учора бахала-трахацела на тым баку лесу, спярша гучна тахкалі стрэлы, гайдалі лясное рэха кулямётныя чэргі, а пасля, пад вечар, усё неяк неўпрыцям сціхла. Мяркуючы па ўсім, прыйшлі кранты і на групу Улашчыка, якая спрабавала атабарыцца ў тым баку лесу. Значыцца, і там не было паратунку, як не было яго тут, каля Морачы, як не было ў гэтых лясах, у акрузе — па ўсёй Беларусі. Яшчэ ўзімку, седзячы ў заснежаных лясавых нетрах, яны спадзяваліся перачакаць халады, дачакацца вясны, калі, можа, яшчэ ім пашчасціць. Ды не пашчасціла. Па цяплу, па зялёнай траве і тым стала лацвей, і тых актывізаваліся, згрупаваліся, абкружылі і пачалі паляванне па ўсіх правілах палявой навукі — бы на ваўкоў. Во тады й стала зразумела, што іх дні палічаныя, не сёння, дык заўтра яны ўсе палягуць.

Ад самае раніцы яны аслабела валакліся па лесе, кожны стараўся не дужа адстаць ад пярэдняга, а ўсе разам — ад камандзіра, які то хістка сігаў наперадзе, то спыняўся сярод хваін, слухаў, азіраўся. Азіраючыся, ён паварочваўся ўсім целам, бо не мог паварушыць галавой на збалелай, абвязанай брудным ручніком шыі. Параненая яшчэ на пачатку зімы шыя не гаілася, гніла, рудая жыжа цякла з яе па грудзях, на жывот, павязка заўсёды была мокрая. Навокал пакуль што было ціха і глуха ў гэтым глухім кутку лесу, толькі хваёвы шум слаўся ўгары, мерна гайдаліся хвойныя вершаліны; часам ціха патрэсквала сухое голле пад нагамі тых, хто ззаду аслабела дабрыдаў да пярэдніх. Тады, па чарзе спыняючыся ля камандзіра, усе слухалі, азіраліся, бы штосьці выглядваючы па баках. Яны не размаўлялі цяпер, ды і даўно ўжо не размаўлялі паміж сабой, бо ўсё было перагаворана, вядома; спрачацца не было пра што. Есці таксама ў іх не было нічога, не было чаго закурыць. З боезапасу засталося ўсяго па два-тры патроны на вінтоўку ды шэсць патронаў у барабане камандзіравага нагана. Гэта і ўсё. Адбівацца ў іх не было чым.

Але добра яшчэ, калі ўсіх пераб'юць. А калі каго возьмуць параненым, непрытомным, павязуць у горад ды пачнуць вызнаваць, чый, каму якая радня, хто бацькі, жанкі, дзеці? Тады што? Не, яны даўно ўжо ведалі, што пагібель — не найгоршае з усяго, што нарыхтаваў ім іх паўстанцкі лёс. Горш, калі яны, гінучы, пацягнуць на пакуты іншых, тых, дзеля каго, па сутнасці, распачалі ўсё тое. Нават забітымі яны не знойдуць паратунку ад бальшавікоў. Як той Аксяневіч з Курбыкам, што асталіся ля ракі. Забітых іх павезлі ў горад — на апазнанне. Тры дні іх целы ляжалі на фурманцы ля штаба, куды па чарзе ганялі гараджанаў, вяскоўцаў, і нехта іх апазнаў. Апазнаў на гора бацькам і родзічам, якім той жа начы павязалі за спінаю рукі й павезлі. Куды — хто ведае. Таму яны наважыліся. Доўга не абмяркоўвалі, камандзір сказаў, і ўсе пагадзіліся, выйсця ў іх не было. Зброю — вінтоўкі і наган — пакінуць з сабой, а паперы, якія дакументы раніцай сабралі да купы і спалілі ў ядлоўцы. І засталіся без імёнаў і прозвішчаў, без роду-племя — восем абадраных, згаладнелых, аброслых барадамі валацуг, што вырашылі сёння канчаць...

Рабіць тое трэба было як найхутчэй, пакуль тыя з начы, здаецца, згубілі іх след у гэтым лесе, і яны адарваліся ад даганятых, неяк заблыталі на балацявіне сляды і выйшлі ў ціхі лесавы край. Хоць тая цішыня магла быць здрадлівай, кожную хвіліну яны рызыкавалі наскочыць на бальшавіцкі ланцуг ці засаду. Зноў жа доўга брысці ім не выпадала, камандзір ведаў, што тут недзе павінны пачацца Чорныя ляды, а далей, можа, вярсты праз тры, баравы хвойнік сосончыка, пачнецца лугавы прасцяг з дарогай — там ужо, напэўна, іх чакаюць. Ну, але пакуль што, здаецца, ім далі нейкі перадых, у лясной глушы нідзе не было чутна ні голасу, ні крыку, ні стрэлу. Толькі б нагледзець здатнае месца, якую баравінку, пагорачак. Але ў гэтым раўнінна-забалочаным краі нідзе ніякай баравінкі — спрэс дрымучыя лясныя нетры, бярозы ды сосны, імшарыны, пясчаны, парослы ядлоўцам дол. І яны валакліся, аж покуль наперадзе не паказаўся прагал, зверху шэра засвяцілася хмарнае неба, у доле непадалёк відаць стала нагрувашчанне карчоў, звалочаных сюды з недарасцярэбленых лядаў. Мясціна, вядома, не самая лепшая, падумаў камандзір, але ўжо якая ёсць. Брысці далей было зусім рызыкова.

Ён стаў, паазіраўся. Адразу ж за ім спыніўся і запытальна зірнуў на яго той, што ішоў следам — мажны, хоць і малады яшчэ чалавек са святлява аброслымі шчэццю пашчэнкамі, апрануты, як і камандзір, у доўгі, са скарэлым крыссем шынэлак.

— Што, тут, камандзір?

— Тут.

— Можа б далей?

— Не, далей нельга, Мяцельскі. Можам не ўправіцца. Адна ж рыдлёўка.

Самотны цень мільгануў і прапаў у светлых вачах Мяцельскага — той быў камандзіраў памочнік і цяпер без загаду зразумеў найпершую задачу.

— Казак, давай! — стрымана гукнуў ён таго, хто валокся трэцім у гэтым разбрыдным страі. То быў нізенькага росту, нявідны паставай чалавечак у шэрай паддзёўцы са стрэльбай на рамяні і кароткай, засунутай за дзягу рыдлёўкай. Болей рыдлёўкі ў іх не было ні ў кога. На хадзе вымаючы яе з-за спіны, Казак падышоў да начальнікаў і спыніўся.

— Ну што? Капай!

Без роспыту і лішніх словаў Казак пачаў раскопваць мяккую імшарыну, пад якой апынуўся светлы, амаль белы баравы жвір. Казак быў чалавек паслухмяны, ніколі не пярэчыў начальству, што скажуць, тое і зробіць. Да таго ж зусім негаваркі, болей маўчаў, і ніхто ніколі не ведаў, што яго найболей турбуе. Нават ці турбуе наогул. А мабыць, турбавала, як во цяпер, калі ён дужа хацеў курыць. Есці хацеў таксама, але голад для яго быў пачуццём звыклым, ён нямала нагаладаўся за жыццё, але каб не курыць?.. Без табакі ён доўга не мог, ён тады проста маўкліва марнеў, і на абвялым, у рэдкім валассі твары яго была невымоўная пакута.

Іншыя, пакрысе падыходзячы да гэтай мясціны, спыняліся, моўчкі, з насцярогаю пазіралі ў раскапаны дол, чакалі. Мабыць, усе ўсё разумелі, тлумачыць нікому не было патрэбы. Мяккі, парослы беламошнікам жвір ляцеў з Казаковай рыдлёўкі пад іхныя ногі — на старыя змакрэлыя боты, разлезлыя аўстрыйскія гамашы і нават лапці з аборамі, як на нагах у Дзеда — дужа чорнабародага, з чорнымі густымі брывамі шарагоўца. Не страсаючы абсыпаных жвірам лапцей, той адышоў наводдаль і апусціўся на дол. Галава яго неяк сама сабою ўгнулася, унурыўся позірк, вусны заварушыліся, нібы творачы святую малітву. А можа, і не малітву, можа, ён проста штось гаварыў сабе ці людзям. Разабрацца ў тым, аднак, не было каму, кожны імкнуўся засяродзіцца ў сабе, хіба апроч Кажухара. Гэты меў такое прозвішча, бо некалі шыў кажухі, у адным з якіх, мабыць, быў і цяпер — несамавітай, счарнелай ад вільгаці апратцы з аблезлым каўняром. За пазухай перад сабой ён ашчадна трымаў правую, тоўста абкручаную нейкай анучай руку. Тыдзень таму на шашы яе добра-такі лупанула бальшавіцкая куля, і цяпер Кажухар дужа пакутаваў. Са скрыўленым ад болю, даўно не голеным тварам ён патупаў каля людзей ды сеў побач з Дзедам.

— Ну во, братка, як яно ўсё атрымалася...

Яму відавочна хацелася пагутарыць, пабедаваць, каб хоць як заглушыць боль у руцэ, але Дзед не адказаў — таму, мабыць, балела сваё.

«Атрымалася!» — паўтарыў у думках Ігар Забела, што ачмурана стаў насупраць. Трэба б неяк падбадзёрыць сябе, але ў яго проста не знаходзілася для таго словаў. Вусны яго на момант здрадліва скрывіліся, вочы гатовыя былі пакрыцца слязмі. Неяк, аднак, ён намогся, асіліў нечаканую слабасць, цвярдзей сашчапіў голыя юначыя пашчэнкі і адвярнуўся.

Неўзабаве да выразна азначанай у імшаніку яміны падышлі й астатнія; хто стаяў адвярнуўшыся, хто апанурана пазіраў на ўвішнага Казака ці сабе пад ногі. Аўстрыяка нядоўга пастаяў сярод іншых ды, забіраючы паўколам навакол, памалу пайшоў па лесе. Каб стрымаць раптоўную немач, ён пачаў пазіраць угору, між хваёвых вершалін, што ціха і мерна пагойдваліся над голым яшчэ, бязлісцевым веццем бяроз. Недзе там, у глыбіні неба, плылі й плылі шэрыя веснавыя аблокі, што неслі кудысь веснавыя дажджы — на азіміну, пад ярыну, на родныя палі й гоні. Яму ж, Аўстрыяку, ужо не давядзецца выйсці на поле, натрудзіць далоні аб ручкі плуга, удыхнуць хмельны пах ворнай зямлі. А так хацелася... Тое карцела ўвесь час, снілася па начах. Як тры гады гібеў у пацуковых акопах той мікалаеўскай, як галадаў у бараку аўстрыйскага палону. Затым як уцякаў дамоў, прабіраючыся начамі праз чужыя палі й пералескі.

Камандзір, крокі на тры адступіўшы ад ямы, як заўсёды, з засяроджана стрыманым выглядам думаў сваю неадчэпную думу пра гэтых людзей. Цяпер ім патрэбна была якая гадзіна спакою, каб не пашкодзілі тыя. Праўда, пакуль было ціха, але ён не меў ніякай гарантыі, што цішыня задоўжыцца і дасць магчымасць зрабіць задуманае.

Вядома, усё тое было жахліва, не па-чалавечы і не па-боску, напэўна, але што ж ім рабіць? Увесь гэты жах утварыўся не з іхняй волі — д'ябал ці лёс падвялі іх менавіта да такога выніку. Іншага не выпадала. Іншы быў яшчэ больш жахлівы, з двух жахаў яны выбралі найменшы. Каб толькі давесці ўсё да канца, а там... А там хай жыве Беларусь! Без іх.

Напрыканцы ўсяго надта карцела абвінавачваць іншых, тых, каго цяпер тут не было. Але камандзір адчуваў, што не трэба вінаваціць — ні зачыншчыкаў, ні кіраўнікоў. Рабілі ўсе, як умелі, хоць умельства таго й бракавала. І ў кіраўнікоў з'езда, і ў камісара Жаўрыда. Але ўсе — ад шчырага сэрца, дзеля карысці народа. А што да камандзіраў палкоў, дык тыя (можа, за выключэннем аднаго здрадніка) і зусім паводзілі сябе па-геройску, шчыравалі, не шкадуючы ўласных жыццяў. Ды марна, нічога не пайшло на карысць. Усё на згубу. Як заўжды, маса засталася ўбаку, не падтрымала іх Беларусь. А супраць, не памарудзіўшы, выступіла сіла, якую яны, здаецца, не ўлічылі. А галоўнае, змарнавалі самы дарагі час — на размовы-перамовы, узгадненні, паразуменні. На дэмакратыю. А тыя не перамаўляліся, тыя знай білі. Цяпер вось расплачвацца.

**Увесь гэты жах утварыўся не з іхняй волі — д'ябал ці лёс падвялі іх менавіта да такога выніку. Іншага не выпадала. Іншы быў яшчэ больш жахлівы, з двух жахаў яны выбралі найменшы. Каб толькі давесці ўсё да канца, а там... А там хай жыве Беларусь! Без іх.**

Працяг на стар. 12 (6) »

# Куст язміну звініць



Алена БРАВА

Гладкія чорныя валасы Геры — так ён, дарэчы, прапанаваў мне, а не табе, ма, яго называць — блішчаць цьмяна, акурат шэрсць спешчанага ката. Падабенства ўзмацняюць вусы, на іх ты, падазраю, і запала, а як жа, вобраз бацькі, дзяўчынка ў белых калготках і белых бантах плыве на татавых плячах сярод хранічнага зацяжнога першамая.

Госця ты, вядома, пасадзіла на канапу перад тэлевізарам, уключаць які сёння не будуць: мы самі гаворым і паказваем! Але вось перашкода для раскошы чалавечай камунікацыі: у нас дома няма штопара, ад алкаголю ў цябе баліць галава, а госці цяпер такі ж атавізм, як і вусы, твае сяброўкі ў твой дээр шлюць табе эмадзі ў выглядзе чаркі. І вось у цябе госць, не віртуальны, а віно адкрыць няма чым, ай-яй-яй, што зараз будзе! Твая хлусня — тэлефонны званок яму нібыта ў стане алкагольнага ап'янення, які ўраўноўвае цябе з проста бабай, ён баіцца цябе, зразумей, Ляля, ты ж у нас няпростая, так, мам? — твая хлусня праз секунду раскрыецца!

Гэта, вядома, была крайняя мера. Да гэтага ты ящчэ спрабавала захаваць твар і тонка намякала яму ў прыват пра спатканне, а ён не ўязджаў, бо гэта было тваё жаданне, не яго. Такія ўніклівыя яго паводзіны павінны былі цябе насцярожыць, але — навошта? Калі ўжо яно з табой нарэшце здарылася. Сонечны ўдар, апошні вагон ці як там гэта называецца ў літаратуры.

І тады цётка Валя, твая, так бы мовіць, сяброўка, параіла табе набрацца ў дупель, патэлефанаваць яму і запрасіць прамым тэкстам, калі й пашле — да п'янай якія пытанні, вучыла гэтая сука Валя, скажаш потым, што ні храна не памятаеш. І мая маці, дацэнт няхай не сталічнай, але таксама не самай адстойнай ВНУ, сапраўды патэлефанавала гэтаму мужчыну падобным на спушчаную панчоху голасам, паставіўшы перад сабой — для ўваходжання ў вобраз раскаванай шукальніцы прыгодаў — бутэльку віна. Якую нават адкаркоўваць не стала.

Дзевятнаццаць гадзін пяцьдзясят хвілін. З раніцы была адліга, а цяпер мінус тры і страшэнны вецер. На мне джынсы, чаравікі, кароткая куртка. Калі б ведала, што буду стаяць пад вокнамі тваёй кватэры, — пра тое, што яна — твая, ты інфармуеш мяне даволі рэгулярна, — апранула б пухавік. Карціна алеем: узорная дачка дазваляе трохі пажыць асабістым жыццём сваёй адзінокай матулі, у якой раптам здарылася каханне. Аварыя ў апошнім вагоне.

Але вернемся да лайфхака з бутэлькай. Гэта спрацавала. Дзіва што. Жыццёвы досвед такіх сцерв, як Валя, нафаршыраваная філерамі, нібы курыца — чарнаслівам, дакладна не з раманаў пра цнатлівых сакратарак і высакародных алігархаў. Раманаў, якія гэтая Валя, па незразумелай прычыне, дорыць мне ў дзень народзінаў гадоў з дванаццаці. Мабыць, уяўляе, як твая спакутаваная ад пубертату дачка накідваецца на іх, бы булімічка, што сарвалася з разбы, на піроржныя з крэмам. Ты дзякавала Валі, якая адразу ж надыктавала табе, ад шчадротаў сваіх, рэцэпт цялячых рулецікаў — спецыяльна для спатканкі з ім, Германам-Герай. Увесь працэс, з нарзаннем, адбіваннем, саленнем-перчаннем, скручваннем у міні-скруткі, запяканнем — заняў паўночы, значна працэй было замовіць сушы або піцу з дастаўкай. Мая маці пераканаая, што гатаваць для сябе — пустая трата часу, я не ў лік, ува мне яна бачыць сваю копію, якой выраклася. Але дзеля сэксу з гэтым мужчынам пакорліва скручвала і запякала.

І вось — адбылося: непаслухмянае дзіцятка ляжыць у яе фартуху, па-воўчы ляскае зубамі — у-цю-цю, агушанькі, у нас ужо малочныя прарэзаліся! Сямімесячнае немаўля лічыцца неданошаным, а закаханасць з такім тэрмінам: роўна сем месяцаў таму ў кватэру на першым паверсе ўехаў новы жылец, і мая маці, адшукаўшы яго ў сацсетках, завяла сабе акаўнт і набілася ў фрэндэсы — закаханасць з такім тэрмінам яўна пераношаная і крыху перакошаная ад спазму самаацэнкі, бо так званы Гера купіўся на маміны тварныя дадзеныя далёка не адразу.

Ды і не купіўся ён зусім. Мне гэта стала зразумела на наступны дзень пасля тваёй, мамачка, «горячительной» тэлефоннай лініі. Ён зноў падпільноўваў мяне, калі я вярталася са школы, за прыадчыненымі дзвярыма сваёй кватэры; вой, Лідачка, можа, гарбаткі пап'ем? А чаго, і пап'ем, адказала я раз'юшана, — перада мной яшчэ стаяла маці, якая недарэчна крыўлялася са слухаўкай у руцэ, яна думае, я спала і не бачыла яе прыніжэння. Ашалелы ад шчасця, ён кінуўся на кухню арганізоўваць гарбату, я тым часам сунула нос у адкрыты ноўт і прабегла з дзясятак старонак яго новага рамана, Гера ж у нас пісьменнік, і калі ён пад маркай гарбаты з печывам спрабуе пагладзіць мяне па каленцы, трэба разумець, што ён так вывучае жыццё.

Чаму ён усё ж такі папёрся да нас дамоў? Ну, мам, гэта ж элементарна. Ты не пакінула яму выбару. Ды і аматару малалетак — хто з нас спецыялістка па літаратуры XX стагоддзя, ты ці я? — выгадна становішча сябра сям'і. Дарэчы, як там у вас справы? Усё яшчэ перажываеш з-за штопара? Чырванееш і мямліш, а да суседкі бегчы не хочаш, каб не спаліцца канчаткова? Можаш не хвалявацца: ён даўно забыўся на тое, што апынуўся госцем па тваім жаданні, — зразумела, ён сам гэтага захацеў, таму і тут. Аб'яўляе, мабыць, што адкрыць бутэльку падручнымі сродкамі



Фота www.goodfon.ru

паспрабуе, хоць і не гарантуе поспеху: ён павышаў кваліфікацыю не на гэтай кафедры. Ніколі нічога падобнага не рабіў, хлусіць на чорным воку Герман-Гера, які днямі зухавата адкаркаваў нажом бутэльку сухога. «Можа, вып'еш са мной, малыш?» — «Не».

Мяркую, абрад ініцыяцыі пройдзены. Цяпер госць з веданнем справы разлівае безрэцэптурны сродак, які часта прапісвае сам сабе, па келіхах, я іх, дарэчы, перамыла да Новага года, ты хоць заўважыла? Думаю, не, як і мой падарунак не гледзячы змахнула ў скрыню стала. Крыху віна дастаецца святочнаму абрусу з цэлым гарэмам ліловых касачоў, кранальных, нібыта пахаваныя жыўцом юныя наложнікі. Ацані стыль, ма, вось што значыць вадзіцца з пісьменнікам. Пачакай, зараз ён пачне шпігаваць цябе гісторыяй свайго жыцця, яна ж — сюжэт яго рамана, доўга табе не вытрымаць, гэта вельмі нудна.

Дарэчы, ты ў курсе, што творыць ён пад псеўданімам Герундый Г.? Яго пошласць, па-мойму, адмятае ўсякія паралелі з часцінай мовы, у якой усё ж такі прысутнічае нейкі брытанскі арыстакратызм. Цяпер ён піша раман пра свой развод. Робячы акцэнт на кватэрным пытанні. Не сумняюся, гэта адзіная гісторыя, якую табе здольны распавесці дадзены кадр — самазадаволены, балбатлівы і абмежаваны, у чым ты неўзабаве пераканаешся. І выставіш яго за дзверы. А я вярнуся дадому — ногі, дарэчы, ужо змерзлі.

Дваццаць гадзін трыццаць хвілін. Ты, па-мойму, не помніла сябе, калі выставіла мяне за дзверы. Я толькі паспела адамкнуць іх сваім ключом, як ты выскачыла ў калідор з адным нафарбаваным вокам, перакошаным ад панікі: «Хіба ты не на ангельскай?! Сыйдзі... калі ласка! Да мяне зараз прыйдуць!». Ого, стол накрыты абрусам — тым самым, з ліловымі наложнікамі. «Хто прыйдзе?» — «Якая розніца! Я ўсё жыццё прысвяціла табе, усё! Магу я атрымаць хоць штосьці для сябе?!» І кінула, ужо мне ў спіну, зачыняючы дзверы: «Сходзі да Насці». Я не паспела адказаць, што мая рэпетытарка па ангельскай мове раптам адмяніла ўрок, а аднакласніца Насця, якая жыве ў суседнім пад'ездзе, тыдзень як у лякарні.

Лезу ў кішэню па мабільнік — ён цалкам разрадзіўся. Нечаканка. Зрэшты, мабільнік пры такім вятрышчы — так сабе ўцеха. Лепш паскакаць на месцы. Што там у вас адбываецца, га? Нешта мне падказвае: мама ўносіць суперстраву. Паўночы яна пісала гэтаму мужчыну жарсныя лісты на рулецікаў з цяляціны, да кожнага маленькага скрутка прымацаваны кружок морквы, бы сургучная пячатка. Гэтыя смачныя пергаменты хутчэй крануць яго сэрца, чым твае паведамленні ў прыват, хай сабе і поўныя бляску эрудыцыі, бо хатняй ежы ён даўно не еў, а жаночы розум для такіх, як Гера, проста цацка. Адкуль я гэта ведаю? Сацсеткі, мама, адбіраюць час, але эканомяць жыццё. Ты і твае раўналеткі ўсе кейсы правіралі на ўласнай скуры, нават падумаць страшна.

Ну, пераканалася? Твае мясныя лісты ён чытае за абедзве шчакі. Ты ж чытаеш ягоны твар, а што там, дарэчы, напісана? «Разумееш, яму складана заводзіць кантакты, у яго гіпертрафаванае пачуццё экзістэнцыйнай віны», — тлумачыла ты Валі, ну так, так, таму ён табе і не тэлефануе, ясны перац. Зараз ён дачытае чарговую эпісталу з забітага каровінага дзіцяці, пасля чаго: а) пераадолее экзістэнцыйную віну — затое віне перад цялём якраз знойдзецца тлумачэнне; б) даведаецца, якая ты выдатная гаспадыня. Пункт «б» яму, уласна, ні да чаго, бо ты ж не збіраешся за яго замуж. Ці збіраешся? І тады ў мяне надыдуць вясёлыя дні, як у дзяўчынкі з ЮэсЭй, кніжку пра яе Герундый падсунуў мне ў першы ж дзень, калі я наведалася да яго ў кватэру. Наіўны. Гісторыю маленькай Ло я прачытала, калі мне было столькі ж гадоў, колькі маленькай Ло. А ты — гадоў у дваццаць пяць і, здаецца, нічога не зразумела.

Маё пачуццё да цябе, мама, нераўнамерна афарбаванае, нібы модная ў эпоху твайго пераходнага ўзросту спадніца-«варанка». Як зрабіць спадніцу аднатоннай? У якой фарбе выварыць любоў і гнеў, каб яны перакіпелі й ператварыліся ў цікую абыякавасць? Цяпер у модзе аплікацыі. Ну, там кавалачак скуры, чырвонага аксаміту. Падыдзе і абрэзак ад плашча міні, які мая бабуля трыццаць гадоў захоўвае ў шафе ў надзеі на тое, што пачнецца новае, лепшае жыццё, вось тады яна і надзене плашч, імгненна скінуўшы лішніх кілаграмаў трыццаць, год мінулага за кілаграм. Аднойчы я забылася закрыць свой блог, які вяду пад нікам LaLida, — ты сунула нос і ўчыніла мне допыт адносна аўтарства. «Гэта блог адной маладой беларускай пісьменніцы». — «Я і не сумнявалася: мая дачка не здольная так напісаць». А вось настаўніца беларускай мовы кажа, што я надзвычай разумная і таленавітая, з багатай фантазіяй, як табе?

А цяпер я збіраюся выкарыстаць сваю фантазію напоўніцу і паспрабаваць сябе ў драматургіі. Каб не адкінуць тут канькі — у тым ліку ад думкі, што дарагая мама выгнала мяне на мароз, адабраўшы ключы ад кватэры, каб я раптам не ўвалілася, калі яна будзе расшпільваць нагавіцы дарагому Геру. Калі не адмарожу пальцы, потым апублікую ў блогу.

ГЕРОЙ (сербануўшы віна). У мяне ўсё не выходзіць з галавы адна ваша фраза. Вы сказалі: «Не трэба адмаўляць сабе ў задавальненнях».

ГЕРАІНЯ (напружана ўсміхаецца, спрабуючы ўспомніць сваю нібыта п'яную балбатню па тэлефоне). Так... не трэба...

ГЕРОЙ (не забываючы актыўна пераЖоўваць). Хацелася б удакладніць, што вы мелі на ўвазе.

ГЕРАІНЯ (крышыць у пустую талерку хлеб, як быццам бы збіраецца пакарміць хічкокаўскіх чаек сваіх надзей). Ну, напрыклад... каханне.

ГЕРОЙ (павучальна). Каханне — моцнае пачуццё. Закахаўшыся, мы часта не можам кіраваць сваімі эмоцыямі. Правільным будзе наступнае сцвярджэнне: мужчына і жанчына прыцягваюцца адно да аднаго, бо з'яўляюцца двума супрацьлеглымі поламі. Кожны пол супрацьлеглы для другога, я маю на ўвазе. Вобразна кажучы, каханне — гімн прыродзе. А двое займаюцца любоўю пад гукі гэтага гімна...

Гераіня са шматзначнай усмешкай падымаецца, папраўляе ў вазе кветкі, якія купіла, вядома, сама, вядома, ружы. Ставіць музычны дыск і садзіцца бліжэй да героя.

ГЕРОЙ (адсоўваючыся). Аднойчы мой брат, ён доктар-венеролаг, сказаў: сэнс жыцця — у задавальненнях. Я думаю, пра гэта ён даведаўся ад сваіх хворых, ха-ха-ха, вы, напэўна, чулі гэты жарт: усе хваробы ад нерваў і толькі венерычныя — ад задавальнення

ГЕРАІНЯ (з усмешкай правіслай, як старая вяроўка для бялізны). І праўда, вельмі смешна.

ГЕРОЙ (прыглядаючыся да салаты з парніковых агуркоў, падобных — у незнявечаным выглядзе — да аксесуараў ролевай гульні ў іншапланецян). Давайце тэарэтычна ўявім сабе задавальненні ў выглядзе прыступак, а жыццё — у выглядзе лесвіцы. На першай прыступцы — задавальненне інстынктаў голаду і размнажэння. Як у медаля, тут, вобразна кажучы, два бакі: з аднаго боку, галодны чалавек неперабарлівы ў ежы. З другога — гурман аддае перавагу выштанчаным стравам (кідае пажадлівы позірк на мясныя рулецікі). З аднаго боку — німфаманія...

# ад ветру

ГЕРАІНЯ (гледзячы ў залу для гледачоў). Мне і не снілася.

ГЕРОЙ (пастукваючы відэльцам па стале, як па кафедры)….з другога — так-так, вы правільна зразумелі, каханне! Шчырае захапленне чалавечай прыгажосцю…

Я правільна разумею — Гера-Герундый не спяшаецца прайсці ў спальню, дзе, як у рэкламным кліпе аб крылатых анёлах-пракладках, выконваюцца ўсе жаночыя жаданні? Замест гэтага, размахваючы відэльцам, прапануе слухачцы адправіцца разам з ім у рызыкоўнае падарожжа: пазнаваць свет задавальненняў.

– Наступая прыступка лесвіцы, дарагая Людміла Сяргееўна, гэта мастацтва. Ну, значыць, літаратура, музыка, скульптура, — тлумачыць ён кандыдату філ. навук, як разумова адсталай. — Трэцяя прыступка — любоў да прыроды. Вы можаце бачыць на гарадскіх клумбах экалагічна бяспечныя расліны, а на дачных участках — рэдзьку або, да прыкладу, ружу. Ёсць яшчэ вандроўнікі, якія падарожнічаюць дзеля пазнання свету. У нашай з вамі маладосці была такая перадача па тэлебачанні, «Клуб кінападарожнікаў». Я заўсёды яе глядзеў.

Ты з абурэннем думаеш, што як-ніяк на тры гады за яго маладзейшая. Ад злосці ты скусала вусны ў кроў і пад шумок зноў пасоўваешся бліжэй да яго — дрэнная ідэя, твой госць і без таго ўпіраецца грудзьмі ў кут стала.

– Сядзьце бліжэй, вы ж зусім на краі, — цэдзіш ты з прыемнай усмешкай вампіра.

– Нічога-нічога, я ўжо быў жанаты, у другі раз не збіраюся, — міла жартуе ён.

Гучна сапучы, лесвіцу задавальненняў штурмуюць змрочныя прадчуванні й запозненыя адкрыцці. Калі ты зноў уключаеш слых, то чуеш:

– Брат у мяне старэйшы, а я яго малодшы брат. Мая мама вельмі добрая.

– Ах, яна, напэўна, вас проста абажае! — устаўляе зліў, што рабіць зусім не абавязкова: кажа зліў штосьці альбо маўчыць, у яго ўсё роўна спусціць усё, што палічаць патрэбным, а хоць бы і бульбяныя лупіны, і энергічна націснуць на ручку зліўнога бачка.

– Зразумела, я ж яе малодшы сын, а малодшых, я дзесьці чытаў, бацькі заўсёды любяць мацней за старэйшых.

Гэты тып гаворыць цытатамі са свайго рамана — дыхае і піша in the same way. І адно, і другое ў яго выходзіць настолькі пошла, што наводзіць на думку пра гульню банальнасцямі. Як бачыш, я ўважліва прачытала тваю манаграфію. Я палічыла б яго таленавітым тролем, калі б не была ўпэўнена, што ён клінічны графаман. Каб пераканацца ў гэтым, мне хапіла дзясятка старонак яго опуса — і ўсяго XX стагоддзя, прачытанага ў нашай хатняй бібліятэцы.

Але што адбываецца з табой, мама? Ты ж здольная адрозніць добры тэкст ад дрэннага і нават навучыць гэтаму іншых! Як страшна быць жанчынай, якая старанна вучылася ў дзяцінстве, абараніла дысертацыю ў сталасці, усяго дасягнула сама, па дарозе непазбежна згубіўшы перавагі, якімі валодае тупая васямнаццацігадовая прадавачка з піўнухі. А ў сорак чатыры раптам ператварылася ў звар'яцелую істоту, якая накупіла тону амаладжвальных крэмаў і з фальшывым захапленнем слухае — ужо гадзіну і пятнаццаць хвілін, мааа! — нейкага мудзілу, каб ён яе трахнуў.

– Бабуля маіх дзяцей па маці, гэта значыць, маці маёй былой жонкі, знайшла абмен кватэр, і мы з'ехаліся ў трохпакаёўцы ля ваенкамата, — мабыць, ён акурат ускараскаўся на ўлюбёнага коніка. — Там яшчэ крама «Насенне», вы ўяўляеце, дзе гэта, Людміла Сяргееўна? Ну, насупраць скурвендыспансэра, ведаеце? Кватэра была нязручная тым, што адзін з пакояў быў прахадны, гэта было вельмі праблематычна для міру ў сям'і, ну, вы мяне разумееце.

– Так, я вас разумею, — разумее Людміла Сяргееўна.

Дваццаць адзін дваццаць тры. Перабралася на дзіцячую пляцоўку. Тут хоць ад ветру можна схавацца. Рукі-ледзяшы, брр. Спадзяюся, хутка гэта скончыцца, бо ён, зуб даю, падышоў да кульмінацыі — разводу. Акно на другім паверсе працягвае роўна свяціцца. Мама не чакае дачку дадому.

– Хоць міру ў сям'і не было і да таго, як мы пераехалі да бабулі. Мая першая жонка была, ці ведаеце, поўная эгаістка, вобразна кажучы, чорная дзірка. Як я вам ужо казаў, адносіны маёй былой жонкі са сваёй маці, а маёй цешчай, не вызначаліся разуменнем. Неўзабаве мы знайшлі размен, але ён атрымаўся са стратамі.

Адносіны маёй маці са сваёй маці, а маёй бабуляй, таксама не вызначаліся разуменнем, ці ведаеце, мякка кажучы. А вобразна кажучы — мая бабуля вынула з валасоў і кінула за спіну грэбень, што належаў яшчэ яе маці, зубы таго грэбеня ператварыліся ў непралазны лес, у якім мая матуля дагэтуль блукае. Цяпер ёй здаецца: з'явіўся той адзіны, хто выратуе яе з гушчару, бы рыцар — прынцэсу, такі сэнс усяго гэтага беспантовага трэшу з кіданнем жаночых расчосак. На жаль, не атрымаецца.

– Кватэра была цесная, сантэхніка ў вельмі, вельмі дрэнным стане, яе трэба было тэрмінова мяняць, я тады адразу ж звярнуўся ў домакіраўніцтва, але мне сказалі, што гэта за наш кошт. У выніку дзеці апынуліся ў адным пакоі, але самае страшнае было не ў гэтым…

– А ў чым жа? — выпяваеш ты, з ціхай лютасцю прыкідваючы, колькі яшчэ табе слухаць гэтую сямейную сагу. Робячы круглыя вочы ў патрэбных месцах. Твая інтэлігентнасць тут нерэлевантная, мамачка. Трэба было набрацца ў дупель — цётка Валя мела рацыю! — і заваліць яго, як браканьерка — ласа. (Узброеная налётчыца — тлустага банкіра. Сакрэтная агентка амерыканскай выведкі — ёлупа-барбуда.) Папярэдне напаіўшы яго чымсьці мацнейшым за к'янці класіка.

Але мая мама не можа выйсці з вобразу харошай дзевачкі. Белыя калготкі. Белыя банты. Белы бусел з дачкой у дзюбе. Дачкой, якую ты выгнала сёння на мароз. Варта было гадаваць-забівацца!

– Самая страшная страта быў кенар, — чуеш ты праз смугу сваёй фрустрацыі. — За скандаламі з бабуляй не заўважылі, як кот, на жаль, не кастрыраваны, які жыў у бабулі і нават харчаваўся разам з намі за адным сталом, што катэгарычна шкодна з пункту гледжання асептыкі і антысептыкі, задушыў Рона, гэта значыць, кенара, і ён загінуў. Мая малодшая дачка патрабавала, каб я паказаў ёй месца, дзе закапаў цела Рона ў скрыні з-пад імпартных басаножак яе маці, якія мая былая жонка купіла на экскурсіі ў вільнюскім універмагу, то-бок экскурсія была ў горад Вільнюс, і калектыў народнага тэатра, у якім іграла мая жонка ў вольны ад хатняй працы час, стаяў у чарзе па басаножкі ў поўным складзе, таму басаножкі яны, можна сказаць, купілі хорам, ха-ха-ха. Але я, вы толькі ўявіце, нікому не паказаў магілу Рона!

Цяпер тваё цярпенне дакладна лопне, ты задушыш гэтага кенара, які расцвыркаўся тут, закапаеш у снезе пад балконам з захаваннем усіх правіл асептыкі і антысептыкі, каб вясной пасадзіць там экалагічна бяспечную рэдзьку або, да прыкладу, ружы. А яшчэ патэлефануеш у скурвендыспансэр і замовіш там сантэхніка, каб ён прыйшоў і кастрыраваў ката, якім ты да таго часу напэўна абзавядзешся.

Дваццаць адзін сорак. Можа, пайсці ў пад'езд? Ага, каб наша суседка, дурніца з аддзела адукацыі, якая на нажах з маман і ўсюды суне свой нос, наслала на нашу сямейку камісіі? Натоўп хмыроў будзе правяраць мой «рэжым» і капацца ў шафе — сэньк ю вэры мач…

Рэмейк аднаго рамана, не Герундыя. Лаліта развалілася ў фатэлі і, боўтаючы нагой у адной шкарпэтцы, злівае Г. Г. усе свае фрустрацыі з нагоды маці, аднакласнікаў, трагічнай гібелі любімага сабачкі і яго пахавання, прызнаецца ў комплексе Электры, але пры тым не дае ні за якія. Начапіўшы акуляры, да рання разважае пра лесвіцу дазволеных і недазволеных задавальненняў. Гумберт слухае яе адну ноч, другую, трэцюю… затым: а) забівае яе; б) забівае сябе; в) назаўжды вылечваецца ад згубнай жарсці (патрэбнае падкрэсліць).

Мая маці выбірае варыянт г): прыносіць другую бутэльку к'янці. Фіранкі на кухні не зашморгнутыя, і мне выдатна відаць, як яна бярэ віно з шафы.

– Усё больш пераконваюся, што ўсё добрае ў дзецях ад вас, — твой галасавы апарат у прынцыпе ніяк не звязаны з тваімі сапраўднымі пачуццямі. — Як важна мець побач бацьку, які здольны пахаваць птушачку, а не выкінуць у смеццеправод, як герой — так-так, Уэльбека, пісьменніка-маргінала. Вашым дзецям не пашанцавала з маці! — каб спадабацца яму, ты бэсціш няшчасную жанчыну. — Грала ў народным тэатры? Ёй што, сям'і было мала? Навошта нейкая там творчасць, калі ў цябе двое дзетак і разумны, таленавіты, абаяльны муж?

Хлусяць абое, але задаволены адзін. Папрокі былой жонкі абвергнутыя словамі аўтарытэтнай дамы, якая хваліць яго задарма — і на матывацыйныя трэнінгі траціцца не трэба. Цяпер ён, падтасаваўшы факты, «шчыра» паведаміць, як усё было «на самай справе», каб шаноўная дацэнт скончыла падчышчаць і рэдагаваць яго ідэальны вобраз, яго новую сучасную версію: добрага бацькі і мужа, непрызнанага генія.

А што застаецца табе? Узяць сябе за валасы, сцягнуць сваё хіцінавае пакрыва, набіць яго кнігамі, якія нічому цябе не навучылі, пустымі слоічкамі ад крэмаў, якія цябе не амаладзілі. Вусенямі безнадзейнасці, чарвякамі самоты, павукамі дэпрэсіі. Лічынкамі смерці. Каб гэтае пудзіла не лопнула, зацягнуць у яго на горле чорныя капронавыя калготкі.

Дваццаць дзве гадзіны. Вецер выдзьмуў з мяне ўсё цяпло. Калачуся буйной дрыготкай, бабуля сказала б — конскай. Жыла б бабуля ў нашым горадзе, я б да яе зараз пайшла, хоць яна і невыносная. У сацсетках у мяне сотні класных сяброў, а пайсці няма да каго.

Я ўсё разумею, мама. З часам — ужо хутка! — ты супакоішся, пачнеш таўсцець, змірышся з адзінотай. А сёння табе хочацца пабыць уратаванай прынцэсай ці кім там яшчэ. У апошні раз. Хіба гэта — злачынства? Сэкс для цябе заўсёды быў па талонах, блакадных сто грамаў у адны рукі, і рукі павінны быць чыстыя, што няпроста, калі ўсё адбываецца на заднім сядзенні машыны, а прывесці каханка дадому ты не магла з-за дачкі. Цябе ж навучылі, бабуля і тэлевізар, як выхоўваць дачку правільна.

Ну, правільна — гэта як? Нельга падаваць дзяўчынцы кепскі прыклад, інакш яна сап'ецца, згуляецца і абавязкова прынясе ў прыполе. Ты ставіш засечкі на дзвярным вушаку, пачынаеш ціха ненавідзець упарты рост дачкі і свае новыя зморшчыны. А што ты так падоўгу робіш у лазенцы, матуля, і потым выходзіш з заплаканымі вачыма, бо табе горка рабіць гэта адной, праўда? Дачка вырасла, цяпер ты можаш дазволіць сабе мужчыну ва ўласнай кватэры — як выявілася, для таго, каб пачуць: вы занадта змрочна глядзіце на рэчаіснасць, дарагая Сяргееўна, у жыцці шмат добрага, так-так, вы зусім хутка ў гэтым пераканаецеся, ужо нядоўга чакаць засталося!

– У нейкай вельмі душашчыпальнай тэлеперадачы вядучая, я запомніў, дзялілася з тэлегледачамі трывогай з нагоды свайго будучага саракапяцігоддзя. Зусім хутка я з поўнай на тое падставай пазваню вам у дзень вашага ўжо блізкага юбілею і спытаю: як там, напярэдадні шостага дзясятка, га, Сяргееўна? Як гаворыцца, мы настолькі маладыя, наколькі сябе маладымі адчуваем!

Твой госць адпраўляе ў пашчу апошні рулет. Усе мясныя лісты дайшлі, адрас аказаўся правільным. На шчасце, ён не бачыць у гэты момант твайго твару, на якім, аніколькі не сумняюся, адбіліся ўсе твае сапраўдныя пачуцці.

У вокнах першага паверха з'явілася святло. Начнік у спальні другога паверха не запаліўся. Мастацкі фільм пра каханне з табою ў галоўнай ролі скончыўся, так і не пачаўшыся. У адрозненне ад майго татулі, пераможнага героя ўжо трэцяга такога кіно, з усё больш маладымі партнёркамі. Пад бадзёры саўндтрэк ідуць цітры — Гера ўжо ўдома, яго зачакалася вялікая літаратура.

Ён спадзяецца, што ты ўсё зразумееш сама. Што цяпер да цябе нарэшце дойдзе. Круціць з табой раман ён не збіраецца. Ён цябе толькі што паймеў, пранік у цябе глыбей, чым мог бы там, у спальні. Глыбей, чым пранікаюць штыком альбо хірургічным інструментам. Ён параніў тваю эмацыйнасць, дабіў самаацэнку. А заадно зліў у цябе памыйнае вядро сваіх баек. Не са злосці — ад чыстага сэрца. Ён усяго толькі аддае перавагу дачцэ, а не маці. Кейс Гумберта. Не, Герундыя.

Можна ісці дамоў, але не хочацца. Ды і нейкая млявасць з'явілася, цягне прылегчы пад кустом язміну, у сумёт з жоўтым простакутнікам святла пасярэдзіне, нібы запраўленая ў стары бабулін падкоўдранік вярблюджая коўдра. Ты на мяне забылася, мама, інакш абавязкова выглянула б у акно, як выглядвала кожную хвіліну, калі я ў дзесяць гадоў не прыйшла своечасова ад Юлькі. А я прыйшла ад Юлькі. І забралася ў язмінавы куст; сёння яго галінкі абледзянелі, а тады ён квітнеў. Мне было так соладка, што хацелася памерці, але і дадому хацелася таксама, таму што ты мяне чакала.

На маім гадзінніку дваццаць два дваццаць. Узнімаюся на другі паверх. Званю ў дзверы. Цішыня. Цісну на званок па новай. І тут да мяне даходзіць: ты паспела ўжо нараўсціся ў слухаўку, дапіць па парадзе «сяброўкі» другую бутэльку плюс закінуцца феназепамам (сука Валя!), практыкі да такіх экзерсісаў у цябе няма, і ты валяешся ў адключцы. Стукаю ў дзверы кулаком. Ані гуку. Затое ў суседняй кватэры, дзе жыве цётка з адукацыі, чувацць варушняк — гэтага толькі не хапала!

Зноў на вуліцы. Куст язміну звініць ад ветру. Назіраю за дзвіжухай у кватэры на першым паверсе. Яе жыхар ходзіць па пакоі з кубкам у руцэ. Падобна, у яго прыліў натхнення. Я таксама не адмовілася б зараз ад кубачка гарбаты. Гарачай, з печывам, ён яго купляе спецыяльна для мяне. Яму горача, выходзіць на балкон з цыгарэтай.

– Гэта ты, Ліда? Што ты тут робіш, малыш? Зараз я спушчуся да цябе, толькі не сыходзь… Яна што, не пускае цябе дадому? У такі мароз… калі б я ведаў… хадзем да мяне, табе трэба сагрэцца…

А чаму б і не? Якая розніца. Гэты ці іншы. Чым раней пачнеш, тым менш шанцаў дажыць да сарака гадоў дзяўчынкай у белых бантах і закахацца пад канец у якога-небудзь прыдурка. Калісьці з кімсьці ўсё адно давядзецца пачынаць. Тады чаму не з гэтым? Не цяпер?

Не з гэтым. І не цяпер.

Акурат калі я гатовая зрабіць крок у яго цёплую пячорку, чую, як на другім паверсе паварочваецца ў замку ключ.

# «Іду ў сад, дзе мне ўтульна і памоцна...»

## Ніна Мацяш — Антуан дэ Сент-Экзюперы

Марыя НОВІК

**«Мой Экзюперы» — так назвала сваё эсэ Ніна Мацяш пра ўлюбёнага французскага пісьменніка, якога цаніла за мужнасць, за філасофскую глыбіню і мудрасць, за пранікненне ў свет чалавечага і прыроднага космасу... Як зазначыла пісьменніца, ён прыйшоў да яе рана: «Не ў школе, праўда, а ўжо ў інстытуце, на лекцыях па французскай літаратуры. Прыйшоў увесь і назаўсёды».**



Перш чым узяцца за пераклад, яна шукала інфармацыю пра самога пісьменніка, пра яго жыццё. У дзённікавых запісах ад 20 снежня 1982 года — даволі аб'ёмны канспект найбольш цікавых урыўкаў з кнігі М. Міжо «Сент-Экзюпери. Жизнь замечательных людей. Серия биографий» (Выпуск 9. — Москва, 1963).

Менавіта Ніна Мацяш адкрыла па-беларуску «Планету людзей» (1984, 1996). Менавіта гэты пісьменнік стаў ёй на ўсё жыццё тым садам, дзе ратавалася, дзе натхнялася, дзе гаварыла душою: «Я іду ў сад, дзе мне ўтульна і памоцна. Іду да Сябра, які і разважыць, і падбадзёрыць мяне сваім словам, паможа выверыць жыццёвы шлях. Які б твор ні разгарнула — «Начны палёт» або «Планету людзей», «Ваеннага лётчыка» або «Ліст да заложніка» — голас Ягоны — як лекі. Ад самоты, ад разгубленасці, ад зняверы, ад стомы. Пэўна, таму, што думкі пісьменніка — не адстароненае разумаванне, а выверания высновы і перакананні чалавека, які шмат перажыў, зведаў і радасці, і смуткі, і паразы, і перамогі».

Гэта Ніна Мацяш прывяла ў Беларусь «Маленькага прынца». Ён жыве ў беларускай прасторы разам са словам перакладчыцы ўжо больш як тры дзесяцігоддзі — у 2019 годзе з'явілася ўжо чацвёртае выданне гэтага твора. Ніна Мацяш напісала лібрэта, песенныя тэксты да спектакля, а музыку — кампазітар Валянцін Перапёлкін з Янава, і ў 2002 годзе ў Доме культуры ў Янаве адбыўся спектакль «Маленькі прынц», на ім прысутнічала і сама перакладчыца. «Гэты твор, — як вызначыла Ніна Мацяш, — можна параўнаць з чароўным жывільным дрэвам, у цудоўнай кроне якога кожнаму, ад малога да старога, знойдзецца адпаведны дзівосны плод».

Кнігі Антуана дэ Сент-Экзюперы сталі ўлюбёнымі кнігамі перакладчыцы Ніны Мацяш. Перакладала з ахвотаю, шукала ягоныя творы самастойна ці праз сваіх сяброў з Нямеччыны. Хацела ведаць больш пра яго зямное няпростае жыццё. На той час інтэрнэту ў Беларусі яшчэ не было, таму сябры прысылалі кнігі, адбіткі інфармацыі з перыёдыкі, копіі кніг. Ліставанне з Дзмітрыем Ярашэўскім адкрывае нам гэты няпросты шлях да многіх французскіх і франкамоўных пісьменнікаў.

У лісце ад 17 красавіка 1995 года, ведаючы, што Міця (так называла Ніна Мацяш Дзмітрыя) у хуткім часе будзе ў Францыі, яна звяртаецца да яго з просьбай: «Калі будзеце ў Францыі (а я ў гэтым не маю ніякага сумневу), то хай ужо будзе Вашая ласка пашукаць там «Дзённік» Жуля Рэнара і перапіску Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Буду шчыра ўдзячная. Магчыма, некалі перакладу на беларускую гэтыя рэчы».

Дасылаючы паштоўку з Авіньёна, Дз. Ярашэўскі паведамляў: «Учора мы наведалі гэты цудоўны горад, пра які Вы, напэўна, многа чулі. Горад жыве своеасаблівым жыццём. Гэта трэба пабачыць. Кніжку J. Renard «Journal» я знайшоў адразу, але «Correspondanci» A. Exupery няма. Можа, назва гучыць іначай. Напішыце мне назву па-французску, я закажу з Готы. Вы ведаеце яго кніжку "Terre des homes"?»

Радавалася, атрымаўшы вестку, што сябра шукае неабходныя ёй выданні: «Кажаце, натрапілі на Рэнара. Дзякую! Што да ліставання Экзюперы, на жаль, я не ведаю, пад якой назвай яно магло выдавацца. Магчыма, у выбраных творах? А мо й асобна (гэта нават верагодней). Я маю арыгінал «Планеты людзей», дзе змешчаны «Начны палёт», «Планета...», «Ваенны лётчык» і «Ліст да заложніка». Усё гэта выйшла асобным выданнем у маім перакладзе па-беларуску. Ёсць у мяне і «Citadelle» ягоная, калі адважуся, то, магчыма, перакладу і гэтую рэч. Экзюперы мой любімы аўтар, адсюль і гэткая ўвага да яго» (26 ліпеня 1995 г.).

У лісце ад 29 верасня 1995 года Н. Мацяш дзякавала за знойдзеныя матэрыялы: «Усцешыла Вашае паведамленне пра лісты да маці Экзюперы. А да жонкі, да Кансуэлы, да сяброў? Вельмі шчыра дзякую, дружа, за турботу». Асаблівая радасць была, калі трымала кнігі французскага пісьменніка ў руках.

Ніна Мацяш 19 красавіка 1996 года паведамляла: «Шчыра дзякую, Дзімачка, за кнігі. «Courrier sud», праўда, можна было не купляць, я маю гэты твор, і перакладала яго. Усе ж астатнія — цікавыя рэчы. Улічваючы Вашу прапанову, звярнула ўвагу й на спіс новых выданняў. Калі гэта не ляжа каменем на Ваш бюджэт, была б удзячная за «Maximes d'Epikure» і «Les Contes merveilleux» de Hermann Hesse. А можа яшчэ натрапіцца якая-небудзь танная анталогійка сучаснай французскай паэзіі: я яе зусім не ведаю. Зрэшты, не дужа цямлю, калі я папрацую нават над ужо набытым і перададзеным Вамі».

15 кастрычніка 1996 года: «Да "Цытадэлі" яшчэ не прыступала, нешта не магу й кнігу адшукаць, пры пераездзе шмат што ў хованкі са мною згуляла; зрэшты, я й шукаю яшчэ не дужа заўзята, бо маю што рабіць, каб да звыклага ўтулля й новае жытло давесці.

З удзячнасцю прымаю Вашае запрашэнне пагасціць у Вас пры нагодзе. Богведама, калі, і ці надарыцца ўвогуле яна, але хацелася б скарыстацца й магчымасцю замацаваць нямецкую мову: размаўляць я амаль не магу на ёй, усё забылася. І ў Францыю хочацца! Ды дзе грошай набрацца? Перавыдалі ў серыі «Школьная бібліятэка» мой пераклад «Планеты людзей» і «Маленькага прынца», дык заплацілі ...730.000 беларускіх рублікаў! Пры цяперашнім курсе валютным гэта 35 даляраў...».

Праца над перакладамі працягвалася. Ліст Ніны Мацяш ад 11 лютага 1998 года Міцю Ярашэўскаму адкрывае нам старонкі жыцця і працы перакладчыцы:

«Дзякую за ліст, за здымак. <...> Здаецца, я пісала табе, што планавала легчы ў Сяльцы ў лякарню дзён на дзесяць. Тэрмін задоўжыўся напалавіну, бо быў высакаваты, як для мяне, ціск, дык Сяргей Сяргеевіч (помніш яго?) спачатку яго адладжваў, а пасля ўжо і за хрыбет узяўся. Зараз адчуваю сябе значна лепш, С. С. паздымаў усе блокі остэахандрозныя. Ляжала я з сястрой Оляй, дык і яе «падрамантаваў».

Я працавала там, пераклала ўсяго petit Nikola, праўда, яшчэ патрабуецца праца з ім за друкаркай, але — радуюся, што зрабіла гэтую работу і, здаецца, няблага. Знайшоў мяне там, у Сяльцы, і заказ Норберта на слоўка пра Эльке Эрб. Галя потым адфаксоўвала яго ў Берлінскі ўніверсітэт, але, баюся, што запазніўся мой той матэрыял, бо трэба было да 30 студзеня, а факс пайшоў аж 2 лютага. Норберт пакуль маўчыць. Эльке — не ведаю, калі — 60 гадоў...».

Урывак з ліста Н. Мацяш ад 16 сакавіка 1998 года:

«Упакавала я Nikolas свайго ў папкі, пры нагодзе перадам у Мінск, а не, дык самі з Галяю адвязем, калі паедзем на з'езд пісьменнікаў. Ён мае адбыцца 23-га красавіка».

Паступова прыходзілі новыя навіны. У паштоўцы ад 19. 03. 1998 года з выявай Notre-Dame Дз. Ярашэўскі паведамляў: «Быў на зімовых канікулах у школе недалёка ад Парыжа, адкуль гэта паштоўка. Купіў «Eckris de guerre» і «Courrier sud» de S.-Exupery. У першай кніжцы ёсць лісты да сяброў і толькі два да жонкі. Больш нічога не знайшоў, хаця Парыж і вялікі. Многія кнігарні нічога не ведаюць пра лісты да жонкі».

10 ліпеня 1998 года:

«Сёння адаслала Юрасю Бушлякову пераклады вершаў французскіх набелятаў — Жыда, Марыяка, Мэтэрлінка.

Вельмі прыдалася мне твая парыжская анталогія французскай паэзіі. Можа, я пісала табе ўжо, што перакладаю з яе вершы — па тры творы — Марыяка, Жыда і Мэтэрлінка. На гэтым тыдні, спадзяюся, і перадрукую перастворы свае, і адашлю Юрасю Бушлякову ў Мінск, хай скарыстоўвае ў сваім выданні».

10 кастрычніка 2000 года:

«Добрая ў мяне сёлетняя восень, уласны верасень. Напісала 8 песенных тэкстаў для спектакля па «Маленькаму прынцу».

3 снежня 2000 года:

«Вярнуся з Брэста, трэба будзе ўзяцца за лібрэта па «Маленькаму прынцу». Яно збольшага ўжо прадумана, і песенныя тэксты напісала ды перадала кампазітару яноўскаму — Валянціну Перапёлкіну. Але трэба хутчэй даць яму лібрэта, бо...».

Так Ніна Мацяш атрымала ад Дзімы Ярашэўскага адбіткі кнігі Рэнэ Гасціннага «Маленькі Нікаля», ад Жанін Бод — кнігі пра самога аўтара, перакладала з добрым настроем, падчас сустрэчаў чытала перакладзеныя старонкі, і было добра разам з ёю далучыцца да перажыванняў маленькага Нікаля, і ўсміхацца, і весела смяяцца разам з Нінай Мацяш... Вельмі хацела падарыць гэтую кнігу беларускаму чытачу, аддала яе ў выдавецтва... Чакала выхаду, аднак выдання кнігі не адбылося.

У лісце да Міці Ярашэўскага ад 8 лістапада 2004 года:

«Наша Ніва» змясціла ўрывак (замоўлены) з «Дзень добры, смутак» Саган. Хоць гэтая праца не прапала. А «Маленькі Нікаля» дагэтуль у летаргіі ў выдавецтве. Ці амбасада Францыі не дала абяцаных грошай, ці даўно ўжо яны сплылі богведама куды».

Напрыканцы пераклала аб'ёмны, апошні твор Антуана дэ Сент-Экзюперы — «Цытадэль». На той час у Ніны Мацяш ужо з'явіўся камп'ютар, і яна радавалася, што можна дапрацоўваць — шліфаваць першасны тэкст перакладу, і камп'ютар дае ёй новыя, больш лёгкія магчымасці: не трэба крэсліць, можна выбіраць з прапанаваных варыянтаў патрэбны і не перадрукоўваць тэкст нанова...

4 красавіка 2005 года:

«Кампутар мяне ўжо не баіцца, хоць цюцік часам і гаўкае (памочнік). Працуецца з задавальненьнем (перакладаю «La citadelle» de Saint-Ex.), вельмі ж ужо добра «габляваць» пераклад. А Галя яшчэ й пару праграмаў падкінула, дык час прамарнаваць — non probleme!».

У архіве Ніны Мацяш захаваўся машынапісны тэкст гэтага перакладзенага ёю твора з вялікай колькасцю магчымых варыянтаў да пэўнага слова, выразу, адрэдагавала яна і набрала на кампутары толькі дзесяць старонак. Калі б знайшоўся перакладчык з веданнем французскай і беларускай моў, які б з павагай паставіўся да яе тэксту, гэты твор прыйшоў бы да беларусаў у роднай мове, і такім чынам збылася б і мара пісьменніцы пра пераклад усіх твораў Экзюперы.

Пераклады Ніны Мацяш кнігі «Цытадэль» Антуана дэ Сент-Экзюперы і Рэнэ Гасціннага «Маленькі Нікаля» цяпер, ужо набраныя з машынапісных і рукапісных старонак Ніны Мацяш, ёсць у электронным выглядзе. Думаецца, што знойдуцца выдавецтвы, якія змогуць ажыццявіць выданне гэтых неапублікаваных перакладаў Ніны Мацяш. Неўзабаве — 80-гадовы юбілей паэткі і перакладчыцы. Гэта былі б добрыя падарункі беларусам і годнае ўшанаванне памяці мужнай і таленавітай пісьменніцы.

Працуючы з архіўнымі матэрыяламі Ніны Мацяш, яшчэ і яшчэ раз адкрываецца, як многа душы і сэрца ўкладала яна ў сваю працу, як ахвярна і мужна працавала, як верыла, што мудрыя творы сусветнай літаратуры прыйдуць да беларусаў. Сёлета, калі споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Антуана дэ Сент-Экзюперы, беларусы, дзякуючы Ніне Мацяш, маюць у сваёй роднай мове кнігі гэтага сусветна вядомага пісьменніка, у якіх — шлях да спазнання сябе, шлях да Любові, Веры, Дабрыні... Гэта шлях да душы чалавека, бо пісьменнік, як зазначыла Ніна Мацяш, «запрашае чытача паразважаць разам з ім і — паглядзець на сябе знутры, пабыць з самім сабой, з гэткім, якім ёсць у сапраўднасці, у ісце сваёй, не заслоненай будзённай пустапарожнасцю, мінальнасцю, неабавязковасцю».

Гэта і далучэнне да філасофіі таленавітых творцаў — Антуана дэ Сент-Экзюперы і Ніны Мацяш. Гэта запрашэнне ў чароўны сад Слова...

**(Аўтарка выказвае ўдзячнасць Наталлі і Руслану Мацяшам і Дзмітрыю Ярашэўскаму за выкарыстаныя матэрыялы.)**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Слуцкі збройны чын: гісторыя, якая ахоўвае і натхняе

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

Гэта вельмі характэрная рыса таго часу — утварэнне культурна-асветніцкіх, прыродазнаўчых, грамадска-палітычных гурткоў. Яны з'яўляліся на высокай хвалі абуджанай нацыянальнай свядомасці. Моладзь адчула сваю нацыянальную прыналежнасць і распачала сапраўдную барацьбу за беларускасць.

Імпрэзы, што ладзіў гурток, адразу сталі вельмі папулярнымі. На вечарынах гучала беларускае слова, беларускія спевы. Сур'ёзна абмяркоўваліся літаратурныя творы. Моладзь ставіла спектаклі сама і з дапамогай артыстаў з Мінску. Неаднаразова па запрашэнні «Папараць-кветкі» прыязджала ў Слуцк знакамітая капэла Уладзіміра Тэраўскага, у складзе якой былі, як высветліцца з часам, будучыя паўстанцы і баевікі «Зялёнага Дуба».

З лекцыямі аб адметнасці і самабытнасці беларускай гісторыі перад моладдзю выступалі вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы.

Моладзь не цуралася палітыкі. На ўсіх пасяджэннях Слуцкага нацыянальнага камітэта прысутнічалі сябры праўлення «Папараць-кветкі». Варта прывесці водгук на выхад часопіса арганізацыі, які надрукавала газета «Беларусь» 15 лістапада 1919 года пад красамоўным загалоўкам «Моладзь ідзе!». «Перада мной ляжыць беларускі часопіс "Наша каляіна", — пачаў аўтар, пазначыўшы сваё імя літарамі К-а (Янка Купала. — Аўт.), — выдана яна ў Слуцку. Слуцк — павятовы гарадок — куды яму, здавалася б, лезьці ў людзі; да яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым, жывучая, творчая, як яе не заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца... Адбудаванне незалежнасці Беларускае дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь. Чэсць і слава табе, моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай страхі!.. На бок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Усходу. Беларуская моладзь ідзе!»

Літаратурныя, краязнаўчыя гурткі былі вельмі папулярнай формай нацыянальнай працы. Яны існавалі амаль у кожнай вёсцы, дзе была школа. Так, у вёсцы Гулевічы аформіўся гурток «Селянін». Свая «Зарніца» запрацавала ў вёсцы Слабада-Кучынка. Грамадства адчула іх запатрабаванасць і ўплывовасць. Святар саборнай царквы ў Слуцку Шаміціла з амбону прамаўляў: «Як зоркі ў небе ў цёмную ноч свецяць і паказваюць дарогу зблудзіўшаму чалавеку, так для вас гэтыя зоркі ёсць беларускія культурна-прасветныя арганізацыі. Прыглядайцеся да іх, і яны вам пакажуць шлях к лепшаму жыццю».

Паўсюдна на вёсках узнікалі гурткі рупліўцаў беларускай справы з аптымістычнымі назвамі: «Вясковая зорка», «Полымя», «Бацькаўшчына».

Вялікую ролю ў выхаванні пачуццяў нацыянальнай свядомасці і патрыятызму адыгралі павятовыя настаўніцкія курсы, якія падчас польскай акупацыі арганізаваў БНК. Да таго моманту, як у Слуцк з'ехалася каля 200 настаўнікаў пачатковых школ, была зроблена вялізарная падрыхтоўчая работа: падлічана колькасць ужо існаваўшых беларускіх школ у павеце, атрыманы дазвол польскай улады на адкрыццё беларускіх школ. Сярод настаўнікаў БНК здзейсніў шырокую тлумачальную працу аб неабходнасці адукацыі на роднай мове. ЦК БПС-Р прыслаў з Мінску аўтарытэтных лектараў, вядомых палітыкаў і навукоўцаў. Беларускую мову і літаратуру чытаў Янка Станкевіч, гісторыю Беларусі — Усевалад Ігнатоўскі, геаграфію — Мікалай Азбукін. Некалькі лекцый па мовазнаўстве прачытаў Браніслаў Тарашкевіч.

На курсах было ўтворана «Настаўніцкае кааператыўнае таварыства беларускай кнігі». Быў распрацаваны і зарэгістраваны Статут таварыства, сабраны сціплыя сродкі. Сябры таварыства, паводле статута, павінны былі папулярызаваць і распаўсюджваць беларускую кнігу, выхоўваць любоў да роднага слова.

Такім чынам, рыхтавалася духоўная глеба нацыянальнага ўздыму. Гэта была вялікая мэтанакіраваная праца палітыкаў і грамадскіх дзеячаў таго часу, пераканаўчы прыклад для сучасных палітыкаў.

### Беларусь павінна быць вольнаю незалежнаю рэспублікай

Адначасова з рэформай мясцовага самакіравання Рада займалася мабілізацыяй моладзі ў войска і міжнароднымі справамі. За некалькі дзён на грунце народнай міліцыі і шляхам мабілізацыі сялян была створана аснова Першай Слуцкай брыгады стральцоў БНР. Брыгада сфарміравалася з 2-х палкоў: 1-га Слуцкага і 2-га Грозаўскага (па назве мястэчка Грозаў, зараз у Капыльскім раёне) і налічвала разам з рэзервам каля 15 тысяч чалавек. У складзе брыгады знаходзіліся таксама конны аддзел, палкавыя абозы і зброевыя майстэрні. Пры штабе брыгады былі ўтвораны аддзелы разведкі і контрразведкі. Доктарам Арсенем Паўлюкевічам быў разгорнуты палявы шпіталь, дзейнічаў вайсковы суд, які ўзначаліў Янка Біруковіч, гаспадарчую частку — Ануфрэй Няронскі.

23 лістапада польскія ўлады паведамілі, што пакідаюць Слуцк. Рада надрукавала паведамленне аб эвакуацыі і заклік запісвацца ў добраахвотніцкія атрады. Хутка быў прыняты зварот да савецкага ўрада. Ноту ўручылі савецкім прадстаўнікам пры 11-й польскай дывізіі для перадачы па прызначэнні. У дэкларацыі гаварылася: «У момант самавызначэння ўсіх народаў і змагання за сваю самастойнасць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасці нашай Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму свету аб намаганнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнаю незалежнаю рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і з'яўляючыся выразнікам волі народаў, слуцкая Рада дэкларуе цвёрда стаяць за незалежнасць роднай Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку іншаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю зброі, нягледзячы на колькасную перавагу ворага, думаючы, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе». (Вельмі актуальны заклік і сёння!)

Рада Случчыны пратэставала супраць намеру савецкіх уладаў заняць Слуцк пасля адыходу польскіх войскаў, спасылаючыся на пастановы Рыжскай канферэнцыі аб прызнанні самавызначэння народаў.

Адначасова Рада звярталася да дэмакратыі ўсяго свету з пратэстам супраць падзелу незалежнай БНР. «З'езд катэгарычна пратэстуе проці акупацыі родных зямель чужацкім наездам і проці самазванай савецкай улады, як урад Кнорына і іншыя, якія наўтвараліся на Беларусі. Бацькаўшчына наша зруйнавана чужынцамі, якія нішчыць яе і дагэтуль. Мы, аддаючы справе адбудавання нашай Бацькаўшчыны ўсе нашы сілы і жыццё, звяртаемся да ўсяго свету і саюзу народаў аб дапамозе ў стварэнні нашай вайсковай сілы».

Прыняцце ўхвалы на з'ездзе суправаджалася моцнымі воплескамі і заклікамі: «Няхай жыве вольная незалежная дэмакратычная БНР у яе этнаграфічных межах!», «Няхай жыве беларускі народ!», «Няхай жыве Беларуская армія!» і г.д. Эвакуацыя Слуцка скончылася 24 лістапада. Рушылі на Семежава. Там адбыўся парад. Паўстанцы з бел-чырвона-белымі павязкамі і нашыўкамі на вопратцы пад гукі маршу прайшлі па плошчы. Паўстанцы ішлі ў бой.

Напрыканцы лістапада 1920 года Першы Слуцкі полк займаў участак ад Семежава да Вызны працягласцю прыкладна 20 кіламетраў. Баявыя дзеянні пачаліся 27 лістапада. Аддзелы 6-й роты Слуцкага палка на чале з падпаручнікам Кернажыцкім падчас разведкі ў раёне вёсак Быстрыца, Верамейчыкі, Васільчыцы і Чарнагубава сустрэліся з бальшавіцкім разведвальным атрадам. У выніку сутычкі захапілі палонных, ад якіх даведаліся аб размяшчэнні чырвоных. Працяглы бой завязаўся каля Васільчыц, бальшавіцкія атрады адышлі. Адзін са стральцоў быў цяжка паранены. Чырвонаармейцы згубілі трох забітых, трох параненых, і адзін трапіў у палон.

Вёскі Лютовічы і Дашнава занялі пасля баёў аддзелы 5-й роты на чале з падпаручнікам Клішэвічам. У палон узялі пяць чырвонаармейцаў. 7-я і 8-я роты змагаліся за вёску Мацкевічы. У напрамку Капыля паўстанцы занялі таксама вёску Цімкавічы (аддзелы Грозаўскага палка). Страты былі з абодвух бакоў.

30 лістапада паўстанцы вялі баі на ўсход ад Слуцка ў раёне вёскі Ужыца (Бабруйскі павет). Чырвоныя аддзелы ўпарта абаранялі падыходы да чыгункі, падцягнулі новыя сілы.

У Семежава тым часам усё прыбывалі ўцекачы, дэзерціры, ваеннапалонныя. Тых, хто паходзіў з беларускіх губерняў, не затрымлівалі, рэгістравалі і адпускалі. Частка з іх выконвала працу ў маёнтках, дзе ў асноўным паўстанцы бралі хлеб. Калі пачалося адступленне з Семежава, гэтыя людзі арганізавалі калону і пацягнуліся ўслед за адыходзячымі паўстанцамі.

**Частка Слуцкай Брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталася ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару. Барацьба працягвалася**

Уцекачоў з расійскіх губерняў адпраўлялі ў польскія канцэнтрацыйныя лагеры згодна з дамовай з польскім ваенным кіраўніцтвам. Камуністаў, чырвоных камандзіраў, камісараў, як правіла, расстрэльвалі па рашэнні ваенна-палявога суда ці па загадзе камандзіра брыгады. Васіль Русак сведчыў, што ўсяго расстралялі такім чынам 18 чалавек, у тым ліку членаў Вызнянскага рэўкома.

Камандаванне 16-й чырвонай арміі вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў. Раніцай 4 снежня ў яе межы былі ўведзены часці 8-й і 17-й дывізій. Кіраўніцтва барацьбой з паўстанцамі было ўскладзенае на Рэўваенсавет 16-й арміі з падначаленнем яму ўсіх атрадаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных атрадаў. Дарэчы, у вёсцы Пагост, дзе на той момант знаходзіўся штаб чырвонаармейскай брыгады, у складзе асобых частак, скіраваных на барацьбу з паўстанцамі метадам агентурнай выведкі пачыналася кар'ера савецкага баевіка, тэрарыста Кірылы Арлоўскага. Выведка, вярбоўка агентуры сярод мясцовага насельніцтва, пранікненне ў шэрагі паўстанцаў — спосабы знішчэння паўстанцкай акцыі знутры.

Пераадолеўшы ўпартае супраціўленне паўстанцкіх аддзелаў, чырвоныя занялі Вызну. 7 снежня пацяснілі паўстанцаў з Семежава.

Стаўка і Рада перабраліся ў Подчыцы. Вёска знаходзілася ў нейтральнай зоне, за дзве вярсты ад савецкай мяжы. Тым часам паўстанцы адчулі недахоп харчу. Мясцовае насельніцтва не было такім шчодрым, як у Семежаве. Папрокі ў адрас Рады, што не змагла стварыць запасаў, узмацніліся. Канфлікт паміж штабам і членамі Рады — эсэрамі — паглыбляўся, што адмоўна адбівалася на ходзе баявых дзеянняў. У Подчыцах доўга не затрымаліся, зноў пераехалі ўглыб нейтральнай зоны. Наступным прыпынкам, дзе пратрымаліся да 15 снежня, быў Грыцэвічы. Становішча ўскладнялася. Людзей касіў тыф. Брыгада стала падобная на качэўніцкі лазарэт. Пры гэтым адчуваўся вялікі недахоп харчу і лекаў.

Сутычкі з Чырвонай Арміяй адбываліся ўвесь час. Звычайна гэта былі начныя налёты. 10 снежня быў учынены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-га — на вёску Старынь. Паўстанцы паспрабавалі адцясніць часці Чырвонай Арміі. 12 снежня яны занялі Семежава, пры гэтым захапілі вялікія запасы снарадаў. Прыклад мужнасці прадэманстравалі стральцы 2-й роты Слуцкага палка, якой камандаваў паручнік А. Курыловіч. 17 снежня паўстанцы зноў былі ў Вызне, 19 адступілі, 20 снежня вымушаны былі пакінуць Семежава. Вызна і Семежава неаднаразова пераходзілі з рук у рукі ў наступныя месяцы 1921 года.

Слабым месцам паўстанцаў была нястача зброі. Усяго ў снежні Брыгада мела ўжо 2000 вінтовак і 10 кулямётаў. Гэта было непараўнальна з добрым узбраеннем рэгулярных частак Чырвонай Арміі. Нават шэсць браневікоў бралі ўдзел у наступленні на Слуцк. Удзельнік падзей успамінаў: «Без аружжа, без патронаў паўстанцы біліся як львы. Роты паўстанцаў выходзілі на пазіцыі, маючы 30–40 стрэльбаў на роту, бо больш не было... пасланцы Брыгады прывезлі (з бронецягніка "Балаховец". — Аўт.) шмат аружжа і баявога снараджэння, але было ўжо позна».

Частка Слуцкай Брыгады (каля 400 чалавек) на чале з афіцэрамі засталася ў нейтральнай зоне для працягу ваенных дзеянняў партызанскага характару. Некаторыя атрады ўвайшлі ў склад «Зялёнага Дуба», як, напрыклад, Паўла Бранавіцкага, Антона Самусевіча, Івана Мацэлі, Цімафея Хвядашчэні і іншых. Барацьба працягвалася. Змянілася толькі форма супраціву. На змену паўстанцтву прыйшла антысавецкая партызанка, тэрарыстычныя і дыверсійныя акцыі.

На беларускай нацыянальна-палітычнай нарадзе ў Празе 29 верасня 1921 года была прынята рэзалюцыя «Аб Слуцкім паўстанні». Падзея характарызавалася як «нацыянальнае паўстанне за незалежнасць Беларусі», «супраць Масквы» і «супраць Варшавы».

# Дыктатура назаўсёды?

Алег НОВІКАЎ

**Дзякуючы падзеям у Нагорным Карабаху аўтарытарны рэжым Ільхама Аліева сёння выглядае як ніколі ўстойлівым. Ці гэта толькі ілюзія?**

Канец канфлікту на Паўднёвым Каўказе адразу ж спарадзіў спрэчку: хто стаў бенефіцыярам такой развязкі, а хто прайграў? Да лагеру тых, хто прайграў, відавочна адносіцца Арменія, якая яшчэ доўгія гады будзе адчуваць наступствы восеньскай катастрофы 2020-га.

У спіс пераможцаў адназначна ўключаюць Азербайджан, які нечакана атрымаў нашмат больш, чым мог сабе ўявіць яшчэ некалькі тыдняў таму — усе сем раёнаў вакол Карабаху і яшчэ ў дадатак горад Шуша.

Відавочна, бонусы ад спынення агню атрымала Турцыя. У пагадненні з дзевяці пунктаў галоўным для Анкары стала абяцанне пабудаваць транспартны калідор праз раён Мегры ў Арменіі. Тэарэтычна, ён можа звязаць Турцыю з Цэнтральнай Азіяй, што ўзмоцніць пазіцыі Анкары не толькі ў рэгіёне, але, як баяцца ў Маскве, нават дазволіць ёй уплываць на настроі ў цюркскіх аўтаноміях Волгі і Урала. Дзеянні Расіі разглядаюцца супярэчліва, але так ці інакш у Карабаху будуць размешчаныя яе міратворцы.

Трыумфатарам з апошняга канфлікту таксама выйшаў і персаніфікаваны аўтарытарны рэжым Ільхама Аліева. Няма сумневаў: калі б Аліеву заўтра трэба было пераабірацца, ён выйграў бы выбары з гіганцкім адрывам. «Нават калі зменіцца эканамічная сітуацыя, нават калі краіна яшчэ больш будзе эвалюцыянаваць у бок аўтакратыі, для яго асабіста і для палітычнай сістэмы, якую пабудавалі яго бацька Гейдар і сам Ільхам Аліеў, пачатак вяртання Карабаху — дасягненне, якое ў Азербайджане будуць памятаць заўсёды», — прызнае газета «Новые Известия».




**Трыумфатарам з апошняга канфлікту таксама выйшаў і персаніфікаваны аўтарытарны рэжым Ільхама Аліева. Няма сумневаў: калі б Аліеву заўтра трэба было пераабірацца, ён выйграў бы выбары з гіганцкім адрывам**

Аднachасова можна казаць пра тое, што азербайджанская апазіцыя працягне заставацца маргінальнай. Хаця нейкія шанцы ў яе на пачатку гэтага года з'явіліся. Тады перад краінай паўсталі вялікія выклікі: яна стала закладніцай падзення цэнаў на нафту — галоўнага экспартнага тавару Азербайджана. Акрамя таго, як і паўсюль у свеце, у Баку аказаліся не гатовыя да эпідэміі.

20 сакавіка агульнае раздражненне эпідэміялагічнымі мерамі і пагаршэннем гаспадаркі вылілася ў беспарадкі ў Баку. У адказ Аліеў асабіста абвінавацій апазіцыю ў правакацыях, заявіўшы, што тая сее паніку сярод насельніцтва. Перлінай выступу гаранта быў наступны пасаж: «Ізаляцыя актывістаў стала ўжо гістарычнай неабходнасцю». Праз два дні адзін з дысідэнтаў сапраўды быў арыштаваны за хуліганства і асуджаны ў верасні на чатыры гады зняволення.

З пачаткам баявых дзеянняў на карабахскім фронце апазіцыя адразу паспрабавала стварыць сабе імідж мегапатрыётаў. Мяркуючы па заявах яе лідараў, у апазіцыйных штабах марылі падштурхнуць уладу да абвяшчэння шырокай шматпартыйнай кааліцыі. Паколькі рэжым такія прапановы ігнараваў, апаненты Аліева аднавілі крытыку на адрас рэжыму, абвінавачваючы яго ў нязздольнасці дамагчыся перамогі.

Фактычна, такой тактыкі ў апазіцыі прытрымліваюцца да гэтага часу. Напрыклад, падымаецца тэма, чаму Аліеў не ўзяў увесь Карабах, дапусціў увод расійскіх войскаў. «Момант, калі мы раз і назаўсёды маглі вырашыць карабахскае пытанне, мы пакідаем яго ў падвешаным стане. Гэта значыць, мы перадаём праблемы прысутнасці ворага ў Карабаху нашым дзецям? Нам не хапае ахвяраў? Трэба, каб у будучыні ахвярамі ў Карабаху станавіліся тыя, каму сёння па некалькі гадоў?» — абураецца апазіцыйны бакінскі журналіст Рауф Насіраў.

Апазіцыя Азербайджана таксама заклікае Аліева заключыць паўнавартасны ваенны саюз з Турцыяй, матывуючы гэта тым, што Расія, нібыта, парушыла палажэнні трохбаковай дамовы па Карабаху, размясціўшы ў зоне правядзення міратворчай аперацыі няўзгодненыя сістэмы ўзбраенняў і наглядальныя пасты.

Зрэшты, некаторыя лічаць стаўку на крыху Аліева ў новых умовах бесперспектыўнай. Днямі адзін з лідараў азербайджанскай апазіцыі, старшыня Ліберальнай партыі Лала Шэўкет вітала ўзяцце Шушы, выказаўшы «велізарную падзяку прэзідэнту Ільхаму Аліеву за тое, што ён ператварыў пераможаны народ у пераможную нацыю». Можна меркаваць, палітыку не даюць спакою лаўры нашай Ганны Канапацкай...

Калі меркаваць па інтэрв'ю, якое Аліеў даваў журналістцы BBC у мінулыя выходныя, ніякай адлігі ў Азербайджане не прадбачыцца. На папрокі журналісткі наконт пераследу ў краіне незалежных СМІ Ільхам адказаў напамінам пра лёс Джуліяна Асанжа — заснавальніка WikiLeaks, які знаходзіцца ў брытанскай турме.

У гэтым плане самае інтрыгоўнае пытанне: ці будзе выкарыстаны Аліевым ваенны поспех у Карабаху для канчатковага замацавання перадачы прэзідэнцкай улады ў спадчыну? Раней казалі пра магчымасць перадачы ўлады ў 2025 годзе жонцы прэзідэнта, віцэ-прэзідэнту Мехрыбан Аліевай. Такі транзіт улады выглядае найбольш прывабна, паколькі ўсё застанецца ў руках адной сям'і. Аднак шмат хто адразу казаў, што Турцыя, уплыў якой на берагах Каспію пасля карабахскага канфлікту значна вырас, была супраць такога сцэнару. У тым ліку з гэтай прычыны будучыня дынастыі Аліева не такая бясхмарная, як падаецца цяпер.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«У Мінску ўспрымаюць Варшаву як адзін з галоўных фактараў палітычнага крызісу. Але без унутранага фактару — сацыяльнага напружання, крызісу даверу да выбарчай сістэмы і афіцыйных вынікаў выбараў — блогеры не змаглі б арганізаваць гэткія шматлікія пратэсты. Яны ўзялі на сябе толькі ролю каардынатараў грамадскай актыўнасці ва ўмовах адсутнасці лідараў, якія знаходзіліся б у Беларусі, і пры гэтым на волі. Так што, хаця польскі бок зацікаўлены ў перамозе беларускай дэмакратыі, сёння ён можа ўплываць на сітуацыю толькі ўскосна, выкарыстоўваючы інфармацыйны, арганізацыйны, дыпламатычныя і фінансавы рэсурсы».

**Страна (Украіна)**

«Небяспечны для Крамля знешнепалітычны крызіс назіраецца ў Беларусі. Гэтая краіна найшчыльнейшым чынам звязаная з Расіяй як палітычна, так і эканамічна. Вось ужо сто дзён там — практычна ля варотаў Масквы — не сціхваюцца хваляванні. Крамлю добра вядома, што час беларускага кіраўніка Лукашэнкі прайшоў. Але Пуцін не толькі трымаецца за яго, але і даў яму свабоду дзеянняў у выкарыстанні гвалту. Прыкметай моцнага ўплыву гэта не назавеш».

**Der Tagesspiegel (Германія)**

«Цынічна-прагматычныя падыходы вызначаюць цяперашнюю палітыку Мінска і Кіева ў адносінах адзін да аднаго. Таму Украіна, хоць і выступае за дыялог беларускай улады і апазіцыі, асуджае рэпрэсіі рэжыму Лукашэнкі ды патрабуе вызваліць палітычных зняволеных, будзе і далей гандляваць з Беларуссю і ўстрымлівацца ад жорсткіх дзеянняў у сферы эканомікі. Але прагматызм не павінен ставіць пад пагрозу нашу нацыянальную бяспеку: Кіеў павінен адысці ад залежнасці ад Беларусі ў бензіне і дызпаліве, дыверсіфікаваць крыніцы паставак гэтых стратэгічных прадуктаў у нашу краіну. Інакш капрызы Лукашэнкі і надалей будуць уплываць на ўкраінскую эканоміку і бяспеку».

**Дзеркало Тижня (Украіна)**

«2020 год запомніцца не толькі пандэміяй, але і серыяй крыўдных паразаў Масквы на постсавецкай прасторы. Чым бы ні прыцягвала Масква былыя савецкія рэспублікі ў перспектыўныя аб'яднанні і саюзы, нічога ў яе не выходзіць. Нават у саюзнай, здавалася б, Беларусі некалькі месяцаў балансавання на мяжы поўнай страты ўлады не пераканалі Лукашэнку ў адзіным, здавалася б, разумным выбары на карысць саюза. Адчуванне, што на постсавецкай прасторы ў Расіі — поўны правал. Але — не! У Расіі не атрымліваецца завабліваць у саюзы былыя савецкія рэспублікі, але яна папросту знаходзіць агульную мову з тымі часткамі, якія ад іх адкалоліся».

**Версия (Расія)**

«Спачатку пасіўны ў справе барацьбы з Лукашэнкам Еўрасаюз пачаў прыцэльна падточваць беларускую эканоміку — самае слабое месца рэжыму ў доўгатэрміновай перспектыве. Гэта можна было б лічыць персанальнымі разборкамі Лукашэнкі з Еўропай, але яны стануць і нашай праблемай таксама. Адзіным месцам, дзе Лукашэнка зможа ўзяць грошы, калі яны скончацца, застаецца Расія. І Расіі зноў давядзецца рабіць непрыемны выбар паміж падтрымкай Бацькі, які неаднаразова мяняе арыенціры, і рызыкай атрымаць у саюзнай Беларусі не проста бунт, а бунт галодных».

**Взгляд (Расія)**

# Прэзідэнт, які меў мужнасць сысці

Алег НОВІКАЎ

**22 лістапада споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння французскага прэзідэнта Шарля дэ Голя. Ён, сярод іншага, увайшоў у гісторыю як палітык, які падаў у адстаўку, калі страціў падтрымку народа.**


Фота www.stuki-druki.com

Цікава, што Шарль дэ Голь сыходзіў у адстаўку двойчы. У студзені 1946 года ён першы раз адмовіўся ад высокай пасады прэм'ер-міністра Францыі. Рашэнне было даволі нечаканым, паколькі на той момант генерал карыстаўся каласальнай папулярнасцю. Шмат у чым дзякуючы яму Францыя, якая ў 1940 годзе стала саюзніцай Гітлера, у выніку вайны аказалася ў клубе пераможцаў, і нават атрымала ў Генеральнай Асамблеі права вета.

Гісторыкі тлумачаць тую адстаўку правалам намераў генерала стварыць у краіне моцную прэзідэнцкую вертыкаль. Увесь спектр французскага палітыкуму, у тым ліку аднапартыйцы прэм'ера, блакаваў рэформу. Зразумеўшы, што яму не дазволяць рэалізаваць свае палітычныя планы, генерал пакінуў офіс кіраўніка ўраду і «эміграваў» на вілу Каламбэ, дзе засеў за мемуары.

Давялося чакаць 12 гадоў, калі Шарля дэ Голя зноў паклікалі на палітычны Алімп. Паколькі грамадства бачыла ў ім адзінага, хто быў здольны вырашыць Алжырскі крызіс, ён атрымаў карт-бланш. У студзені 1959-га генерал стаў прэзідэнтам, атрымаўшы па новай Канстытуцыі шырокія паўнамоцтвы.

Рэсурс даверу да новага гаранта аказаўся досыць трывалым. У 1965 годзе Шарля дэ Голя пераабралі — хоць і з пэўнымі праблемамі, — на другую кадэнцыю. Перажыў генерал і буйны травень 1968 года, калі дзесяцімільённы страйк і пратэсты студэнтаў прымусілі яго бегчы з Парыжу, і нават весці кансультацыі з генераламі аб прыцягненні вайскоўцаў для лакалізацыі «паўстання». Падавалася, гэта ўжо агонія ўлады галістаў.

Тым не менш, прэзідэнт не здаўся. 30 траўня ў сваім выступе на радыё Шарль дэ Голь заявіў, што не пакіне пасады, і прызначыў датэрміновыя выбары ў парламент. Прычым французскі гарант не хаваў, што выбары будуць рэферэндумам па даверы да прэзідэнта. У выніку прэзідэнцкую партыю чакаў трыумф — 73,8% мандатаў дэпутацкага корпусу. Пасля гэтага, падавалася, Шарль дэ Голь мог спакойна займаць Елісейскі палац аж да 1972-га, калі падыдзе да канца яго другі прэзідэнцкі тэрмін.

Аднак пакінуць рэзідэнцыю давялося ўжо ў наступным годзе, пасля таго, як на рэферэндуме 27 красавіка 1969-га праваліўся прэзідэнцкі праект аб дэцэнтралізацыі. У гэты дзень прыкладна а 10 гадзіне вечара параза стала відавочнай, і ўначы прэзідэнт па тэлефоне прадыктаваў службе наступны тэкст: «Я спыняю выкананне абавязкаў прэзідэнта Рэспублікі. Гэтае рашэнне ўступае ў сілу сёння апоўдні».

Фармальнай падставай адстаўкі было абяцанне, якое ён агучыў напярэдадні плебісцыту, — у выпадку, калі прапанаваны законапраект не атрымае падтрымкі, Шарль дэ Голь сыйдзе. Акрамя таго, як лічаць гісторыкі, прэзідэнт адчуваў, што яго час закончыўся. Нават некаторыя з яго міністраў агітавалі супраць рэформы.

**Прыкладна а 10 гадзіне вечара параза стала відавочнай, і ўначы прэзідэнт па тэлефоне прадыктаваў: «Я спыняю выкананне абавязкаў прэзідэнта Рэспублікі»**

Аднак з улікам таго, як звычайна ставіцца палітыкі да сваіх абяцанняў, такі матыў адстаўкі Шарля дэ Голя дасюль шмат у каго выклікае сумневы. Сапраўды, ініцыятар правальнага рэферэндуму мог проста ігнараваць незадаволенасць апазіцыі ды спакойна заставацца на пасадзе.

Прыдумана мноства альтэрнатыўных версій учынку генерала. Самая простая — генерал пакрыўдзіўся на суайчыннікаў, дзеля якіх сапраўды столькі зрабіў. Таму ў эмацыйным запале ім і быў прадыктаваны тэкст пра сыход на пенсію.

Натуральна, не абышлося без версіі пра «руку Дзярждэпа». Згаданыя вышэй студэнцкія пратэсты ў траўні 1968-га спрабуюць трактаваць як першую ў гісторыі каляровую моладзевую рэвалюцыю, якую, натуральна, інспіравалі ў Вашынгтоне. Такім чынам падступныя янкі намагаліся адпомсціць Парыжу за выхад са складу NATO і спробу падарваць Брэтан-Вудскую сістэму. Дэ Голь, калі верыць адэптам гэтай тэорыі, вырашыў сыйсці, каб выратаваць любімую Францыю ад новага Майдана.

Некаторых прываблівае тэорыя, што генерала шантажавалі яго спецслужбы, якія змагаліся з групоўкамі ветэранаў алжырскай вайны, накшталт OAS. Апошнія з дапамогай тэрору хацелі пакараць прэзідэнта і яго атачэнне за адмову працягваць вайну ў Алжыры. На гэты тэрор улада адказвала таксама тэрорам і гвалтам. Былі ў тым ліку факты расправ без судовых працэдур, што кідала цень на самога генерала і магло быць выкарыстана яго праціўнікамі.

Самую экстравагантную версію можна прачытаць у нямецкай правай прэсе. Там намякаюць, што Шарль дэ Голь пайшоў у адстаўку праз кампраметуючыя яго кантакты з... манархістамі. Маўляў, яго палітычныя апаненты даведаліся пра рандэву прэзідэнта з нашчадкамі дому Бурбонаў, падчас якіх абмяркоўвалі ідэю рэстаўрацыі ў краіне манархіі.

Зрэшты, усе пералічаныя версіі і канструкцыі дасюль з'яўляюцца, хутчэй за ўсё, толькі фантазіямі іх аўтараў. Таму давядзіцца прызнаць, што час ад часу сустракаюцца прэзідэнты з моцным этычным кодэксам, якія адчуваюць адказнасць перад грамадзянамі і не трымаюцца за ўладу ссінелымі пальцамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ахмет Абій



Прэм'ер-міністр Эфіопіі, мяркуючы па ўсім, працягне традыцыю па дыскрэдытацыі Нобелеўскай прэміі, якую ён атрымаў пару гадоў таму за заканчэнне вайны з Эрытрэяй. На пачатку тыдня Ахмет Абій даў сепаратыстам з Народнага фронту вызвалення Тыграя (TPLF) 72 гадзіны на тое, каб мірна здацца. У адваротным выпадку федэральныя войскі, як гаворыцца ва ўльтыматуме, прыменяць цяжкую артылерыю і танкі, каб узяць сталіцу Тыграя.

Прычым ні пра якія перамовы нобелеўскі лаўрэат слухаць не хоча. На любыя прапановы пасярэдніцтва Ахмет Абій адказвае жорсткай адмовай, сцвярджаючы, што кіраўнікі TPLF для яго — злачынцы, з якімі роўнага дыялогу быць не можа ў прынцыпе. Эфіопскі прэм'ер таксама не дапусціў да зоны канфлікту міжнародных назіральнікаў і праігнараваў заклік ЗША да перамоваў.

Хутчэй за ўсё, сталіцу сепаратыстам сапраўды давядзецца пакінуць. Але нават пры такім раскладзе цэнтральны ўрад можа не дасягнуць хуткай перамогі. Лідарам сепаратыстаў губляць ужо няма чаго. Яны могуць пайсці ў горы і пачаць партызанскую вайну, якая, з улікам этнічнага характару канфлікту, можа цягнуцца вельмі доўга. У доўгатэрміновай перспектыве такі сюжэт можа каштаваць цэнтру велізарных рэсурсаў і прывесці да страты інвестараў, якія раней змог прыцягнуць эфіопскі прэм'ер.

### Дзілшод Кенджаеў



Намеснік міністра народнай адукацыі Узбекістана дамогся прыняцця пастановы, якая абавязвае настаўнікаў і вучняў узбекскіх школ кожны дзень перад заняткамі спяваць дзяржаўны гімн.

І гэта яшчэ не ўсё. Намеснік міністра таксама хоча, каб на школьных перапынках дзеці спявалі песні і чыталі вершы пра радзіму. На думку чыноўніка, выкананне гімна, песень і вершаў у сярэдніх школах з'яўляецца «важным фактарам выхавання ў вучняў патрыятызму». Зрэшты, магчыма, што ён спрабуе дагадзіць кіраўніку краіны Шаўкату Мірзіёеву, які даўно кажа пра ролю музыкі ў адукацыйным працэсе, і нават неяк заклікаў увесці ў школах абавязковы прадмет — гранне на народных інструментах.

Ініцыятыва Кенджаева выглядае вельмі незвычайнай нават на фоне суседніх краінаў Цэнтральнай Азіі, дзе хапае дыктатараў-самадураў. Аднак нават у вельмі аўтарытарным Туркменістане вучні ўжо даўно не спяваюць гімн кожны дзень. Няма абавязковага выканання гімна ў школах Таджыкістана. Многіх простых узбекаў гэты факт абнадзейвае. Ужо калі ў гэтых, значна больш аўтарытарных краінах, ідэя выканання гімна правалілася, то ёсць падставы меркаваць, што і ва Узбекістане яна ціха сыдзе на нішто. Тым больш з-за пандэміі ва ўзбекскіх школах і так занадта шмат праблем, каб яшчэ і гімны спяваць.

### Юлія Навальная



Жонка вядомага расійскага апазіцыянера можа стаць кандыдаткай-альтэрнатывай на прэзідэнцкіх выбарах.

Гісторыя з атручваннем Навальнага і моцная прапагандысцкая кампанія Крамля супраць блогера, што выстаўляе яго агентам заходніх спецслужб, карэктуе планы антыпуцінскай апазіцыі. Да таго ж ёсць пагроза арышту Навальнага адразу пасля вяртання з Германіі, дзе ён цяпер знаходзіцца. Усё гэта, як піша нямецкае выданне Abendlich Hamburg, негатыўным чынам адбілася на палітычных перспектывах Навальнага ў Расіі. З гэтай прычыны цяпер у штабе апазіцыянера, маўляў, вырашылі зрабіць стаўку на Юлію Навальную — жонку Аляксея. Згаданае СМІ піша, што першым крокам новага лідара антыпуцінскай апазіцыі можа стаць кампанія ў Дзяржаўную Думу на выбарах у наступным годзе.

Сапраўды, Юлія Барысаўна Навальная (дзявочае прозвішча Абросімава), якая нарадзілася ў 1976 годзе, мае адукацыю эканаміста і з'яўляецца маці двух дзяцей, ніякай адмоўнай канатацыі ў грамадстве не выклікае. Праблема хіба ў тым, ці мае яна таленты і здольнасці, патрэбныя, каб прыцягнуць увагу выбаршчыкаў і весці выбарчую кампанію... Акрамя таго, як адзначаюць амаль усе каментатары, фігуру Юліі як лідара апазіцыі могуць аспрэчыць іншыя ўдзельнікі антыпуцінскага руху.


Сяргей ШАПРАН

« Працяг. Пачатак у N44

# «На падман вы мяне не штурхняце»

## Да 90-годдзя Уладзіміра Караткевіча

### «Прашу абмеркаваць мой раман»

Уладзімір Караткевіч пісаў у адным з лістоў: «Ад адной думкі, што можна зламацца, стаць кан'юктуршчыкам, робіцца страшна. А пісаць так, як пішу, — гэта нікому не патрэбна». У сваю чаргу, Рыгор Барадулін згадваў, што любімым выслоўем ягонага сябра было: «І коскі з месца не зрушу!» І што было рабіць аўтару «Каласоў...» з такімі прынцыпамі? Тым больш, што выказаныя абодвума рэцэнзентамі заўвагі зусім не выглядалі на проста заўвагі — з боку Льва Салаўя гэта былі патрабаванні, не іначай. Але пагадзіцца з імі для Караткевіча было непрымальна. Гэткім чынам узнікла тупіковая сітуацыя. І каб паспрабаваць вырашыць невырашальнае, Уладзімір Сямёнавіч напісаў заяву ў сакратарыят Саюза пісьменнікаў:

«Я здаў раман "Каласы пад сярпом тваім" у выдавецтва "Беларусь" два гады назад. Рэцэнзію на раман пісаў М. Лужанін. Некалькі месяцаў пасля таго я сядзеў над рукапісам, дапрацоўваючы яго.

Цяпер у выдавецтве з раманам зноў узніклі цяжкасці. Патрабуюць змяніць канцэпцыю (а яна ў мяне, лічу я, адпавядае эпосе, якую апісваю, норавам людзей, праўдзе аб паўстанні 1863–64 гг.), адсунуць на другі план галоўных герояў, прыпісаць сялянству тую ролю ў паўстанні, якую яно пачало адыгрываць значна пазней (аб чым будзе ў другой частцы рамана).

Прашу сакратарыят Саюза пісьменнікаў абмеркаваць мой раман і выказаць сваю непрадузятую думку аб ім, з тым, каб кончыць з гэтымі бясконцымі, неабгрунтаванымі затрымкамі».

Ужо ў той жа дзень сакратар праўлення СП БССР Іван Мележ (які, па сведчанні А. Мальдзіса, быў гарачым прыхільнікам гэтага абмеркавання) звярнуўся ў выдавецтва «Беларусь» з просьбай прадставіць не толькі рукапіс «Каласоў...», але і Лужанінскую рэцэнзію. Праўда, чакаць канчатковага вырашэння лёсу свайго рамана аўтару даводзілася досыць даўгавата — аб'яднанае пасяджэнне сакратарыята, секцый прозы і крытыкі адбылося толькі праз чатыры месяцы, 22 лютага 1967 года. Старшынстваваў на ім Іван Паўлавіч Мележ.

### Ультыматум

Добрае слова пра раман казалі практычна ўсе выступоўцы. Што ж датычыць хібаў «Каласоў...», дык, на думку першых прамоўцаў, яны былі не надта каб дужа істотныя. Як зазначыў навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Мікола Лобан, «ёсць і слабыя да наіўнасці раздзелы. А яны яшчэ, як правіла, бываюць расцягнутымі», таму некаторыя раздзелы «просяцца скараціць або зусім зняць». Аднак разам з тым М. Лобан не бачыў сур'ёзных прычын, каб не друкаваць раман.



Яшчэ больш аўтарытэтнай была пазіцыя навуковага супрацоўніка Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы Генадзя Кісялёва, які, будучы спецыялістам па апісанай у рамане эпосе, задаўся бадай што галоўным пытаннем: наколькі правільна адлюстроўвае гістарычныя падзеі Караткевіч?

«Усе вы, вядома, ведаеце, што гісторыкі да самага апошняга часу працягваюць спрачацца пра гэтыя падзеі, прычым спрачаюцца да таго, што нават не могуць дамовіцца, чым жа было паўстанне 1863 года, — гаварыў Г. Кісялёў. — Адны сцвярджалі, што гэта шляхецкае паўстанне, іншыя казалі, што сялянскае. [...] Мне прыйшлося падняць нямала матэрыялаў па паўстанню 1863 года [...], і я магу сказаць, што Уладзімір Караткевіч вельмі правільна разабраўся ва ўсіх складаных супярэчнасцях гэтай эпохі, якую ён малюе. Ён добра знаёмы з дакументамі, яму дапамагае ў многіх выпадках выдатная інтуіцыя мастака».

Зрэшты, першыя прамоўцы знаходзіліся ў пэўнай разгубленасці. Справа ў тым, што хоць раман чыталі ўсе прысутныя, аднак далёка не ўсе былі знаёмыя з рэцэнзіяй Лужаніна. Сам жа Аляксандр Амвросьевіч на сходзе не прысутнічаў. Таму пералом у абмеркаванні наступіў толькі пасля выступлення Льва Салаўя, які прыкрываўся Лужанінскай рэцэнзіяй як ахоўнай граматай. Невыпадкова Вячаслаў Адамчык заўважыў: «Мне здаецца, што рэдактар гэтага рамана не мае сваёй выразнай пазіцыі». Калі ж Салавей следам за Лужаніным казаў, што трэба было б пашырыць і ўмацаваць сялянскую лінію, дзеля чаго трэба «лакалізаваць непамерна шырокую не толькі па колькасці старонак лінію княжацкую», хтосьці з прысутных слушна запярэчыў: «Гэта новы раман трэба пісаць».

Наогул, толькі двойчы Леў Антонавіч сказаў нешта ад сябе. Так, да прыкладу, калі Караткевіч заўважыў, што скарацію раман на чвэрць, Салавей парываў: «Але гэта вельмі вялікі раман, і ён значна перавышае планавы аб'ём». І другім разам: «Трэба яшчэ раз прачытаць твор, паставіць мастацкія акцэнты. Валодзя Караткевіч, калі гэтыя акцэнты пастаўлены не будуць, дык раман выдавацца не будзе».

Гэта быў ультыматум. Не асабіста рэдактара выдавецтва «Беларусь» Льва Салаўя, канешне, а ведамства Захара Матузава, а калі быць дакладным, дык ультыматум таго, хто быў вышэй за Матузава, а менавіта сакратара ЦК КПБ па пытаннях ідэалогіі Станіслава Пілатовіча. Гэта на ім, паводле сцвярджэння Адама Мальдзіса, была ў вялікай ступені віна за цкаванне аўтара «Каласоў...», бо гэта найперш Пілатовіч выступіў супраць выдання рамана асобнай кніжкай. І нельга выключаць, што гэта менавіта з ягонай ініцыятывы з'явілася ў «Советской Белоруссии» разгромная рэцэнзія Я. Герцовіча, якая і дала пачатак усёй гэтай антыраманнай кампаніі. І гэта паводле ўказання Пілатовіча ў «ЛіМе» ў 1969 годзе быў дадзены адпор эсэ Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Прозвішча пісьменніка згадвалася ў той час у афіцыйных выступленнях як жупел ідэйнай заганнасці і ледзь не варожасці. Хоць, па словах Мальдзіса, Караткевіч быў першы, хто адкрыта казаў, што меліярацыя вядзецца на Палессі па-варварску, і хто, прадбачачы экалагічныя крызісы, пачаў біць у званы. Эсэ «Званы ў прадоннях азёр» выклікала рэзкую крытыку ў партыйным друку, а Пілатовіч, абвінавачваючы аўтара ў тым, што ён не ўбачыў на Палессі нічога новага, заявіў, што той хоча стварыць з палешукоў «рэзервацыю». «Я помню, як горка рыдаў Караткевіч, калі даведаўся, што Пілатовіч даў каманду зганьбіць эсэ, — прыгадваў Адам Мальдзіс. — Валодзя ніколі нн быў помслівы, але тут сказаў на адрас Пілатовіча: "Хай у яго будзе такі лёс, які ён заслугоўвае"».

І сапраўды, жыццёвы фінал былога ідэолага незайздросны: Пілатовіч скончыў жыццё самагубствам — застрэліўся. Але памёр не адразу, а колькі дзён яшчэ пакутаваў. Хавалі яго, былога члена ЦК КПСС і пасла СССР у Польшчы, ціха — без дзяржаўных ушанаванняў і некралогаў. Нават абвесткі ў газеце не было.

### Прароцтва Адамовіча

Аднак вернемся да аб'яднанага пасяджэння. Пасля выступлення рэцэнзента Салаўя ўсё паўстала на свае месцы — было відавочна, што хто б з пісьменнікаў што далей ні казаў, гэта ні на што ўжо не паўплывае — раман усё адно выдадзены не будзе.

З гэтага і пачаў сваё выступленне Алесь Адамовіч, які зусім нядаўна адмовіўся падпісаць калектыўны ліст супраць Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля, якія выдалі за мяжой «антысавецкія» творы, і ў выніку вымушаны быў звольніцца з Маскоўскага ўніверсітэта і вярнуцца ў Мінск: «Мы — тыя, што сабраліся тут, хацелі б не проста скалынаць паветра, абмяркоўваючы раман і даючы яму ацэнкі, каб выдавецтва потым, як заўсёды, наплявала на нашы размовы і, як заўсёды, зрабіла так, як яно захоча. [...]

Гаворка ідзе не пра адну кнігу, а пра ўсю творчасць Валодзі Караткевіча. Кожны з нас можа перастаць пісаць, і ў адным выпадку гэта будзе вялікая шкода, у іншым меншая, але калі Караткевіч кіне пісаць — гэта будзе незаменная страта для беларускай літаратуры.

**«Гаворка ідзе не пра адну кнігу, а пра ўсю творчасць Валодзі Караткевіча. Кожны з нас можа перастаць пісаць, і ў адным выпадку гэта будзе вялікая шкода, у іншым меншая, але калі Караткевіч кіне пісаць — гэта будзе незаменная страта для беларускай літаратуры»**

Караткевіч робіць тую справу, якую мы ўсе, хто сабраўся тут, не можам рабіць, бо з'явіўся ў Беларусі чалавек, які заняўся ўсур'ёз тым, што рабіў у Англіі Вальтэр Скот, у Расіі — Лажэчнікаў і Загоскін».

І, нарэшце, несуцяшальны прагноз Адамовіча: «Я ўпэўнены, што раман Караткевіча не будзе выдадзены ў найбліжэйшыя пяць гадоў, нягледзячы на ўсе нашы размовы. Ён не будзе выдадзены таму, што Саюз [пісьменнікаў] для нашага выдавецтва — гэта арганізацыя, якая чамусьці піша нейкія кнігі, якія трэба чамусьці выдаваць...»

У сваю чаргу, меркаванне былога рэпрэсаванага, сталага і паважанага пісьменніка Янкі Скрыгана прагучала нечаканым дысанансам: на ягоную думку, Караткевіч не толькі не ў меру захапляецца другарадным, але і ігнаруе пэўныя акцэнты. «Ёсць жа яшчэ палітычны погляд на гэтыя рэчы, а яны ў рамане вельмі склізкія, напрыклад, пра гістарычную місію беларусаў, — зазначыў Янка Скрыган. — Чытаецца падтэкст так, што беларуская нацыя вышэй другіх нацый. У рамане гэта ёсць». — «Сорамна так гаварыць, гэта палітычны данос з трыбуны, — запярэчыў Караткевіч і ў адказ на заўвагу Мележа: «Паважайце прамоўцу!» дадаў: — Такога прамоўцу паважаць нельга». Аднак трэба сказаць, што словы Янкі Скрыгана былі адзіным выключэннем у гэтым сэнсе і ніяк не стасаваліся з тым, што казалі іншыя:

«...У нашай літаратуры ёсць той недахоп, што мы паказваем свайго чалавека неяк прыніжана. Тут справа ідзе аб тым, каб узняць нашага чалавека. Такія спробы ўзняць нашага чалавека, беларуса, ужо зроблены ў "Птушках і гнёздах". Можа быць, такая спроба ўзняць чалавека, беларускага чалавека, ёсць і ў Караткевіча. Вось, скажам, Міхаіл Шолахаў вельмі ўзнімае свайго чалавека, а мы чамусьці яго некалькі прыніжаем» (Вячаслаў Адамчык).

«...Па прыродзе таленту Караткевіч выключны рамантык. Гэта божы дар, з якім ён прыйшоў у літаратару і робіць тое, што ніхто не рабіў да яго ў беларускай літаратуры. Тое, што піша Караткевіч, гэта не раман у гістарычным жанры, а рамантызацыя гістарычнай хронікі. І толькі так трэба падыходзіць да рамана. [...] Відаць, Караткевіч не перапрацуе раман у тым плане, калі яшчэ некалькі сямей сялянскіх увядзе, і я не ведаю, ці патрэбна гэта рабіць» (Іван Навуменка).

«Я таксама не зусім разумею, што такое хроніка князёў Загорскіх. Не павінна быць ні хронікі сялян, ні хронікі князёў Загорскіх. [...] Правільная заўвага наконт таго, як падаецца натоўп, але там няма тых людзей, якіх мы ведалі б. Аднак цяпер усё гэта перакантоўваць — гэта азначала б пісаць усё ўноў. Мне здаецца, што гэта было б не зусім разумна» (Алесь Асіпенка).

«Не зразумела, чаму мы не лічымся з задумай самога аўтара, з тэмай аўтара» (Ніл Гілевіч).

Заканчэнне ў наступным нумары

# Футбольныя і не толькі пытанні лістапада

Сяргей КАЙКО

**Да сканчэння футбольнага сезона застаецца адзін дзень. У суботу ў сямі гарадах краіны адбудуцца матчы апошняга, 30-га, тура нацыянальнага чэмпіянату, пасля чаго стадыёны закрыюць на зіму.**

Гэта ў беларускага пратэснага руху няма ні пачатку, ні канца — ні добрага, ні дрэннага надвор'я. Футбольнае першынство, як санкцыянаванае мерапрыемства, стартуе і фінішуе строга па графіку.

Галоўнае пытанне, што застаецца адкрытым, фармулюецца коратка, як слоган «Жыве Беларусь». Хто гэтым разам стане чэмпіёнам краіны? Пытанне не галоўнае, але таксама цікавае, — хто атрымае бронзавыя медалі, а з імі — і квіток у Лігу Еўропы на наступны год? Напярэдадні чарговага нядзельнага маршу не прапусціце футбольную суботу. Тут вас не будуць пакаваць па артыкуле 23.34, не будуць частаваць дручкамі па філейных частках і ганяць «ва ўсю моц» па дварах і пад'ездах. Але дзень таксама мусіць напоўніцца адрэналінам і відовішчамі, якія забудуцца яшчэ не хутка.

## Павярнуўся — праехаў у пастарунак

Зрэшты, наконт пакавання ў эпічныя бусікі — гэта яшчэ як пашанцуе. Напрыклад, у мінулую нядзелю ў патрыярхальнай Гарадзеі некалькі чалавек вырашылі праверыць сістэму на пільнасць — і сістэма не спасавала. Перад пачаткам матча перадапошняга тура з брэсцкім «Дынама», калі зайграў дзяржаўны гімн, заўзятары павярнуліся спінай да поля і заклалі рукі за галаву, нібыта затрыманыя ў тэрытарыяльным РУУС.

Затрыманымі яны неадкладна і сталі. Пільныя людзі ў пагонах звезлі хлопцаў у нясвіжскі пастарунак, дзе, аднак, іх не пакінулі начаваць. Выклікалі на наступны дзень па пазове — і пасля прафілактычнай гутаркі адпусцілі з мірам, і нават пратаколы не склалі. Гульні мужчыны не ўбачылі, але і тое, што не былі пасаджаныя на колькі дзён на казённыя харчы, ужо добра. І на тым дзякуй, як кажуць.

Брэст, дарэчы, выйграў той матч, прычым буйна — 4:1, аднак плёну з таго — як з казла малака і кефіру. Песня «Дынама» ўжо захлынулася — чэмпіёнскі тытул каманда не абараніла. З гэтым яшчэ можна было б неяк жыць, бо з кім не бывае. Аднак жа справа ў тым, што пытанне жыцця наогул перад клубам зімой можа паўстаць ва ўсёй страшэннай вастрыні.

Чуткі пра тое, што гаспадар «Дынама» — набліжаны да ўладаў бізнесовец Аляксандр Зайцаў, — паступова страчвае інтарэс да даражэзнага праекта, луналі ў нашым футбольным соцыуме ўвесь год. На тыдні ж яны набылі красамоўную інфернальную канкрэтыку. Медыя паведамілі, што бліжэйшым часам клуб страціць дзіцяча-юнацкі падмурак — акадэмію, створаную якраз па ініцыятыве Зайцава.

Планы на ўласную футбольную школу былі грандыёзныя: зрабіць з часам так, каб «Дынама» абапіралася на сваіх гадаванцаў, як які-небудзь галандскі «Аякс». І тым самым падкрэслівала сваю аўтэнтычнасць — і, што важна, абыходзілася без буйных выдаткаў на легіянераў. У акадэмію ўбухалі шмат грошай, стварылі філіі ў іншых рэгіёнах — і тут раптам вось такі пшык. Як прадвеснік таго, што ў будучым годзе чэмпіён–2019 — той самы, што раскідваўся грашыма налева і направа, запрашаў да сябе Марадону і лётаў на гасцявыя гульні самалётам, — вернецца да існавання на падножным корме. Як у дазайцаўскія часы, калі ў «Дынама», здаралася, не знаходзілася сродкаў на 3G-мадэм для анлайн-трансляцый.

Што ж будзе з дынамаўскай акадэміяй? Гэты сцэнар таксама, хай і неафіцыйна — агучаны. Нібыта яна пяройдзе да другой брэсцкай каманды — «Руха», якой Зайцаў апякуецца паралельна і негалосна.

## БАТЭ ці «Шахцёр»?

Між тым, «Рух» гуляў у мінулым туры з «Шахцёрам». І, саслабелы ад каронавіруса (у камандзе з кавідам шмат гульцоў), аддаў салігорцам перамогу. Занадта радавацца гарнякам не давялося, бо перамог і БАТЭ — разнёс ушчэнт «Белшыну», якая разам са «Смалявічамі» корпаецца ўнізе табліцы і ў наступным сезоне будзе барахтацца ў другім дывізіёне.

Лідары выйгралі — і адклалі вырашэнне «залатога» пытання на апошні гульнявы дзень. Гэта будзе кульмінацыя чэмпіянату, і проста цяпер аддаць камусьці перавагу немагчыма.

Так, інтрыга шугае агнём, і адно ачко гандыкапа аніяк не супакойвае Барысаў. Яму патрэбна перамагаць, аднак змагацца давядзецца не са здыхляком з іншай вагавой катэгорыі. На гарызонце ў БАТЭ мінскае «Дынама» — тое самае, што напрыканцы сезона дае дразда і захоўвае шанцы на трэцяе месца. Да таго ж, гэта вядомае беларускае «класіка», вынік якога ніколі нельга прадказаць. У першым крузе, напрыклад, дынамаўцы ў Барысаве ўпэўнена раскалашмацілі гаспадароў і перамаглі 2:0. Што перашкаджае паўтарыць тое ж самае заўтра на галоўным стадыёне краіны? Ці хаця б згуляць унічыю, што для БАТЭ таксама стане катастрофай.

Бо ў «Шахцёра» фініш непараўнальна больш просты. У сваім родным Салігорску раскурочыць «Мінск», які ўсе свае задачы ў гэтым годзе вырашыў, — хіба бінам Ньютана для суіскальніка чэмпіёнскага тытула? Хаця гарантаваць, канешне, нічога нельга. Салігорцы — якраз з той пароды каманд, якія могуць, даруйце, накласці ў порткі ў самы непадыходзячы момант. Бо кішка тонкая — і яна не раз ужо падводзіла, так што ўсё можа здарыцца і заўтра ў Салігорску.


Фота www.pressball.by

Старшыня БФФ Уладзімір Базанаў: год нявырашаных задач

Што да бронзавых медалёў, то яны спакушаюць адразу чатырох — «Нёман», «Тарпеда»-БелАЗ і абодва «Дынама». Тут закрутка такая, што без паўлітровай шклянкі не разбярэшся. Само па сабе сенсацыйна тое, што на ўзнагароды да апошняга прэтэндуюць Гродна і Жодзіна. Бо на пачатку сезона здавалася, што шанцы гэтых каманд на п'едэстал прыкладна такія ж, як у Ганны Канапацкай выйграць прэзідэнцкія выбары. Але ж глядзі ты — яны здолелі. І ў суботу будуць біцца адчайна, бо іншай магчымасці ўвайсці ў гісторыю можа не быць.

Ключавая падзея ў гэтай інтрызе — бітва ў Брэсце, дзе супраць «Дынама» выйдзе «Нёман». Аднак і тарпедаўцам будзе не соладка — ім ехаць у Віцебск, дзе нікому не бывае лёгка.

## Хто адкажа за правалы?

Тым часам, нягледзячы на адкрытыя пытанні, ужо можна рабіць несуцяшальныя высновы. Хто б ні выйграў чэмпіянат, стратэгічна сітуацыю ў беларускім футболе гэта не зменіць. А сітуацыя гаротная — год адыходзіць у гісторыю пад пахавальны марш Шапэна. Куды ні кінь, усюды клін — і правал за правалам.

«Новы Час» пра гэта ўжо пісаў. І што нацыянальная зборная, маркотна саступіўшы ў Тбілісі, страціла рэальны шанец патрапіць на чэмпіянат Еўропы. І пасля нават не знайшла суцяшэння ў Лізе нацый, дзе таксама «зліла» рашаючы матч. І што клубы сінхронна — і недапушчальна рана (за ўмоўным выключэннем брэсцкага «Дынама») — павыляталі з еўракубкаў, як той корак з бутэлькі сідру. І маладзёжная зборная свой адборачны турнір ушчэнт завяліла. І ў стасунках з каронавірусам не хапала паслядоўнасці і зашкальвала колькасць кідання з крайнасці ў крайнасць. І суддзі традыцыйна шкодзілі, узрываючы футбольны соцыум скандальнымі памылкамі ў прынцыповых гульнях...

І ў тым соцыуме, дарэчы, спакваля размылася элементарная прафесійная салідарнасць і карпаратыўная этыка. Бо, з аднаго боку, клубы, а з другой — федэрацыя, што чамусьці вырашыла кіраваць метадамі безапеляцыйнага дыктату. Вось да яе — федэрацыі — бадай, і назапасіліся сур'ёзныя пытанні.

Адміністрацыя Уладзіміра Базанава прыйшла ў Дом футбола ў сакавіку мінулага года. Два сезоны мінулі з таго часу — і, мяркуючы, неяк не бачна зрухаў да лепшага. Таму пра адказнасць гаворка напрошваецца сама сабой. Урэшце менавіта новае кіраўніцтва аддала зборную ў рукі малавопытнага трэнера Міхаіла Мархеля, і з ім каманда са свістам праляцела міма ўсіх мэтаў і мараў.

Цяпер Мархеля з вялікай верагоднасцю адправяць у адстаўку. Але ці стане гэта ахвяра адзінай — і ці не патрапіць пад «скарачэнне штату» ўласна кіраўніцтва федэрацыі?

Канешне, у гэты момант такое пытанне гучыць заўчасна. Не кажучы пра тое, што фармальна камандоры БФФ падпарадкоўваюцца не дзяржаве, а УЕФА, і іх выбарныя паўнамоцтвы заканчваюцца толькі ў 2023 годзе. Але ў нашых епархіях, вядома, свае статуты — і часта дастаткова красамоўнага намёку зверху, каб тэктанічныя кадравыя працэсы распачаліся нібыта самі па сабе.

Зразумела, там, наверсе, няма задавальнення ад таго, што футбол не толькі не здолеў стаць опіумам для народа, а роўна наадварот. Заўзятары сваіх «футбалёраў» крыюць на чым свет стаіць, ці ўвогуле страцілі да іх усялякі інтарэс. І калі раптам Лукашэнка вырашыць «пертрахнуць» Дом футбола, то гэта дакладна будзе папулярны крок, які беларуская тарсіда ўхваліць.

Зрэшты, зараз яму наўрад ці да футбола — бо звонку ціснуць санкцыямі, а знутры пратэстамі, якія не спыняюцца ўжо больш за тры месяцы. Аднак нешта ўсё ж падказвае: напрыканцы года ў аўгіевы футбольныя канюшні можа завітаць буйная і прадстаўнічая рэвізія.

## Чэмпіянат Беларусі

**Вынікі 29-га тура. 22.11.** СМАЛЯВІЧЫ — СЛАВІЯ (Мазыр) — 0:3 (Слюсар, 5, Тлупаў, 90, Жаўнераў, 92+, аўтагол). БАТЭ (Барысаў) — БЕЛШЫНА (Бабруйск) — 5:0 (Мукам, 39, Скавыш, 56, з пенальці, 57, Няхайчык, 73, Міліч, 91+). ГАРАДЗЕЯ — ДЫНАМА (Брэст) — 1:4 (Сайчыч, 53 — Гардзейчук, 50, Лапцеў, 64, Мілеўскі, 79, Наёк, 90). НЁМАН (Гродна) — СЛУЦК — 1:0 (Кадзімян, 29). МІНСК — ВІЦЕБСК — 2:2 (Еўдакімаў, 6, Ал.Васільеў, 17 — Клапоцкі, 43, Чарвякоў, 92+). РУХ (Брэст) — ШАХЦЁР (Салігорск) — 1:2 (Садоўскі, 14 — Анціч, 8, Архіпаў, 21). ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — ДЫНАМА (Мінск) — 2:3 (Бакіч, 11, 48 — Клімовіч, 8, 13, Шыкаўка, 41, з пенальці). ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:0 (Анцілеўскі, 45, з пенальці, Габоўда, 60).

**30-ты тур. 28.11.** Славія — Энергетык-БДУ, Дынама Бр. — Нёман, Іслач — Гарадзея, Дынама Мн. — БАТЭ, Віцебск — Тарпеда-БелАЗ, Шахцёр — Мінск, Белшына — Рух, Слуцк — Смалявічы.

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА**

| | | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ | 29 | 17 | 6 | 6 | 65-32 | 57 |
| 2. | Шахцёр | 29 | 16 | 8 | 5 | 53-19 | 56 |
| 3. | Нёман | 29 | 16 | 5 | 8 | 40-26 | 53 |
| 4. | Тарпеда-БелАЗ | 29 | 15 | 8 | 6 | 52-35 | 53 |
| 5. | Дынама Бр. | 29 | 16 | 3 | 10 | 60-39 | 51 |
| 6. | Дынама Мн. | 29 | 16 | 3 | 10 | 38-25 | 51 |
| 7. | Іслач | 29 | 13 | 5 | 11 | 45-44 | 44 |
| 8. | Рух | 29 | 10 | 11 | 8 | 50-35 | 41 |
| 9. | Энергетык-БДУ | 29 | 11 | 5 | 13 | 42-44 | 38 |
| 10. | Мінск | 29 | 11 | 5 | 13 | 43-53 | 38 |
| 11. | Славія | 29 | 9 | 9 | 11 | 39-48 | 36 |
| 12. | Віцебск | 29 | 8 | 12 | 9 | 28-35 | 36 |
| 13. | Гарадзея | 29 | 8 | 6 | 15 | 28-46 | 30 |
| 14. | Слуцк | 29 | 8 | 3 | 18 | 31-55 | 27 |
| 15. | Белшына | 29 | 5 | 6 | 18 | 31-64 | 21 |
| 16. | Смалявічы | 29 | 3 | 5 | 21 | 27-72 | 14 |

# «Мы адчуваем віну перад дзецьмі і ўнукамі»

**Ужо амаль два месяцы кожны панядзелак у любое надвор'е тысячы пенсіянераў выходзяць на маршы — Маршы Мудрасці.**

Гэта ж як трэба давесці людзей, каб бабулі і дзядулі выйшлі на вуліцы не патрабаваць падвышэння пенсіі ці льготных рэцэптаў, не за тое, каб бясплатна ездзіць у грамадскім транспарце ці мець магчымасць набываць сабе неабходныя рэчы. Тысячы пенсіянераў два месяцы, штопанядзелак выходзяць на вуліцы, каб здабыць годнае жыццё сваім дзецям і ўнукам.

— Справа не ў пенсіі! Наша пакаленне прывяло Лукашэнку да ўлады, за гэта мы адчуваем віну перад сваімі дзецьмі і ўнукамі. Мы вінаватыя, што ўсе гэтыя 26 гадоў маўчалі. Мы ніколі не даруем уладам усё тое, што адбывалася ў першыя дні на Акрэсціна пасля выбараў. Мы за тое, каб мы мелі свае правы як грамадзяне Беларусі! А нас кожны раз топчуць за нашы правы, мы больш гэтага цярпець не можам. Мы хочам, каб нашы дзеці жылі ў свабоднай і цудоўнай Беларусі, таму мы выходзім на вуліцы, — сказала адна з жанчын на Маршы 5 кастрычніка.

Іх труцілі газам, разганялі і затрымлівалі, але яны выходзяць. Дзякуй вам, нашы дарагія! Дзякуй і нізкі паклон. Беражыце сябе!

Вось яны — восем Маршаў Мудрасці. Восем адчайных выклікаў сістэме.



**Марш 2 лістапада.** Фота НЧ


**Марш 9 лістапада.** Фота tut.by



**Марш 19 кастрычніка.** Фота tut.by


**Марш мудрасці 16 лістапада.** Фота НЧ


**Марш 23 лістапада.** Фота tut.by


**Марш 12 катсрычніка.** Фота onliner.by


**Ммарш 26 кастрычніка.** Фота kuku.org



**Марш 5 кастрычніка.** Фота Нашай нівы

ВІЛЬНЮС РЭЛАКС ВІЛЬНЮС РЭЛАКС ВІЛЬНЮС РЭЛАКС ВІЛЬНЮС РЭЛАКС

ВІЛЬНЮС РЭЛАКС

ЗАПЛАНУЙ
СВАЕ БУДУЧЫЯ ПАДАРОЖЖЫ
ЎЖО ЦЯПЕР!

актыўны адпачынак
эксклюзіўныя прапановы
індывідуальны падыход

vilnius-relax.lt
tour@vilnius-relax.lt
+37067516062

www.pexels.com

ЗАТ "Правекта фабрыка"
г. Вільня, Літва

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1977

Падпісана да друку 26.10.2020. 8.00. Наклад 2300 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.